Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4676) 27 ліпеня 2012 г.

## *Думка пісьменніка*

# Вучыць на станоўчых прыкладах



Дзякуючы асноўнай прафесіі я маю шчаслівую магчымасць кожны дзень разважаць пра літаратурныя творы і адначасова пастаянна кантактаваць з будучым нацыі — моладдзю. Праўда, у апошні час не толькі задавальненне ад працы, але і ўсё большае недаўменне выклікаюць веды студэнтаў — не спецыяльныя, а агульнакультурнага плану. Можна пачуць, напрыклад, такое: "У савецкі час на дзяржаўным узроўні было забаронена апранацца ў яркае адзенне", "Крамлёўская сцяна таму чырвоная, што яе бальшавікі пафарбавалі, бо ім была ненавісная белакаменная Масква". Многія адказы — у сваім родзе шэдэўры па яўным глупстве. Але хіба маладыя ў тым вінаватыя? Гэта ж мы ім так выкладаем, а яны ўсяго толькі даводзяць нашы тэзісы да лагічнага пункту. У сваю чаргу, мы, настаўнікі, універсітэцкія выкладчыкі, наркатызуемся ад СМІ, дзе ні адна больш-менш значная інфармацыя не абыходзіцца без пляўка ў савецкае мінулае. Шакалы тузаюць мёртвага льва. Але і да сваіх калег у мяне прэтэнзіі не меншыя. Нядаўна на экзамене пачула: "Шолахаў — пісьменнік, які пісаў пра вёску, яскравы прадстаўнік сацыялістычнага рэалізму"; "Распуцін — пісьменнік савецкага афіцыёзу, у адрозненне ад пісьменнікаў-дысідэнтаў". Вось узровень успрымання вялікіх майстроў, творчасць якіх, безумоўна ж, нельга загнаць у рамкі нейкага аднаго напрамку, як і творчасць беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Падобнае выкладанне — тое самае вульгарызатарства, якое мы так гнеўна кляймім у дачыненні да савецкага літаратуразнаўства, толькі тут яно з адваротным знакам — на аснове антысаветызму.

Пастаяннае і выключна негатыўнае параўнанне з савецкім мінулым — дэструктыўны ідэалагічны шлях, які прыводзіць урэшце да таго тыпу міфалагічнага мыслення, плады якога ў студэнтаў я прыводзіла вышэй. Сусветна вядомыя кінарэжысёры С. Спілберг і Дж. Лукас не саромеліся прызнацца, што вучыліся на савецкіх фантастычных стужках. Японцы сцвярджаюць, што амаль поўнасцю запазычылі савецкую сістэму арганізацыі вытворчасці. Тысячы тэхналагічных рашэнняў, вынайдзеных у СССР, проста скрадзены і паспяхова выкарыстоўваюцца на Захадзе. Але засталося яшчэ не менш. Прагрэсіўны шлях — вывучэнне станоўчага вопыту мінулага. Не сакрэт, што капіталізм не стварыў нічога каштоўнага, а паразітуе на інфраструктуры, на заваяваннях савецкага часу, асабліва ў Расіі. Пастаянныя пляўкі ў мінулае знішчаюць гераічныя намаганні нашых продкаў, зводзяць да прымітыву той страшна складаны і трагічна вялікі час, але і нашаму часу зусім не дадаюць пазітыву. Таму хопіць тэлевізійнага ідыятызму і бруду, яго паўтарэння ў навучальных установах! Давайце браць з мінулага лепшае і вучыць моладзь на станоўчых прыкладах.

Тацціяна ШАМЯКІНА

---

**Юзаф Ігнацы Крашэўскі… Ён стаў легендай яшчэ пры жыцці, хваравіты сын пружанскага шляхціца перыяду ўваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, які распавёў пра годнасць, вартасць, нацыянальную індывідуальнасць і гістарычную самабытнасць свайго народа на старонках некалькіх соцень (!) напісаных ім кніг. І арэол гэтай легенды па прашэсці 200 гадоў пасля яго прыходу не пацьмянеў, але стаў яшчэ больш яркім і светлым.**

# Народжаны з пяром у руцэ



Ірына СЯДОВА

Юзаф Ігнацы Крашэўскі нарадзіўся ў блаславёным і праклятым 1812-м, пра які Адам Міцкевіч пісаў: "Народ доўга зваў яго годам ураджаю, а салдат — годам вайны". Дзіўна, але дзякуючы ваяўнічасці Напалеона Банапарта мы страцілі, а сталіца Польшчы атрымала ганаровае права называцца месцам нараджэння вялікага пісьменніка. Заклапочаны магчымым пачаткам ваенных дзеянняў, яго бацька, Ян Крашэўскі, паспяшаўся вывезці цяжарную жонку Соф'ю з радавога маёнтка Доўгае на Пружаншчыне ў Варшаву. Тут і з'явіўся на свет 28 ліпеня па старым стылі 1812 года, за тры дні да Гарадзечанскай бітвы, Юзаф Ігнацы. Тут, у парафіі Святога Крыжа, ён быў ахрышчаны 6 жніўня. Сям'я вярнулася ў Доўгае толькі пасля заканчэння вайны, гэта значыць, не раней вясны 1813-га.

Дзіця не вызначалася моцным здароўем. Ці не таму бабуля Ганна Мальская (яна ж хросная маці) неўзабаве павезла яго ў іншы бацькоўскі маёнтак — Раманова над Бугам на Валыні? Біёграфы не называюць адназначна год, але, пэўна, гэта было не раней 1820-га, калі Соф'я Крашэўская нарадзіла другога сына, Люцыяна. У Доўгае юнак вярнуўся толькі ў 1833-м, пасля вучобы ў пачатковай школе ў Бельску і гімназіях у Любліне і Свіслачы, паступлення ў Віленскі ўніверсітэт і закрыцця гэтай установы ў сувязі з Лістападаўскім паўстаннем 1830 — 1831 гг. Выхаваны ў лепшых шляхетных традыцыях, ён і сам прымаў удзел у антыўрадавых дзеяннях, некаторы час правёў у турме, быў асуджаны да адпраўкі ў дзейнае войска на Каўказ, але трапіў у турэмную бальніцу і адтуль вярнуўся ў бацькоўскі маёнтак.

"Маёнтак" — гучыць ганарова. Але давялося юнаку пасяліцца ў флігелі: у панскім доме, дзе падрасталі ўжо два яго браты і дзве сястры, было цесна. У пакойчыку флігеля якраз знайшлося месца для ложка і старых дакументаў, цэлы воз якіх Юзаф прывёз з Вільні: купіў выпадкова нейкую бібліятэку і корпаўся ў паперах, шукаючы каштоўныя сведчанні мінуўшчыны. Тут ён пачаў сур'ёзна займацца літаратурнай творчасцю. У гэты час з'явіліся яго працы пад уласным імем, а не падпісаныя, як самыя першыя, псеўданімам "Клеафас Фахунд Пастарнак". Вось гэтым нам сапраўды варта ганарыцца. Адна справа сказаць: "На Пружаншчыне быў маёнтак бацькі вялікага пісьменніка", і зусім іншае: "На Пружаншчыне ён адбыўся як пісьменнік".

Малады раманіст неўзабаве набывае неверагодную папулярнасць. У першую чаргу ў пекных паненак.

Дамы пераcталі бачыць забаву толькі ў паляваннях, куды іх залучалі мужы, балях і картачных пасьянсах. Шляхцянкі пры сустрэчах сталі абмяркоўваць не фасоны капялюшыкаў і рэцэпты сочыва, а "сорамна сказаць" — апошнія раманы Юзафа Крашэўскага! Дайшло да жудаснага: юныя паненкі пагарджалі кавалерамі, якія гэтых раманаў у вочы не бачылі. Давялося тым "падцягвацца" за жонкамі і нявестамі.

Крашэўскі стаў родапачынальнікам сямейна-бытавога, гістарычнага, краязнаўчага і містычнага польскага рамана. Да 50-годдзя творчай дзейнасці педагагічнае таварыства назвала яго сваім ганаровым членам. Падкрэслівалася, што ён адзін зрабіў у плане народнай асветы ў Царстве Польскім больш, чым усе школы, разам узятыя.

На жаль, большасць твораў нашага земляка дагэтуль застаецца недаступнай для беларусаў. На беларускую і рускую перакладзена ўсяго з дзясятак раманаў. А напісана колькі?

У першыя 20 гадоў літаратурнай дзейнасці (1829 — 1849) з-пад пяра Юзафа Крашэўскага выйшла 76 раманаў у 147 тамах, ці па 7 тамоў у год. За наступныя 20 гадоў — 112 раманаў у 171 томе (9 тамоў у год). У наступнае дзесяцігоддзе ён выдаў 131 раман у 181 томе — 1,5 — 2 тамы штомесяц! Усяго ж напісаў і выдаў больш як 600 тамоў — раманаў, аповесцей, п'ес, вершаў, даследаванняў, нарысаў, што адзначана, між іншым, у кнізе рэкордаў Гінеса.

Творы Крашэўскага і сёння не састарэлі. Так, некаторыя бытавыя калізіі сталі неактуальнымі, але гістарычныя раманы не здаюцца ні зацягнутымі, ні сумнымі. А падарожныя нарысы "Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы" чытаюцца з неверагоднай лёгкасцю.

Дарэчы, Юзаф Ігнацы быў не толькі пладавітым пісьменнікам. Пра шматгранныя інтарэсы гэтай асобы пісалася ўжо нямала. І пра яго гістарычныя і археалагічныя даследаванні, і пра пераклады старажытных філосафаў і паэтаў, і пра ілюстрацыі да ўласных кніг і маляванне наогул, і пра захапленне фатаграфіяй, якая толькі-толькі з'явілася, і пра рэдагаванне часопісаў. А яшчэ ён займаўся музыкай і драматургіяй, пэўны час нават узначальваў тэатр. Дададзім сюды актыўную грамадскую і палітычную дзейнасць, дапамогу эмігрантам з Расіі і Царства Польскага пасля падзей 1863 года, нават далёка небяспечнае абвінавачванне ў шпіянажы на карысць Францыі супраць Прусіі... І ўсё гэта адзін чалавек са слабым здароўем (сучаснікі ўспаміналі, што ён пастаянна быў прастуджаны, часта хварэў), які, ажаніўшыся, завёў ажно чацвярых дзяцей.

Цяпер яго назвалі б працаголікам. Тады — проста намалявалі шарж: чалавек з мноствам рук, якія адначасова пішуць, малююць, музіцыруюць. А ён яшчэ ў 1838 годзе пісаў: "Калі б мяне павінны былі ператварыць у камень, забіць, укрыжаваць ці голадам уморыць за мой цяжкі грэх — я пісаць павінен"...

Паводле выказванняў сучаснікаў, Крашэўскі быў "народжаны з пяром у руцэ". І таму ўсё жыццё заставаўся сапраўдным рыцарам пяра, адным з самых паспяховых аўтараў XIX стагоддзя. Гонару варта тое, што мы — яго землякі і спадчыннікі.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведаў Нясвіж у дзень урачыстага адкрыцця Нясвіжскага палаца пасля рэстаўрацыі. Пазітыўна ацаніўшы зробленае, Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што чатыры паркі, якія маюцца ў наваколлях палаца і таксама чакаюць аднаўлення, павінны быць такімі, як у мінулыя часы. Сустрэўшыся з прадстаўнікамі роду Радзівілаў, што таксама завіталі на адкрыццё Нясвіжскага палаца, Прэзідэнт прапанаваў ім прыязджаць часцей. А кіраўніцтва музея атрымала з рук Аляксандра Лукашэнкі пояс слуцкага тыпу, тканы шаўковай і срэбранай пазалочанай ніткай.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Ірыну Мірашнічэнку з юбілеем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што творчасць актрысы, прасякнутая гуманізмам і дабрынёй, аб'ядноўвае людзей.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванні родным і блізкім выдатнага савецкага і ўкраінскага акцёра, народнага артыста СССР Багдана Ступкі, які памёр у Кіеве на 71-м годзе жыцця. Багдан Ступка працаваў у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Івана Франко, зняўся больш як у 90 мастацкіх фільмах.

✔ Новая рэдакцыя Палажэння аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ забараняе выкарыстанне непрафесіяналамі металашукальнікаў. Гэта мера накіравана на абмежаванне дзейнасці так званых "чорных шукальнікаў". Пасля ўступлення палажэння ў сілу продаж металашукальнікаў у краіне будзе магчымы толькі асобам, якія маюць ліцэнзію на пошукавыя работы.

✔ Журы Адэскага кінафестывалю прызнала найлепшым фільмам "У тумане" Сяргея Лазніцы паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Раней гэты фільм перамог на кінафестывалі ў Ерэване, атрымаў гран-пры кінафестывалю імя Таркоўскага "Люстэрка" ў Іванаве і ўзнагароду кінакрытыкаў на фестывалі ў Канах. Стужка была знятая за 28 дзён у Латвіі. Гэта міжнародны кінапраект, адным з удзельнікаў якога з'яўляецца "Беларусьфільм".

✔ Беларуска-нямецкі дзіцячы мастацкі лагер адкрыўся ў Браслаўскім раёне каля вёскі Калеснікі. Юныя мастакі — выхаванцы дзіцячых мастацкіх школ і студый раёна і навучэнцы мастацкіх каледжаў з Германіі — будуць тут не толькі адпачываць, але і працаваць над эцюдамі, выконваць арт-інсталяцыі, навучацца новым выяўленчым тэхнікам. Вынікам стане сумесная выстаўка ў Браславе.

✔ На базе тэлерадыёкампаніі "Гомель" на частаце 103.7 у тэставым рэжыме пачала вяшчанне новая радыёстанцыя "Гомель плюс". Сарыентаваная на слухачоў старэйшага пакалення, яна стане трансліраваць шлягеры 70-х, 80-х і 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Таксама тут будуць выходзіць аналітычныя і навасныя праграмы.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Узаемная зацікаўленасць

**На гэтым тыдні адбылася рабочая сустрэча Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Аляксандра Канюка і старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, у якой таксама ўдзельнічалі намеснікі Генеральнага пракурора, начальнікі ўпраўленняў, кіраўнікі сакратарыята Генпракуратуры.**



*Генеральны пракурор Аляксандр Канюк уручае медаль Мікалаю Чаргінцу.*

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Тэма, якая ўзнімалася падчас сустрэчы, — адна з самых сур'ёзных і злабадзённых тэм сучаснасці — грамадскае супрацьстаянне крымінальнаму свету. Эканамічны крызіс, недахопы выхаваўчай сістэмы, страта духоўных арыенціраў і сямейных каштоўнасцей з'яўляюцца прычынамі павелічэння колькасці злачынцаў. І тут вельмі важна не толькі развіваць і ўмацоўваць сістэму пакаранняў, але ўсімі магчымымі сродкамі змагацца за людзей: і тых, хто ўжо аступіўся ў жыцці, і тых, перад кім у любы момант можа паўстаць спакуслівы выбар паміж сумленным жыццём і перспектывай "лёгкай нажывы".

Безумоўна, пісьменнікі могуць і павінны прыняць на сябе частку клопатаў па выхаванні суайчыннікаў пасродкам напісання яркіх цікавых кніг, сярод якіх асаблівае месца павінны заняць творы, скіраваныя на стварэнне прывабнага іміджу супрацоўнікаў праваахоўных органаў. У ходзе сустрэчы былі абмеркаваныя пытанні ўзаемадзеяння пракурорскіх работнікаў з пісьменнікамі ў мэтах павышэння прававой культуры грамадзян, умацавання законнасці і правапарадку. Суразмоўцы дамовіліся ў бліжэйшы час правесці сумесную калегію на тэму "Роля літаратуры ў выхаванні людзей, папярэджанні правапарушэнняў, барацьба са злачыннасцю". І гэта толькі першы крок.

Саюз пісьменнікаў мае вопыт супрацоўніцтва з цэлым шэрагам міністэрстваў і ведамстваў. Дамова аб сумеснай працы, заключаная з Генпракуратурай, адкрывае новыя перспектывы для беларускіх творцаў.

Падчас сустрэчы Аляксандр Канюк уручыў Мікалаю Чаргінцу медаль "90 год пракуратуры Рэспублікі Беларусь" і перадаў для Саюза пісьменнікаў памятны сувенір.

## Стасункі



*Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота ўручае дыплом Святлане Калкоўскай — кіраўніку народнай студыі "Раніца".*

# Наш агульны дом

**У Дзень Саюзнай дзяржавы на ХХІ Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прайшло душэўнае і маляўнічае свята дзяцінства — "Саюзная дзяржава — наш агульны дом".**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Уладзіміра Нікалайчыка**

Хлебам-соллю сустрэлі ў Віцебскай дзіцячай мастацкай школе № 1 шматлікіх гасцей удзельнікі творчага праекта — конкурсу малюнкаў. Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота азнаёміўся з выстаўкай лепшых работ юных творцаў, пахваліў іх за майстэрства і з задавальненнем пагутарыў з юнымі журналістамі газет "Зорька" і "Переходный возраст", якія нароўні з прафесіяналамі з салідных выданняў рыхтавалі падчас фэсту свае рэпартажы.

На вачах у прысутных выхаванцы студыі клуба "Юнікс" з Віцебскага дзяржаўнага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, нібы чараўнікі, стваралі з кавалачкаў скуры, тканіны і паперы вытанчаныя пано з сімволікай фестывалю. Усім прысутным вельмі спадабаліся сувенірныя лялькі-сяброўкі — Беларусачка і Расіяначка, вырабленыя выхаванцамі народнай студыі "Раніца" Шашкоўскай школы мастацтваў Стаўбцоўскага раёна.

— За праяўленае высокапрафесійнае майстэрства, арыгінальнасць, самабытнасць і актыўны ўдзел у конкурсе малюнкаў "Саюзная дзяржава — наш агульны дом" дыпломы і прызы Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы прысуджаны калектывам Віцебскай дзіцячай мастацкай школы № 1, студыі клуба "Юнікс" і народнай скульптурна-керамічнай студыі "Крынічка" Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі (г. Мінск), народнай студыі "Раніца" Шашкоўскай школы мастацтваў, народнай студыі "Творчая скарбонка" сталічнай школы № 200, студыі выяўленчага мастацтва "Цветик-семицветик", якая дзейнічае пры Сенніцкім цэнтры культуры Мінскага раёна, гуртка "Майстэрня" Цэнтра пазашкольнай работы "Золак" (г. Мінск), Віцебскага дзяржаўнага каледжа культуры і мастацтваў і беларуска-расійскаму калектыву юных мастакоў школы № 67 г. Мінска, — паведаміла галоўны рэдактар газеты "Зорька" Людміла Грамовіч.

Шчырае "Дзякуй!" неаднаразова гучала з вуснаў падлеткаў і дарослых у адрас арганізатараў гэтай адмысловай маштабнай прэзентацыі дзіцячай творчасці. Добрае пачынанне беларусаў падтрымалі расіяне, а ў наступным годзе да іх далучацца і ўкраінцы.

## З нагоды

# "Іканатэка" ў падарунак

**Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі была перададзена калекцыя кніг "Іканатэка Вальвазарыяна", якую стварыў славенскі навукоўца Янез Вальвазор.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Значнасць мерапрыемства можа быць зразумелая толькі пры звароце да гісторыі гэтай унікальнай калекцыі і асобы яе аўтара. Славенскі навукоўца, даследчык, пісьменнік, сябра Каралеўскага таварыства, Янез Вайкард Вальвазор (1641 — 1693) прысвяціў жыццё напісанню і выданню даследчых прац, збіранню рэдкіх кніг і гравюр, прысвечаных гісторыі Славеніі. "Іканатэка Вальвазарыяна" — частка яго калекцыі. Яна налічвае 18 тамоў (адзін з іх, чацвёрты, лічыцца страчаным з пачатку ХІХ стагоддзя) і змяшчае 7752 копіі навукова-даследчых прац, малюнкаў і замалёвак Альбрэхта Дзюрэра, Лукаса Кранаха і Жака Кало, а таксама іншых нямецкіх, аўстрыйскіх, галандскіх, фламандскіх, французскіх, італьянскіх, англійскіх майстроў XVI і XVII стагоддзяў. Гарадскія і сельскія пейзажы, карціны паўсядзённага жыцця і рэлігійныя сюжэты — усё гэта можна знайсці ва ўнікальным зборы кніг.

З нагоды 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Славеніяй кнігі былі перадзены ў НББ.

Мерапрыемства пачалося выступленнем намесніка міністра замежных спраў Беларусі Алены Купчынай. Яна зачытала віншавальны ліст міністра замежных спраў Беларусі Сяргея Мартынава да свайго калегі са Славеніі Карла Ержаўца. У ім падкрэслівалася, што наша краіна ўспрымае Славенію як партнёра ў Цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне. У сваю чаргу Ада Філіп-Сліўнік, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Славенія ў Расійскай Федэрацыі (па сумяшчальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь), зачытала ліст у адказ. На думку К. Ержаўца, за мінулыя 20 гадоў быў узведзены надзейны фундамент для ўсталявання трывалых сувязей паміж нашымі краінамі.

Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі звярнуў увагу на шэраг агульных момантаў у беларускай і славенскай гісторыі. Абодва народы былі вымушаны вырашаць пытанні захавання нацыянальнай самасвядомасці, культуры, яе ўключэння ў еўрапейскі культурны кантэкст.

Акадэмік Акадэміі навук і мастацтва Славеніі Бащьян Жэкш пазнаёміў прысутных з гісторыяй сваёй краіны і лёсам Янеза Вальвазора. У канцы жыцця навукоўца разарыўся і зрабіў спробу прадаць калекцыю. Але яна нікому не была патрэбна. На шчасце, "Іканатэку" набыў у сваю бібліятэку заграбскі епіскап (там арыгінал знаходзіцца дагэтуль). Цяпер Славенскі фонд Вальвазора пры фінансавай падтрымцы кампаніі Riko выпусціў факсімільнае выданне кніг, з якімі можа пазнаёміцца любы чытач.

*Літабсягі*

# Яшчэ адзін том — у серыю!

**Папулярную кніжную серыю "Асоба і час" выдавецтва "Чатыры чвэрці" папоўніў том, прысвечаны выдатнаму айчыннаму паэту Навуму Гальпяровічу. Вядомы творца прадстаўлены ў выданні не толькі лепшымі сваімі вершамі, але і прозай, публіцыстыкай, інтэрв'ю, успамінамі і фотаздымкамі розных гадоў з фотаальбома героя кнігі.**




**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Супрацоўніцтва выдавецтва "Чатыры чвэрці" з Навумам Якаўлевічам — даўняе. Упершыню дырэктар выдавецтва Ліліяна Анцух звярнулася да яго падчас падрыхтоўкі кнігі пра святую прападобную Еўфрасінню Полацкую.

— Палачанін і патрыёт свайго горада, ён, на наш погляд, проста не мог не натхніцца гэтым светлым вобразам. Мы былі ўпэўнены, што ў Гальпяровіча ёсць паэтычныя творы, прысвечаныя Святой Еўфрасінні, — узгадвае Ліліяна Фёдараўна. — І сапраўды, ён хутка прынёс нам выдатны верш, маленькі шэдэўр, яркі і глыбокі па сэнсе. Навум Якаўлевіч часта чытае яго цяпер са сцэны, выступаючы перад прыхільнікамі свайго таленту.

Пазней творца прапанаваў выдавецтву свой паэтычны зборнік "Голас і рэха", які атрымаў папулярнасць сярод аматараў сапраўднай паэзіі.

— Полацк, Полаччына — наогул унікальны рэгіён, які дарыў у мінулым і дорыць цяпер нам так шмат літаратурных талентаў. Мы з трапятаннем ставімся да духоўнай спадчыны Полацка і заўжды з цікавасцю да яго літаратурнай сучаснасці. Калі выдатная палачанка, паэтэса Надзея Салодкая, зрабіла пераклад на рускую мову вершаў Навума Якаўлевіча са зборніка "Голас і рэха", мы з радасцю выдалі і гэту версію кнігі, — прызнаецца дырэктар выдавецтва.

Заканамерным працягам супрацоўніцтва з творцам, якога недарэмна лічаць адной з яркіх постацей беларускай сучаснасці, стала выданне кнігі "Навум Гальпяровіч: На шляху да сябе". Хаця, трэба заўважыць, у серыі "Асоба і час" імя Навума Якаўлевіча ўжо згадвалася. Ён выступіў у якасці ўкладальніка кнігі, прысвечанай яшчэ аднаму знакамітаму земляку, пісьменніку-франтавіку Алесю Савіцкаму, да якога Гальпяровіч ставіцца як да добрага старэйшага сябра і настаўніка жыцця.

Выхад кнігі "Навум Гальпяровіч: На шляху да сябе" супаў з выдатнай падзеяй у жыцці паэта — наданнем яму звання "Ганаровы грамадзянін Наваполацка". У Наваполацку яна і была прадстаўлена ўпершыню. Безумоўна, прэзентацыі кнігі адбудуцца яшчэ і ў Полацку, і ў Мінску.

*Артлінія*

# Дакрануцца да сонца

**Кожная кветачка на яго нацюрмортах нясе ў сабе часцінку лета. У кожным яго пейзажы — усмешка сонца. Нават узяўшыся маляваць тлумную мінскую Прывакзальную плошчу ў смузе слотнага непагодлівага дня, ён гэты дзень і ўбачыць, і назаве не шэрым, а срэбным. Свежасць і глыбіня візуальных уражанняў, лірычнае светаўспрыманне, пазітыўны эмацыянальны настрой, уласцівыя "сонцаноснаму" жывапісу Васіля Пешкуна, прываблівають да яго творчасці многіх прыхільнікаў. І вернісаж мастака ў Доме Масквы стаўся заўважнай падзеяй летняга артжыцця.**


*Васіль Пешкун "Стары раён нашага горада".*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Васіль Пешкун да сваіх 34-х гадоў набыў даволі шырокую вядомасць: персанальныя выстаўкі праходзілі ў Бабруйску, Гомелі, Гродне, Мінску, Рэчыцы, у венгерскай сталіцы Будапешце, у расійскім Санкт-Пецярбургу, а работы ёсць у зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Музея сучаснага рускага мастацтва ў Джэрсі Сіці (ЗША), Пасольства Рэспублікі Беларусь у Венгрыі, у прыватных калекцыях на розных кантынентах. У 1999 г. паспяховы мастак быў стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, а ў 2008-м атрымаў узнагароду Міжнароднага фонду міру і згоды — медаль "Талент і прызванне".

Ураджэнец Гомеля, ён жыве ў Мінску (цяпер ужо таксама родным) і вельмі любіць падарожнічаць. У адрозненне ад большасці турыстаў, якія не выпускаюць з рук фотакамеру, Васіль Пешкун не расстаецца з эцюднікам. Захоплены вандроўнік пакідае на сваіх палотнах матывы сонечных балканскіх краявідаў, святынь Суздаля, рамантычнай піцерскай веліччы... Яго падарожныя ўражанні падсілкоўваюцца і штодня, калі, паблукаўшы па мінскіх вуліцах, мастак адкрые ў лабірынтах мегаполіса кранальны старасвецкі куток ці, зачараваны прыгажосцю ўрбаністычных будняў, затрымае крок у самым цэнтры сталіцы, каб занатаваць непаўторнасць радаснага адчування жыцця ў імклівых аблоках, плыні ракі, трапятkіх кронах дрэў, сілуэтах знаёмага гарадскога ландшафту.

Заўзятар пленэрнага жывапісу, ён любіць працаваць і над нацюрмортамі ў майстэрні: "рэжысіруе" прадметны свет, прадумвае ігру святла і ценю, агульны каларыт і колеравыя акцэнты. "Усе дарогі вядуць дадому", "Няма ў прыроды кепскага надвор'я", "Дакрануцца да сонца"... Назвы яго выставачных праектаў таксама характарызуюць творчую асобу Васіля Пешкуна, жывапіс якога поўніцца подыхам вольнага паветра, энергіяй жывой прыроды, іскрыцца імгненнямі любасці да роднай зямлі. Нібыта само сонца пакідае на яго палітры свой след.

*Повязі*

# … і пір да світання

**Так склалася, што ў Польшчы святкаванне кожнай гадавіны Грунвальдскай бітвы, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года і стала лёсавырашальнай у барацьбе Тэўтонскага ордэна і Рэчы Паспалітай, узведзена на ўзровень нацыянальнага свята.**


*Рыцар ордэна Тампліераў.*

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

Але і Беларусь не застаецца ўбаку. Так, у Музейным комплексе "Дудуткі" вось ужо чацвёрты раз прайшоў міжнародны фестываль славы беларускай зброі "Наш Грунвальд". Каб паказаць сябе ў пешым і конным турнірах, турніры лучнікаў, паўдзельнічаць у бугуртах, а таксама ў рэканструкцыі самай важнай бітвы Сярэднявечча, у "Дудутках" сабралася каля 350 сяброў клубаў гістарычнай рэканструкцыі з Беларусі, Расіі, Украіны і Літвы.

Сяргей Дзюкараў, дырэктар Музейнага комплексу "Дудуткі", падкрэсліў: "Маштабнасць фэсту год ад году толькі павялічваецца, ён становіцца не толькі брэндам нашага музейнага комплексу, але і краіны, бо фестываль наведвае шмат турыстаў. Натуральна, гэта садзейнічае павышэнню агульнага інтарэсу да гісторыі Беларусі". І сапраўды, падчас фэсту наведвальнікі мелі магчымасць пабачыць жыццё сярэднявечнага лагера, пастраляць з лука, прымерыць даспехі, пакаштаваць сярэднявечныя стравы, наведаць майстар-клас па фехтаванні ды пабачыць турніры, якія праходзілі па канонах XV стагоддзя.

Але не толькі гэта прываблівае рэканструктараў у "Дудуткі". Як заўважыў арганізатар фэсту, кіраўнік экстрым-тэатра "Berserk" Аляксандр Рак: "Большая частка ўдзельнікаў — нашы добрыя знаёмыя, яны ўжо неаднаразова наведваюцца ў "Дудуткі". Тут зручны лагер, ды і жорсткіх патрабаванняў да часавай суаднесенасці даспехаў няма — яны павінны адпавядаць канонам з XI да канца XV ст.".

Што да спецыяльных "бонусаў", даступных толькі ўдзельнікам, то ў ліку найбольш яркіх можна назваць пір, дзе галоўнай стравай быў смажаны кабан. У ліку адметнасцей сёлетняга фэсту можна назваць таксама канцэрт "Пір пасля бітвы". І хоць пір, які распачаўся ўвечары сярэднявечнай музыкай ад Cornucopia, "Старога Ольсы" і іншых гуртоў, завяршыўся толькі на світанні энергічнымі кампазіцыямі фолькпанк-каманды "Кашлаты Box", гледачы (а сярод іх былі і "воіны"-рэканструктары), здаецца, зусім не адчувалі стомы і засталіся цалкам задаволеныя ўбачаным і пачутым.

*З-пад пяра*

➤ У 1812 годзе ў Гродне мясцовыя лютэране правялі перабудову кірхі. Новае аблічча гэтай пратэстанцкай святыні сталася вырашаным у стылі неаготыкі. Да кірхі былі дабудаваны пастарскі дом і лютэранская школа… Пятнаццаць гадоў таму пасля доўгага забыцця ў ёй зноў пачаліся набажэнствы. Цяпер гэта — адзіная на тэрыторыі Беларусі дзейная кірха, якая тым не менш патрабуе сур'ёзнай рэканструкцыі. Да 200-годдзя цікавага помніка архітэктуры ўрад Германіі выдаткаваў на рэстаўрацыю кірхі 120 тысяч еўра. Завяршыць работы планецца да наступнага Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, які пройдзе ў 2014 годзе.

**Лізавета ШТЭРН**

➤ Да Года кнігі Кобрынская цэнтральная раённая бібліятэка прымеркавала фотаконкурс "Чалавек, які чытае". Прыняць удзел у творчым спаборніцтве маглі як аматары, так і прафесіянальныя фатографы. Самыя неверагодныя па тэхніцы выканання і кампазіцыйным вырашэнні здымкі былі прапанаваны для ацэнкі журы і наведвальнікам бібліятэкі.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

➤ Першая выстаўка работ маладой мастачкі Таццяны Павядайлы "Ищу в тебе я вдохновенье" адкрылася ў мастацкай галерэі "Вільнюс" сталічнай бібліятэкі № 18. Да асноўных жанраў, у якіх працуе мастачка, — пейзаж і нацюрморт — пагружаюць кожнага ў таямнічы свет прыгажосці беларускіх зямель. Любоў да малявання ў Таццяны з'явілася яшчэ ў дзяцінстве, аднак па прафесіі яна эканаміст. Дзверы мастацкай галерэі "Вільнюс" заўжды адчынены для людзей таленавітых, захопленых, яркіх. Таццяна — адна з іх.

**Вольга ШЫЛАК**

➤ Сёмы дзень народзінаў праекта "Посткросінг" святкавалі нядаўна аматары абмену паштоўкамі. На пачатку 2012 года толькі зарэгістраваных удзельнікаў гэтага руху было больш як трыста тысяч з 203 краін свету. Беларусь уваходзіць у дзясятку лідараў па колькасці посткросераў і адпраўленых паштовак. У многім спрые росту папулярнасці гэтага хобі ў нашай краіне кампанія "Postcard of dream", што спецыялізуецца на выпуску эксклюзіўных паштовак. Менавіта яна стала арганізатарам святочнага мерапрыемства, што адбылося ў АРТ Хостэл "Traveler" у Мінску. Любы жадаючы мог набыць незвычайную паштоўку і наведаць майстар-клас па вырабе ўласных паштовых картак.

**Вольга ПАЎЛЕНКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніцы ЛУК'ЯНЕНКІ Марыі Мікалаеўны і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# У ёй спраўджана ўсё

**Год кнігі крочыць па рэспубліцы. Разам з ім набліжаецца Дзень беларускага пісьменства. На гэту тэму мы гутарым з вядомым паэтам, лаўрэатам літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча, прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, камсамола Віцебшчыны і Беларускага саюза журналістаў, ганаровым членам СПБ Алегам Салтуком.**

Ілона КАВАЛЁВА

**— Алег Уладзіміравіч, не сакрэт, што ўжо не толькі пісьменнікі з кнігалюбамі, але і значная частка інтэлігенцыі заклапочана агрэсіўным наступствам камп'ютарных тэхналогій на кнігу як на духоўную субстанцыю.**

— На маю думку, кніга была, ёсць і будзе. У Бібліі на гэты конт сказана, што слова нам дадзена ад Бога. Дарэчы, той, хто яе не чытаў, страціў вельмі многа, бо ў ёй спраўджана амаль усё. Значыць, чытаць трэба. Вось на словах "чытаць трэба" круг і замыкаецца. І не варта прыдумляць нейкія тэсты, адзіныя экзамены для школьнікаў і студэнтаў, зноў жа віртуальныя па сваёй сутнасці, а вучыць і вучыцца па кніжках і кніжных падручніках, выверанах і вымераных вялікім часам і чалавечым вопытам, каб потым не наракаць, маўляў, не такія мы, як трэба...

А для мяне кніга — і лепшы сябар, і лепшы настаўнік, і лепшы спадарожнік у жыцці. Мае адносіны да яе не мяняюцца і не зменяцца ніколі. Праўда, пры ўмове, што гэта не чытво, якім сёння спрэс загрувашчаны кнігарні, аўтары якога апантана шчэмяцца на тэлеэкраны, старонкі перыядычнага друку, усімі праўдамі і няпраўдамі імкнуцца дабіцца нейкіх літаратурных узнагарод і робяць выгляд, што апрача іх больш не існуюць ні Пушкін, ні Талстой, ні Шолахаў: літаратурны снабізм і літаратурнае плебейства разам!

Прагрэс жа — працэс заканамерны. Толькі б ён у рэшце рэшт не знішчыў сам сябе і ўсё жывое, а галоўнае — нашу з вамі душу, мову, без якіх мы не людзі, а істоты ў поўным сэнсе сказанага. Робаты ж, як з'едліва, але вельмі трапна заўважыў Ежы Лец, будуць думаць за нас так, як электрычныя крэслы за смяротнікаў...

**— Ці задавальняе вас, чалавека, выхаванага на класіцы, сучасная літаратура, беларуская ў прыватнасці?**

— Станоўча або адмоўна адказаць на пытанне немагчыма, бо нельга ахапіць неабдымнае. Уся беларуская класічная літаратура даказала свету сваю жыццяздольнасць.

А цяпер — пра маладую нашу паэзію, безумоўна, таленавітую ў сваёй большасці. Толькі мяне бянтэжыць адно — нейкае незразумелае імкненне некаторых яе прадстаўнікоў раўняцца, ці што, на ўзоры, скажам, лацінаамерыканскія, арабскія, японскія, заходнееўрапейскія і г.д. Атрымліваецца пшык: адрываюцца ад сваёй зямлі, не дастаўшы жаданага неба. Так што не раіў бы маладым шукаць чужую сякеру пад чужой лаўкай, а браць і вастрыць уласную пад сваю купалаўскую, куляшоўскую, пысінскую класіку... Мне імпануюць больш такія маладыя паэты, як, напрыклад, студэнтка БДУ Ірына Карэліна, што змясціла ў "ЛіМе" і "Маладосці" добрыя вершы на роднай мове ў строгай класічнай форме, вынашаныя і розумам, і душой. Зазначу: першыя свае версіфікатарскія спробы яна друкавала на рускай. Малайчына, што апамяталася і вярнулася да вытокаў. Ды і ад сваёй геннай памяці не ўцячэш: яна ў яе на Вушаччыне, дзе нарадзіліся і жывуць бабуля з дзедам.

**— Вы некаторы час працавалі ўласным карэспандэнтам абласной газеты "Віцебскі рабочы" ў Глыбокім, дзе сёлета адбудзецца наша галоўнае літаратурнае свята, і мелі дачыненне да стварэння мясцовага літаратурнага аб'яднання?**

— Прызнаюся, што на новае месца працы з рэдакцыі ўшацкай раённай газеты "Патрыёт" ехаў з нялёгкай душой, бо пакідаў родныя сцяжынкі маладосці, на якіх па сутнасці пачыналася мая журналістыка і літаратура, і само паветра там дыхала паэзіяй. А было тое ў сямідзясятых гадах — страшна сказаць — мінулага стагоддзя.

Газетчыкі — народ камунікабельны. Першым, з кім пазнаёміўся, быў рэдактар мясцовай раённай газеты "Шлях Перамогі" Віктар Пятрушын — чалавек вельмі інтэлігентны, адукаваны і разумны. Аказалася, што тут жывуць і пішуць цікавыя дзяўчаты і хлопцы. Тады ж Віктар Іванавіч і прапанаваў падумаць пра літаб'яднанне. І хутка "Далягляды" ўжо глядзелі ў будучыню, а на літстаронцы з аднайменнай назвай пачалі друкавацца маладыя аўтары. Наша агульнае дзіця аказалася здольным і жыццястойкім: сёння ў Глыбокім можна ствараць раённае аддзяленне Саюза пісьменнікаў.



Кажу пра сваіх сяброў і аднадумцаў са шчырай павагай і радасцю: хлеба з соллю з'едзена разам шмат, узнёслых тостаў у гонар Яе Вялікасці Паэзіі ўзнята таксама.

Уладзімір Сауліч — лаўрэат прэміі "Залатое пяро" ў галіне журналістыкі і рэспубліканскай літаратурнай прэміі "Залаты купідон" за кнігу нарысаў пра герояў нашага часу ад сярпа і молата, а не ад кінабаевікоў, эстрадная папсы і яшчэ невядома чаго! Паспяхова піша Валодзя і гумарыстычныя творы.

Алесь Жыгуноў — лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча, лаўрэат конкурсу Беларускага саюза журналістаў "Залатое пяро-2011" і "Залатога купідона", рамантык па прыродзе сваёй і пародзе. Гжэчная і летуценная Марыя Баравік — лірычная спявадальніца жаночага лёсу. Удумлівая, засяроджаная на ўсім родным, бацькоўскім, якое прывівае школьнікам, Ганна Зінкевіч.

Рана, на вялікі жаль, пайшлі з жыцця адметныя паэты Віталь Гарановіч і Тамаш Ляшонак.

З Глыбоччынай прама і апасродкавана звязаны літаратары Ірына Жарнасек, Тамара Чабан, Ян Пачопка, Алесь Дубровіч. А хто не глядзеў вядомы кінасерыял па рамане Т. Даленгі-Мастовіча "Знахар", не чытаў гістарычныя раманы рускага празаіка Леаніда Ракоўскага, не ўяўляў таямнічую і рамантычную Паўліну Мядзёлку, якія калісьці набіраліся тут моцы жыцця?

Асобнымі постацямі ўзвышаюцца перад усімі і над усімі слава і гонар Беларусі, бацька нацыянальнага тэатра Ігнат Буйніцкі, дзеяч беларускага Адраджэння Вацлаў Ластоўскі, самабытны мастак Язэп Драздовіч, народжаныя гэтай зямлёй.

Так што месца правядзення Дня беларускага пісьменства абрана невыпадкова.

**— Алег Уладзіміравіч, вы ўсё пра іншых творцаў, а пра сябе амаль нічога?**

— Адзіным і непераўзыдзеным нікім і ніколі творцам лічу таго, з каго пачалася наша размова. А мы да яго нават у вучні не прыдатны. Але давайце жыць і пісаць, раўняючыся на Бога і ўсё боскае — чыстае, высокае, вечнае.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства**

*Пуцявіны*

# Гаючы водар глыбінкі

**Ірына ТОРБІНА, фота аўтара**

**Спадчына Янкі Купалы — бясцэннае багацце, якое не дае нам забыцца, што ў "агромністай такой грамадзе" народаў свету былі, ёсць і будзем мы — беларусы. У цяжкі час адбывалася станаўленне паэта. Аднадумцаў-калег, тых, хто разам з ім верыў у будучае Беларусі, паэт вельмі любіў і цаніў іх адданасць.**

Адзін з гэтай кагорты нарадзіўся на Чашнічыне, у невялічкай вёсачцы Купніна, гадам раней за Купалу. Сёння вершы Івана Івашына (Янкі Журбы) вывучаюць у школе. А ў далёкі час, калі пазнаёміліся два Янкі, чашніцкі выкладаў у мясцовым народным вучылішчы і яшчэ толькі пракладваў сабе шлях у паэзію, пачаў друкавацца ў газеце "Наша ніва". Менавіта там у 1908 годзе працаваў Янка Купала. Іван Якаўлевіч вёў перапіску з Купалам, той з павагай ставіўся да творчасці нашага земляка. У шчырых лістах Журба неаднойчы запрашаў песняра да сябе ў госці, распавядаў пра маляўнічае ўзбярэжжа ракі Улы, непадалёк ад якой знаходзілася сядзіба Івашыных, пра сваіх сяброў. І вось у канцы лета 1912 года фурман прывёз Янку Купалу ў Купніна.

Што спадзяваўся знайсці ў глухім куточку Чашнічыны народны пясняр? Зразумела, тое, што не можа даць нават самы прыгожы горад. Гаючы водар беларускай глыбінкі, цеплыню і шчырасць сэрцаў простых людзей, прыгажосць і веліч прыроды гэтых мясцін.

Даўно пайшлі з жыцця сведкі тых часоў, калі чашніцкая зямля прымала вялікага паэта. Але засталіся іх успаміны, што з вуснаў у вусны на працягу цэлага стагоддзя перадаюцца не толькі на Чашнічыне.

Памяць народная захавала і першы дзень гэтага візіту, і апошні. Пісьменнік Станіслаў Шушкевіч у сваім артыкуле "Падарожжа ў Купніна" распавядае: "Дарога ў Купніна выдалася нечакана цяжкай і доўгай, хаця мясціны ўражвалі сваёй прыгажосцю, радавалі вока рэчкі і азёрцы, бары і дубровы, курганы і каменні-волаты над рачнымі абрывамі. Янка Купала наняў рамізніка. Правёз ён свайго пасажыра вёрст сорак і параіў заначаваць у прыдарожнай карчме. Быў будні дзень, і яна пуставала. Карчмар даў невялікі пакойчык, прыгатаваў вячэру, а назаўтра дапамог знайсці фурмана, добра ведаў мясцовыя дарогі. Зноў ехалі з раніцы і аж да вечара. Вазніца сказаў, што яшчэ застаецца вёрст каля дваццаці, а ўжо добра сцямнела. Зноў давялося заначаваць у даволі заможным фальварку. А раніцай у дарогу. Дарэмна вазніца прарочыў вёрст дваццаць. Гадзіны праз дзве былі ўжо ў Купніна, у Журбы".



*Адзінае месца на Чашнічыне, дзе ўвекавечана памяць Янкі Журбы, — памятны камень ля дзіцячай бібліятэкі, якая носіць імя паэта.*

Успамінаюць, што, заехаўшы ў двор, павітаўшыся, Купала не стаў заходзіць у хату, а папрасіў вынесці яму ручнік. Накінуўшы яго на плечы, адправіўся на раку. Там ён доўга ўмываўся. А вярнуўшыся дахаты, адмовіўся ад сняданку, папрасіў месца ў павеці на сене, марыў гадзінку адпачыць. Пакуль госць адпачываў, гаспадар ухапіў сакваяж і пабег у Чашнікі. Наведаў краму і сваіх знаёмых — дырэктара Чашніцкага пачатковага вышэйшага вучылішча Фёдара Львова, майстра канала Ілью Андрэева і іншых, каб паведаміць ім пра прыезд Купалы. У гэты ж дзень на кватэры Журбы сабралася амаль уся мясцовая інтэлігенцыя. Гучалі тосты, песні, вершы. Нават Купала, які не вельмі любіў чытаць свае творы, не змог адмовіць прысутным. Янка Журба граў на гармоніку. Танцы, кажуць, доўжыліся да позняй ночы.

Наступны дзень правялі ў майстра Ільі Андрэева. За сталом таксама вялася цікавая размова, не абышлося без спрэчак. Але ўсе рознагалоссі рабіліся непрыкметнымі ў патоку вясёлай музыкі, жартаў, добрых пажаданняў, якімі прысутныя шчодра сыпалі адзін аднаму. З Чашнікаў паэт вяртаўся водным шляхам. Спачатку яго вёз Ілья Андрэеў, потым другі майстар. Так нарэшце і трапілі да чыгункі.

Мінаў час. Пайшлі з жыцця песняры. Янка Журба памёр у 1964-м у Полацку, дзе і пахаваны. Значна раней, у 1942-м, не стала Янкі Купалы.

Няма ўжо вёскі Купніна, хаты Журбы, што стала гасцінным прытулкам для песняра, разгалістай вярбы і шырокай кладкі, дзе, стаміўшыся пасля дарогі, паэт умываўся рачной вадой. Ды толькі песні той пары ў гэтых мясцінах не забыліся, яны гучаць над Улай у святочны купальскі вечар, як і ў пару маладосці дзядоў і прадзедаў. З іх пачыналася паэзія Янкі Купалы, таму яна вечная, як народ, як радзіма.

# Масток паміж культурамі

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

**Вялікая адлегласць паміж Беларуссю і ЗША не спрыяла ранняму зараджэнню культурнага дыялогу паміж імі. І ўсё ж нага беларуса ступіла на амерыканскую зямлю яшчэ задоўга да ўтварэння на ёй дзяржавы — Злучаных Штатаў Амерыкі.**

Не толькі здзіўляе, але і падобраму радуе выказанае В. Кіпелем меркаванне, што “пасобныя падарожнікі з Беларусі маглі дабірацца… да Амерыкі яшчэ за часы Вялікага Княства Літоўскага”. Спасылаючыся на выдадзеную ў ЗША літаратуру, В. Кіпель згадвае доктара Лаўрына Багуна з Беластока, які ў 1610 годзе прыбыў у адну з амерыканскіх калоній. Нельга не пагадзіцца і з тым, што беларусам мог быць “доктар Аляксандр Куртыус (Курчэўскі), вучоны і настаўнік у Нью-Амстэрдаме. Да свайго прыезду ў Калоніі ў 1659 годзе ён настаўнічаў у Полацку й Вільні. У Нью-Амстэрдаме Куртыус выкладаў “рускую мову” («Russian»), а таксама быў першым выкладчыкам лаціны ў першай лацінскай школе, найвышэйшай навучальнай установе ў Нью-Амстэрдаме”. З вялікай доляй верагоднасці можна дапусціць, што Куртыусава “руская” мова была мовай Вялікага Княства Літоўскага. Такім чынам ёсць падставы сцвярджаць, што беларуска-амерыканскія сувязі ўсталёўваліся ўжо ў другой палове XVII стагоддзя. Прычым дачыненні гэтыя былі даволі высокага прафесійнага ўзроўню, бо ад беларускага народа ў іх удзельнічаў не шараговы падарожнік, а кваліфікаваны педагог. Зразумела, яны мелі лакальны характар, і абодва бакі не разглядалі іх як штосьці прынцыпова важнае ў адносінах выхадцаў з Беларусі з амерыканцамі.

> *Дарагую Бацькаўшчыну пакідалі грамадска-культурныя дзеячы, навукоўцы, святары. Менавіта такім катэгорыям эмігрантаў мы і абавязаны ўзнікненнем сапраўднага беларуска-амерыканскага культурнага дыялогу.*

Аднак жыццё не стаяла на месцы. Свет прагрэсіраваў у сваім развіцці, што рэальна магчыма толькі праз шырокі ўзаемавыгадны міжнародны абмен дасягненнямі ў розных сферах дзейнасці. Зрывацца са сталага месца жыхарства людзей даволі часта вымушалі прычыны палітычнага плана. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай этнічныя беларусы страцілі сваю дзяржаўнасць. Такое прыгнечанае становішча мала каго задавальняла. Спробы змяніць яго не мелі поспеху з-за магутнай вайсковай сілы царскай імперыі. Каб ухіліцца ад кары, многія беларускія патрыёты ратаваліся эміграцыяй, у тым ліку і ў ЗША. Такую катэгорыю эміграцыі звычайна прынята называць палітычнай. Але яе можна назваць і інтэлектуальнай, бо разам з ваеннымі, палітычнымі дзеячамі дарагую Бацькаўшчыну пакідалі грамадска-культурныя дзеячы, навукоўцы, святары. Менавіта такім катэгорыям эмігрантаў мы і абавязаны ўзнікненнем сапраўднага беларуска-амерыканскага культурнага дыялогу.

Як след спрычыніўся да яго Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. У ЗША ён выехаў у 1776 годзе як буйны спецыяліст у пытаннях артылерыі, архітэктуры і фартыфікацыі. У той час Паўночная Амерыка вяла вайну (1775 — 1783 гг.) з Англіяй за сваю незалежнасць. Т. Касцюшка падтрымліваў паўстанцаў. Яго спачатку залічылі “ў амерыканскую армію ў чыне палкоўніка. На пасадзе галоўнага вайсковага інжынера арміі Поўначы ў 1777 годзе ўдзельнічаў у будаўніцтве фартыфікацыі пад Саратогай, у бітве пад якой было разгромлена буйное злучэнне англічан. Кіраваў будаўніцтвам найвялікшай цытадэлі ЗША ў Вест-Пойнце. 13 кастрычніка 1783 года Кангрэс ЗША надаў Касцюшку званне брыгаднага генерала; узнагароджаны ордэнам Цынцыната, атрымаў амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію і зямельны надзел” (“Энцыклапедыя гісторыі Беларусі”). Наўрад ці пры такім інтэнсіўным, змястоўным жыцці Т. Касцюшка не ўступаў і ў культурны дыялог з амерыканцамі. Тое ж можна сказаць і пра яго другое знаходжанне ў ЗША (1796 — 1798 гг.) Перад ад’ездам з гэтай краіны ён пакінуў тастамент, дзе прызначыў пэўныя сумы на выкуп неграў-рабоў і іх адукацыю.

Пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык Юльян Нямцэвіч (1758 — 1841) падаўся ў ЗША ў 1796 г. пасля вызвалення з Петрапаўлаўскай крэпасці (быў пакараны за ўдзел у паўстанні 1794 года). На радзіме ён паспеў здабыць даволі шырокую вядомасць: з’яўляўся адным з распрацоўшчыкаў Канстытуцыі 3 мая 1794 года, уваходзіў у склад Адукацыйнай камісіі. Таму яму было што каштоўнага з уласнага досведу перадаць амерыканцам.

Пасля інкарпарацыі беларускіх зямель у склад Расіі вельмі пагоршыліся ўмовы функцыянавання на іх каталіцкага касцёла, хаця свецкія і духоўныя ўлады не пайшлі на выгнанне са сваёй краіны ордэна езуітаў, забароненага Папам Рымскім у 1773 годзе. Працягвалася нават навучанне ў Полацкім езуіцкім калегіуме, які незадоўга да ўваходжання войскаў Напалеона на тэрыторыю Расійскай імперыі пераўтварылі ў акадэмію. Французскага імператара падтрымала амаль усё рымска-каталіцкае духавенства нашага краю, за што трапіла ў вялікую няміласць да царскіх улад. Многія ксяндзы разам з французскімі войскамі пачалі ўцякаць з Беларусі. Некаторыя з каталіцкіх святароў палічылі за лепшае падацца ў ЗША. Там езуіты таксама не спынілі сваёй дзейнасці. Яны “выращылі далучыцца адміністрацыйна да езуітаў беларускіх, абышоўшы тым самым папскую забарону, і іхная юрысдыкцыя ў Злучаных Штатах сталася вядомая як Беларуская правінцыя”. Ці ж гэта не гонар нам, беларусам, што назва нашай зямлі ўжо ў пачатку XIX стагоддзя ўвайшла ва ўжытак рымска-каталіцкага духавенства ЗША?

У 1821 годзе, праз год пасля закрыцця царскімі ўладамі Полацкай езуіцкай акадэміі, эмігрыраваў у ЗША Францішак Дзеружынскі (родам з Оршы) — адзін з самых знаных яе выкладчыкаў. Ён стаў галавой Амерыканскай езуіцкай супольнасці, але найбольшую вядомасць здабыў сабе працай у сферы рымска-каталіцкай адукацыі, пра што згадваецца ў многіх літаратурных крыніцах.

Мікалай Судзілоўскі (псеўданім Русель) добра вядомы ў свеце як актыўны дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Немалую славу здабыў сабе і як вучоны-прыродазнавец. Калі ў гады еўрапейскай эміграцыі займаўся пераважна рэвалюцыйнай дзейнасцю, у ЗША яго асноўным клопатам сталі медыцына і публіцыстыка, у чым ён выявіў выдатныя здольнасці.

Пры асвятленні першага этапу беларуска-амерыканскага культурнага дыялогу ніяк не выпадае абмінуць Аляксандра Сянкевіча. Ратуючыся ад пакарання за ўдзел у 1906 годзе ў нелегальным сходзе настаўнікаў, А. Сянкевіч эмігрыраваў у ЗША і знаходзіўся там больш як дзесяць гадоў. У 1913 годзе закончыў медыцынскі факультэт Мэрылэндскага ўніверсітэта ў горадзе Балтымар (не выключана, што першым з беларусаў), удзельнічаў у рэвалюцыйнай дзейнасці рускіх, беларускіх і польскіх рабочых-эмігрантаў.

Становішча ў Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя абнадзейвала, што яна не застанецца ізаляваным ад іншых краін, у тым ліку і ЗША, краем. Сцвярджаць такое дазваляе павелічэнне колькасці адукаваных, здольных да плённай творчай дзейнасці людзей. Так, ужо ў 1887 — 1888 гадах таленавіты беларускі мастак Казімір Альхімовіч выстаўляў свае карціны ў амерыканскім горадзе Сан-Францыска. Некалькімі гадамі пазней з такой жа адказнай і ганаровай місіяй ездзіў у Амерыку наш зямляк Рыгор Бабсроўскі.

У час, калі эміграцыя з Беларусі ў ЗША набыла больш-менш масавы характар і выклікалася пераважна эканамічным фактарам, у ёй бралі ўдзел галоўным чынам мала або зусім непісьменныя людзі, здольныя толькі да фізічнай працы. У многіх з амерыканцаў склалася ўражанне пра беларусаў як пра надзвычай працавітых людзей. Ім дадзена такая характарыстыка: “працавітыя і ўпартыя”.

Масавы характар эміграцыі з нашага краю ў ЗША не мог не прыцягнуць да сябе ўвагі ўлад, а таксама прагрэсіўных колаў беларускага грамадства. Сведчыць пра гэта і выданне ў 1912 годзе ў Вільні Таварыствам апекі над эмігрантамі супольна з рэдакцыяй газеты “Наша Ніва” “Рады для эмігрантаў, каторыя едуць у Амэрыку”. Тэма эміграцыі, у тым ліку і ў ЗША, стала адной з самых папулярных для гэтага перыядычнага выдання.

Рэдакцыю газеты “Наша Ніва” вельмі цікавіла прысутнасць сярод амерыканскіх пісьменнікаў асоб беларускай нацыянальнасці. Лішне тлумачыць, якую радасць зведалі нашаніўцы, адшукаўшы ў Амерыцы беларускага паэта І. Дубровіка. У 1909 — 1910 гадах на старонках газеты друкаваліся вершы гэтага аўтара.

> *Калі верыць акадэміку Яўхіму Карскаму, дык у ЗША ў 1892 годзе з’явілася публікацыя, выдадзеная лацінскім шрыфтам па-беларуску. Гэта падаецца праўдападобным, бо на той час у шэрагу еўрапейскіх краін ужо выходзілі кнігі на беларускай мове.*

Пасля рэвалюцыйных падзей 1917 года і Грамадзянскай вайны падаліся ў ЗША палітыкі, інтэлектуалы. Затым была пасляваенная хваля эміграцыі 1940–50-х гадоў. Ніколі не цураліся кантактаў з беларускімі эмігрантамі ў Амерыцы іх землякі яўрэйскай нацыянальнасці, што ўжо паспелі як след атабарыцца на чужыне. Роля яўрэяў нашага краю ў спрыянні яго тытульнаму насельніцтву хутчэй знайсці сабе шчасце ў далёкай, багатай Амерыцы засведчана ў літаратурных творах.

Паглыбленню беларуска-амерыканскага культурнага дыялогу ў многім дапамагалі і ўкраінцы. Трэба быць удзячнымі ўкраінскім эміграцыйным арганізацыям ЗША за тое, што ўжо ў 1897 годзе яны выдалі свой першы каляндар, у якім можна было натрапіць на пэўныя звесткі пра нашых эмігрантаў. На пачатку XX стагоддзя ўкраінская газета ў ЗША “Свобода” адкрыла на сваіх старонках рубрыку “З беларускага жыцця”. Досыць рана пачала з’яўляцца беларуская тэма ў розных жанрах амерыканскай літаратуры. І не будзем здзіўляцца, што на яе старонкі трапіў беларускі фальклор.

У святле нашай гаворкі нельга абмінуць і такі факт. Калі верыць акадэміку Яўхіму Карскаму, дык у ЗША ў 1892 годзе з’явілася публікацыя, выдадзеная лацінскім шрыфтам па-беларуску. Гэта падаецца праўдападобным, бо на той час у шэрагу еўрапейскіх краін ужо выходзілі кнігі на беларускай мове. На жаль, спробы адшукаць такую публікацыю ў бібліятэках і архівах ЗША не далі жаданага выніку.

Свой унёсак ва ўсталяванне беларуска-амерыканскага культурнага дыялогу зрабілі бібліятэкі ЗША. З іх у першую чаргу трэба назваць Бібліятэку Кангрэса, Нью-Ёркскую публічную бібліятэку, дзе ўжо на пачатку XX стагоддзя меліся беларускія кнігазборы. У перыяд з 1915 па 1920 год Нью-Ёркская публічная бібліятэка ўвяла для Беларусі тэрмін “White Russia”.

Ужо ў першыя два дзесяцігоддзі XX стагоддзя зусім не рэдкасцю было сустрэць публікацыі, дзе пра беларусаў пісалі як пра асобны ад рускіх, украінцаў, палякаў народ. У якасці прыкладу можна спаслацца на выдадзены ў 1911 годзе даведнік “Слоўнік расаў або народаў”. На яго старонках можна прачытаць такое: “Беларусы — адна з трох асобных галінаў расейскае моўнае і этнічнае еднасці, прытым менш значная колькасна й палітычна за дзве астатнія. Гэта такі самы народ, як і вялікаросы («рускія») або маларосы (русіны), хоць у Амерыцы іх успрымаюць звычайна проста як расейцаў”. Беларусаў “звычайна лічаць чысцейшаю галіною расейскага племя ў параўнанні з вялікаросамі і маларосамі. Абодва апошнія народы ўвабралі ў сябе значна болей мангольскага, фінскага і татарскага элементу”.

На падставе ўсяго вышэйсказанага можна сцвярджаць, што беларуска-амерыканскі культурны дыялог досыць трывала ўсталяваўся яшчэ да абвяшчэння 1 студзеня 1919 года Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Беларусы заўсёды з вялікай любоўю ставіліся да свайго нацыянальнага «я» як у сябе на Радзіме, так і на чужыне.

# Неўміручы час прозы

**Літаратура не можа абыходзіцца без катэгорыі часу. Празаічны аповед адбываецца ў часе, і ўласна твор мае пэўную часавую прывязку. Адрозная ад разумовай, міфалагічная свядомасць па-свойму асэнсоўвала хронас, і рэшткі гэтых старажытных уяўленняў адбіліся ў літаратуры, што пацвярджае і асэнсаванне катэгорый часу таленавітым беларускім празаікам Анатолем Казловым. Адзінкай вымярэння ў многіх яго творах выступае Месяц, у прыватнасці, найбольш пашыраная яго фаза — Поўня.**

Ганна САЎЧАНКА

З рухам Месяца звязаны самыя старажытныя каляндарныя адзінкі, а першабытная міфалогія да Месяца звяртаецца часцей, чым да Сонца. Т. Шамякіна слушна заўважыла: "Можна без перабольшання сказаць, што гэта адно з самых геніяльных адкрыццяў у гісторыі чалавецтва: злучэнне дзвюх галоўных сіл, ад якіх залежыць чалавечае жыццё на Зямлі. Злучэнне ўліку часу па Сонцы (круг цяпла і холаду) і ўлік часу па Месяцы, якому падпарадкаваны не толькі прылівы-адлівы ў акіяне, але і рух жыццёвых сіл у жывых істот".

І. Асаў адзначаў факт непасрэднай сувязі начнога свяціла са старажытнымі багамі і духамі продкаў.

Месяц — самае буйное нябеснае свяціла, за якім могуць назіраць жыхары Зямлі. Пры гэтым ніводнае з нябесных свяціл не перажывае такіх змен сваёй формы, як Месяц. У цыкле Месяца можна вылучыць некалькі наглядных меж, якія маглі звярнуць на сябе ўвагу старажытнага чалавека. У традыцыйным светабачанні беларусаў шырока выкарыстоўваюцца такія назвы, як "межы", "маладзік", "поўня", "ветах", "збыта". Кожная з гэтых фаз шырока і разнабакова асэнсавана ў народнай культуры беларусаў і з'яўляецца своеасаблівым кодам.

М. Эліадэ слушна адзначыў, што Сонца "заўсёды роўна сабе, ніколі ні ў якім сэнсе не знаходзіцца ў станаўленні, яно — сімвал вечнасці, устойлівасці, самастойнасці". Яно адзінае мае доступ у свет продкаў, пры гэтым вяртаецца адтуль у гэткім жа першародным стане. Месяц жа прыбывае, змяншаецца і знікае, ён падуладны ўсеагульнаму закону станаўлення, нараджэння і смерці.

У сувязі з тым, што чаргаванне фаз Месяца адбываецца з выключнай дакладнасцю і паслядоўнасцю, Месяц стаў "мерай рытмічнай змены", усеагульным мырылам. Час, які кіруецца і вымяраецца фазамі Месяца, можна назваць "жывым" часам, ён мае непасрэдную сувязь з рэальным жыццём і прыродай.

У Поўню Сонца і Месяц знаходзяцца па розныя бакі зямлі, і менавіта яна, Поўня, стала прадметам адмысловых адносін у народнай свядомасці. Самыя супярэчлівыя рэгламентацыі датычаць непасрэдна гэтай фазы. Поўня — часавы перыяд, калі месяц дасягае поўнага росту, аказвае ўплыў на чалавека і асабліва на мужчын.

У рамане "Мінск і воран, Парыж і здань" Поўня надзелена вялікай сілай і магутнасцю. Прывядзём некалькі прыкладаў: "Перакацілася Поўня ад левай рукі здані да правай і зноў завісла над галавою, пульсуючы, пераліваючыся чырвона-чорнымі фарбамі, быццам расплаўленая лава ў жарале вулкана, які незнарок, зусім нечакана прачнуўся ад утомнага сну".

«Памагу табе, панна, не пакіну ў самотнай адзіноце. Наглядзелася я на тvae штоночныя пакуты за гэтыя стагоддзі, — даляцела да слыху Кацярыны. — За ўсё людзі павінны плаціць у сваім жыцці. Нічога проста не даецца ім, як мне з Сонцам. Ты за сябе і іншых адпакутвала, ці ж не пара сплаціць даўгі, га, князёўна?»

Пачула, нарэшце пачула, неўміручая, усясільная, залатая Поўня, — страсянуўся, захістаўся прывід на сцяне камяніцы".

"…Кацярына раптам адчула, як у яе трапяткую тканку ўлівае Поўня цялесную цеплыню, напаўняе плоццю, а ў пальцах рук, ног, на шыі запульсавала, пацякла, пабегла гарачая кроў, праяснелі вочы. Яна ўжо можа языком аблізаць сасмяглыя губы, адчувае босымі пяткамі зямлю, нават расслушчаныя кавалачкі цэглы пад падэшвамі".

Менавіта ў час Поўні пачынае дзейнічаць нячыстая сіла. Напрыклад, у аповесці "Я і Прарок-Уродка": "Сёння ў поўнач ты — цялесна — памрэш. Запомні — цялесна. Толькі ж не назаўсёды і не на вякі. Плоць твая калінікалі будзе вырывацца на волю з гэтага клубочка са шнурком, які ты падорыш хлопчыку. Ён паратунак твой і хованка душы. І яшчэ забудзь імя, якое ты пакуль што маеш. Найменне пакладзена табе іншае — Прарок-Уродка".

Яшчэ адна традыцыйная адзінка вымярэння часу — тыдзень. Зручнае ў выкарыстанні і спалучанае з нашай свядомасцю вылічэнне часу па тыднях не з'яўляецца спрадвечна славянскім. Хутчэй за ўсё, гэта адкрыццё вавілонскай цывілізацыі, якое базіруецца на дзвюх астранамічных велічынях. З аднаго боку, на колькасці планет, вядомых у той час зямлянам, а з іншага боку — на рытме змены фаз Месяца. Варта адзначыць, што тыдзень у цэлым і кожны яго асобны дзень уступае ў складаныя ўзаемаадносіны з такімі адзінкамі вымярэння часу, як месяц і год. Кожны дзень тыдня самадастатковы, напоўнены сваім міфалагічным, касмаганічным, культуралагічным, сацыяльным, псіхалагічным і магічным зместам. За кожным з іх замацаваліся адметныя асаблівасці.

У структуры года і месяца ёсць прамежкі часу, надзеленыя станоўчай сімволікай, а ёсць такія, да якіх народная свядомасць ставіцца з вялікай насцярожанасцю.

Падобная сімволіка-змястоўная неаднастайнасць характэрна і для структуры тыднёвага вылічэння часу. У народным светапоглядзе кожны дзень тыдня атрымаў сваю (станоўчую ці негатыўную) характарыстыку, у якой знайшлі адлюстраванне і каляндарна-абрадавы акцэнт, і падзеі паўсядзённа-побытавай скіраванасці. Вядома ж, на фарміраванне характарыстыкі значны ўплыў аказала хрысціянства. У выніку такога ўплыву традыцыйныя характарыстыкі гэтых дзён былі значна пераасэнсаваныя і ўдакладненыя.



У творах Анатоля Казлова найбольш часта згадваюцца такія дні тыдня, як аўторак і пятніца.

Аўторак — другі дзень тыдня, які, у адрозненне ад панядзелка, надзвычай спрыяльны для распачынання разнастайных сямейных спраў. Цяжка беспамылкова адказаць на пытанне, чым аргументуецца станоўчая ацэнка гэтага дня ў міфалагічнай свядомасці, але відавочна, што сярод магчымых варыянтаў можа быць прапанаваны і наступны. Аўторак — як і чацвер — так званыя "мужчынскія", а таму шчаслівыя дні, супрацьстаяць нешчаслівым дням — "жаночым": серадзе і пятніцы. Цікава, як Анатоль Казлоў трансфармуе ўяўленні пра гэты дзень, што ў творах пісьменніка з'яўляецца "мужчынскім" і шчаслівым, але шчаслівым для дзейнасці нячыстай сілы, прадстаўленай у вобразе мужчыны. Напрыклад, аповесць "Я і Прарок-Уродка":

"— Я страшна баюся аўторкаў. Кожны тыдзень, у аўторак, кладуся, як звычайна, спаць я ў сваім пакоі, а раніцай прачынаюся дзенебудзь на ўскрайку горада ці на лаўцы, каля рэчкі, якая недалёка ад інтэрната, паблізу сквера. І ведаеш, нічагусенькі не помню. Не ведаю, як і чаму я там апынуўся.

— Цяпер зразумела, чаму па аўторках ты не прыходзіш да мяне начаваць. А я, грэшніца, думала, што палюбоўніцу Андрэйка сабе завёў.

— Яшчэ ні аднаму чалавеку ў свеце я не прызнаваўся, што ў мяне ў тумбачцы ляжыць чалавечы чэрап. Ты ж шмат разоў пыталася, чаму тумбачка ўвесь час на замку. А што застаецца рабіць? Дзясяткі разоў я выкідваў чэрап у сметніцы, тапіў у рэчцы ў пакеце з каменнем, завозіў у прыгарадных аўтобусах у лес — усё дарэмна. Праз дзень ён зноў, як нічога не здарылася, ляжыць у тумбачцы. На пачатку думаў, што звар'яцею ад такога наслання. А цяпер неяк звыкся. Больш года не чапаю чэрап. Ляжыць, ну і няхай сабе ляжыць. Адно што зрабіў — на тумбачку павесіў замок".

Пятніца — пяты дзень тыдня, які мае сімволіку жаночага пачатку. Варта адзначыць, што шматлікія характарыстыкі гэтага дня маюць амбівалентны характар. Пятніца набыла антрапаморфныя рысы і стала ўспрымацца як адна са святых заступніц роду чалавечага, але найперш жанчыны. Вядома, што ў хрысціянскай традыцыі пятніца з'яўляецца днём распяцця Хрыста, але семантычнае поле гэтага дня значна ўскладняецца і пашыраецца, як толькі гаворка заходзіць пра пятніцу, на якую выпадае 13 чысло месяца, і ўжо зусім містычным становіцца ўспрыманне дадзенага хранатопа, калі пятніца (13) супадае з поўняй. Гэта паказана ў аповесці "Дзеці ночы": "Яны лічаць усё яшчэ мяне кволым птушанём, якое без іх прыгляду задзяўбуць іншыя квактухі і ўжо апераныя падлёткі. Не і яшчэ раз не! У маіх руках сіла, якая вам, мае прастачкі, клапатлівыя родзічы, і не снілася. Хутчэй бы дыхнуць без вас на поўныя грудзі, распраміць плечы і ганарова ўзняць галаву. Каб вы не азіраліся на кожны мой чых, не мацалі лоб, калі падступае гарачка ў надвячоркі з поўняй на небе, перад пятніцай трынаццатага чысла".

Аўторак і пятніца, якія ўвасабляюць мужчынскі і жаночы пачаткі ў народных уяўленнях, у творах Анатоля Казлова набываюць іншы сэнс, выражаны ў сімвалічнай барацьбе супрацьлегласцей з нячыстай сілай, якая нараджаецца ў гэтыя дні.

Месяц і Сонца даюць жыццё новым дням, а дні пераўтвараюцца ў верацяно, якое ўтварае неўміручы час прозы Анатоля Казлова.

# Мастацкі летапісец гісторыі Усходу

Мікола БЕРЛЕЖ

**Споўнілася 70 гадоў нашаму земляку — рускаму пісьменніку Леаніду Чыгрыну, які жыве і працуе ў Таджыкістане.**

Леанід Мікалаевіч нарадзіўся на Віцебшчыне, у пасёлку Асінторф, у 1942 годзе. Маці, удзельніца маладзёжнага падполля, патрапіла ў фашысцкі канцлагер. Выжыла. Праўда, вярнулася хворая. Дактары параілі змяніць клімат. Маладая жанчына з малым дзіцём пераехала ў Таджыкістан. Але хутка памерла. Хлопчыка гадавала старэйшая сястра маці. Бацька, які пасля дэмабілізацыі знайшоў сына, сям'ю жонкі ў Таджыкістане, загінуў у шахце. Так пачыналася няпростае жыццё Леаніда Чыгрына…

Выбраўшы прафесію журналіста, наш зямляк добра вывучыў Таджыкістан, з маленства авалодаў таджыкскай мовай. Шмат займаўся перакладамі з таджыкскай на рускую паэтычных і празаічных твораў. Леанід Чыгрын — аўтар сцэнарыяў больш як 10 дакументальных і мастацкіх фільмаў. Працуючы над рознымі тэмамі, літаратар асабліва ўважліва да гісторыі Усходу. У суаўтарстве з празаікам Ато Хамдамам (яго добра ведаюць у нашай краіне як прапагандыста беларускай літаратуры ў Таджыкістане, арганізатара беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязей) напісаў больш як 10 гістарычных раманаў. Пабачылі свет яны не толькі ў Душанбэ, але і ў Кітаі, Канадзе, Італіі, Турцыі… У прадмове да аднаго з раманаў — "Азар з Уструшаны, ці Меч Спартака" Леанід Чыгрын і Ато Хамдам, праўда, расказваюць, як нялёгка часам было прыйсці да чытача са сваімі мастацкімі адкрыццямі: "…Мы былі здзіўлены няздольнай стойкасцю і мужнасцю гэтага чалавека. Мяркуйце самі, Азар чатыры разы быў рабом — у Старажытным Кітаі, у гунаў, фінікійцаў і ў Старажытным Рыме. Пасля быў прададзены ў школу гладыятараў, дзе выкладаў Спартак, і стаў сябрам вялікага героя. Азар змагаўся на арэне ў Рыме, удзельнічаў у паўстанні рабоў пад кіраўніцтвам Спартака, пасля заваяваў Галію ў складзе рымскага легіёна. Па асабістым хадайніцтве Юлія Цэзара перад сенатам атрымаў рымскае грамадзянства і стаў свабодным.

Не верылася, што адзін чалавек мог перанесці гэтульскі выпрабаванняў і захаваць усе сваё лепшыя чалавечыя якасці.

Мы пачалі ўжо мэтанакіравана адшукваць факты біяграфіі старажытнага сагдзійца ў працах дзясяткаў гісторыкаў і збіралі іх па драбнічках, як вымываюць шалупінкі золата з тон пустой пароды. І калі назбіралася дастаткова матэрыялу, напісалі гістарычны раман пра невядомага героя таджыкскага народа.

Здавалася б, такая кніга адразу павінна была атрымаць пуцёўку ў жыццё, паколькі на такіх прыкладах і трэба вучыць падрастаючае пакаленне патрыятызму, выхоўваць пачуццё гонару за сваю гісторыю і свой народ. Але ж не так усё проста. Цяжкі быў жыццёвы шлях збройніка Азара, і таксама цяжка прабіваўся да чытача наш гістарычны раман".

І ўсё ж, напісаны ў 1995 — 2002 гадах у Душанбэ — Фергане — Істараўшане — Душанбэ, гістарычны раман пра Азара з Уструшаны пабачыў свет у 2007 годзе.

…Сёння творчасць Леаніда Чыгрына як гістарычнага пісьменніка даследуецца літаратуразнаўцамі. Пра нашага земляка пішуць і абараняюць дысертацыі. А Леанід Чыгрын часта ўспамінае Беларусь. Марыць пра тое, што яго раманы стануць вядомымі і беларускаму чытачу.

# Па хадзе цягніка




Алена КАРП

Думаецца, у новым нумары “Полымя” чытач вылучыць для сябе рубрыку “Са спадчыны”. Ігар Аўласенка ўзнаўляе, разгорнута і пашанотна, біяграфію Паўла Пруднікава. Такая праца сапраўды вельмі важная і для захавання памяці пра пісьменніка, і для належнага ўспрымання яго твораў, якія ў кантэксце біяграфіі прачытваюцца больш поўна. Прынамсі, зразумее чытач, дзе вытокі радкоў

*Не да рыфмаў было,*
*не да рытмаў,*
*Ледзь трымаўся*
*жывым на плыву.*

І ацэніць стойкасць, трываласць духу, якая дазваляе вярнуцца да звычайнага жыцця, не праклінаючы лёс і не выстаўляючы напаказ свае пакуты.

Засталася нявыдадзенай кніга ўспамінаў Паўла Пруднікава “З памяці не сцёрлася”. Хочацца верыць, што яна ўсё ж пабачыць свет, тым больш сёння ёсць вялікая цікавасць да такіх сведчанняў свайго часу, ды і, мяркуючы па “палымянскай” публікацыі, пра спадчыну П. Пруднікава ёсць каму паклапаціцца.

Таксама ў нумары прадстаўлены два буйныя празаічныя творы — пачатак рамана Уладзіміра Гніламёдава “Ліхалецце” і аповесць Валянціны Кадзетавай “Таннае золата”.

У рамане “Ліхалецце” чытач заспее ўжо знаёмую з іншых твораў У. Гніламёдава вёску Пруску на пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар намагаецца стварыць як мага больш шырокую панараму, утрымаць у полі зроку ўсемагчымыя дэталі, дробязі. Аповед паглыбляецца дзякуючы ўкладзеным у вусны герояў развагам пра нацыянальны характар:

“...Мы як бы і ціхія, але і скрозь камень праб’ёмся.

— Мы нейкія стомленыя, — прамовіў Лявон. — Калі з Амерыкай параўнаць, дык там людзі надта пракідкія, дзейныя, дзелавыя. У іх усё ў руху, усё кіпіць! А ў нас? Нават Расія больш разваротлівая.

Сябар аднак з ім не згадзіўся:

— Мы не стомленыя, мы аслабелыя. У кожную вайну, а іх прыбрыдала сюды шмат, трэць народу гінула. А за што? За каго?”

У. Гніламёдаў імкнецца да праўдападобнасці дыялогаў, надзяляе сваіх герояў адметнаю мовай, і ўсё ж чытачу будзе няпроста з першых старонак разабрацца ў такой вялікай колькасці персанажаў. Тым больш некаторыя з іх падаюцца агульным спісам, як, напрыклад, жыхары паселішча Калёнія Пруска, характарыстыкі іншых супадаюць: “…каваль Цішка Пахолак, які быў неабыякавы да палітыкі…”, “другі аматар паразважаць пра палітыку Павал Гальяш…” Часам і сам аўтар блытаецца ў сваіх героях. Так, на жніво выпраўляюцца ўтраіх: Лявон, Васіль і Прося. “Фёкле выпала застацца з унукамі…” Аднак на гэтай жа старонцы Фёкла ўжо крочыць побач з мужам.

У творы па-мастацку перадаецца пачуццё трывогі, разгубленасці прускаўцаў, разыгрываюцца драматычныя калізіі, вырашаюцца лёсы. У. Гніламёдаў, наследуючы традыцыям беларускай ваеннай прозы, стварае сітуацыі, у якіх героям даводзіцца дэманстраваць або сваю самаахвярнасць і чалавечнасць, або эгаізм і здрадніцтва. Тэма Вялікай Айчыннай вайны настолькі распрацавана ў літаратуры, што ад кожнага новага твора міжволі чакаюць не столькі вернасці традыцыі, колькі пэўнага адкрыцця. Ці парадуе гэтым “Ліхалецце”, дазнаемся, дачакаўшыся працягу.

Калі У. Гніламёдаў прапануе чытачу няспешнае падарожжа ў мінулае, то аповесць В. Кадзетавай, наадварот, падкрэслена сучасная. Пісьменніца падымае вельмі вострыя пытанні, але ці вырашае іх? Другарадныя героі з’яўляюцца і знікаюць так хутка, нібы галоўная гераіня пранесціся паўз іх у вагоне цягніка. Зразумела, пры такім падыходзе характары амаль не раскрываюцца. Куды большую ўвагу аўтар надае сюжэту, дарэчы, вартаму серыяла і з серыяльнай жа логікай падзей. Як ні парадаксальна, аповесць, прысвечаная сур’ёзным праблемам сучаснасці (гвалт, гандаль людзьмі), апынулася лёгкім чытвом, для таго самага вагона цягніка.

# Як перамагчы графаманію?




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

У чэрвеньскім нумары часопіса “Маладосць” увагу прыцягнула апавяданне Жанны Капусты “Вы яшчэ не чыталі…” Згадзіцеся, праца ў розных жанрах — дастаткова звыклая з’ява ў літаратурным асяроддзі. Але Ж. Капуста больш вядомая чытачам як востры крытык. Наважыцца пасля крытычных артыкулаў на публікацыю ўласных творчых спроб — дастаткова вялікая рызыка. Такія публікацыі разглядаюцца былымі “ахвярамі” пад павелічальным шклом.

Але Жанна Капуста добра пажартавала з пакрыўджаных творцаў. Больш за тое, яна, відавочна, не ставіла перад сабой тытанічных, глыбокіх мастацкіх задач і фактычна працягнула сваю крытычную лінію… у празаічным жанры. Галоўная гераіня апавядання — малады крытык Ніна Жарновіч, якая працуе ў рэдакцыі газеты “Літаратурная сталіца”. Згодна з сюжэтам, яна атрымлівае заданне: зрабіць тэрміновы матэрыял пра паэта Яраслава Паніна, узнагароджанага прэміяй У. Дубоўкі. Ніна даўно захапляецца асобай творцы і яго вершамі, але нават не ўяўляе, які сюрпрыз чакае яе падчас знаёмства…

Як і любы мастацкі твор, апавяданне можна разглядаць у некалькіх ракурсах. Перш за ўсё яно з’яўляецца класічным выкрыццём графаманства і графаманаў. Адметна, што ў творы амаль няма трагічна-абуральных матываў. Наадварот, належнае месца ў ім займае гумар, гратэск. Як пафасна гучаць некаторыя пісьменніцкія рэплікі! “Нядаўна я скончыў друкаваць у “Маладзіку” свае дзённікавыя запісы, — кажа ў прысутнасці Ніны пісьменнік Малажай. — Дык вось яна рабіла агляд самых значных публікацый “Маладзіка” за год, а мой дзённік — ні слова ні паўслова. А гэта ж досвед цэлага пакалення! Гэта ж адбіццё эпохі! Мы ж для вас, маладых, робім, а ў адказ — ні пашаны, ні ўдзячнасці…” Як камічна выглядае параўнанне дзвюх сітуацый! Спярша Панін крычыць Ніне, што яе начальнік Сцяпан Юр’евіч “сам пісаць не ўмее і іншым не дае” і “проста мне зайздросціць”. А потым пры асабістай сустрэчы з галоўным рэдактарам сцвярджае супрацьлеглае: “Чытаў вашыя апошнія апавяданні ў “Маладзіку”. <…> Гэта ж проста нейкі цуд — такое глыбокае разуменне жыцця, такое тонкае пранікненне ў жаночую псіхалогію!”

Удалым ходам з’яўляецца пабудова твора, пры якой узаемаадносіны Ніны з графаманамі паўтараюцца. Напрыклад, пісьменнік Галёкаў атакуе яе па тэлефоне, а Блавацкі — у інтэрнэце, Панін і Жардзецкі пускаюць пыл у вочы пры асабістай сустрэчы, а ўжо потым выяўляюць сваю сутнасць. Пры такой канцэпцыі рэчаіснасць інтэрпрэтуецца як бясконцы літаратурны лабірынт, кожны калідор у якім з’яўляецца тупіковым. Ж. Капуста падводзіць чытачоў да думкі, што надалей іх чакаюць яшчэ большыя “адкрыцці”, пра што сведчыць і назва апавядання.

Не сакрэт, што ледзь не ўсе ўдзельнікі літаратурнага працэсу з вялікай цікавасцю адсочваюць падрабязнасці калялітаратурнага жыцця. Для іх апавяданне Ж. Капусты стане сапраўдным клandaйкам. А шэраг чытачоў захоча разгадаць асоб, якія сталі прататыпамі тых ці іншых герояў-пісьменнікаў.

Але адначасова тут хаваюцца і падводныя камяні. Шараговыя чытачы застануцца далёкімі ад высвятлення адносін паміж пісьменнікамі і крытыкамі. Аднак упэўнены: калі Жанна Капуста імкнецца выплюхнуць з айчыннай літаратурнай “ванны” брудную ваду графаманіі, трэба быць асцярожным, каб разам з ёй не страціць і таленавітых “дзяцей”-творцаў.

Зразумела, графаманія — невынішчальная з’ява. Было б наіўна спадзявацца, што атрымаецца перамагчы яе адным апавяданнем. Але тая акалічнасць, што яе існаванне ўспрымаецца не з трагічнай сур’ёзнасцю, а з іроніяй і камізмам, сведчыць, што ў айчынным прыгожым пісьменстве яшчэ не ўсё страчана.

# Вышыўка па канве жыцця




Соф’я МАРОЗАВА

Аповесць Аляксандра Валковіча “Житная баба” пабачыла свет у шостым нумары “Нёмана”. Родныя сэрцу з’явы — ростань, крыж на ёй, ручнік — з першых жа старонак выклікаюць шчымлівы эфект пазнавання, а героям міжволі спачуваеш. Аповед пачынаецца з разважання ля крыжа на ростані, таму адразу ж настройвае на філасофскі лад — на ўспрыманне ЛЁСУ. І ён разгортваецца — лёс вясковай вышывальшчыцы бабулі Дуні, “житной бабы”, захавальніцы ручніка. А калі зірнуць глыбей — лёс жанчыны ўвогуле, яе стваральнай жыццёвай сілы. Бо хто як не яна — жанчына, вышывальшчыца — удыхне жыццё ў акрэсленыя на канве выявы? Хто як не яна ўтрымае ў галаве найскладанейшую схему колераў-адценняў і не прапусціць ніводнага ці пераблытаю паўторыць — а стварыць, складзе-выснуе малюнак?..

Вобразы палатна, ручніка, вышывання тонка і ненавязліва праходзяць праз аповесць, не пакідаючы адчування знарочыстасці. А пачынаецца ўсё з ручнікаабярэгу. Яго вышыванне, бадай, адзін з самых моцных эпізодаў. Каб суцешыць і падтрымаць знявераных жанчын у трэці год вайны, царкоўны староста загадвае ім за адну ноч вышыць усім мірам абярэжны ручнік. “Рушник-оберег (…) не только печали и слезы бабьи утолит, но главное — расстелется чудесным покрывалом над головами служивых и ратных, заслонит их в походе и в сражении, от тяжких ран исцелит, от неминучей гибели убережёт и пулю вражью отведёт”. Ці варта казаць, з якой зацятай верай і сур’ёзнасцю працавалі жанчыны! Да палатна падыходзілі па чарзе, кожная салдатка вышывала побач з лікам святой Параскевы Пятніцы сваю памятку — ці то кветку, ці арнамент, што нагадваў бы пра блізкага чалавека. Праз падрабязнае апісанне Аляксандру Валковічу ўдалося перадаць незвычайны стан жанчын — і ноч, бы царкоўная ўсяночная, напоўнілася святлом, гранічнай засяроджанасцю, адчуваннем значнасці абраду. Вясковая хата, што аб’яднала звясіленых жанчын, ператварылася для іх у храм. І час запаволіўся, раскрыўся. Нездарма ноч вышывання стала для гераіні Еўдакіі адкрыццём, азарэннем на ўсё жыццё.

А жыццё доўгае. У ім — і бясконцасць дарог (“Долгие проводы — лишние слёзы”, “Россия дорожная”), і жыццё на чужыне (“Посеешь поступок — пожнёшь судьбу”), і няскладнае, ды неадольнае каханне (“Шикотаном сосватаны, путиной повенчаны”, “Бабье счастье, как бабий век, коротко”, “Вологодские кружева”), урэшце — вяртанне... Чым жыве і дыхае жаночая душа? Думаецца, аўтар не толькі адказаў на гэта пытанне развіццём сюжэта, але і “падсвяціў” адказ сімвалічным космасам традыцыйнага ручніка.

Вышыванне — “няспешная” метафара. І гэткі ж павольны, цягучы час у аповесці. Аляксандр Валковіч разглядае кожную рэч менавіта столькі, колькі патрэбна, каб пражыць яе напоўніцу. І ў гэтым бачыцца ўпэўненасць мастака. Паступова пачынаеш даваряць плыні часу, і неўзабаве ўжо дыхаеш на поўныя грудзі пасля звыклага глытання паветра пахапкам. Такая часавая паўнаводнасць — асаблівасць неатрадыцыяналізму, а “Житная баба” яму вельмі сугучная. Часавую эпахальнасць дапаўняе і прасторавая шыр — падарожжа па бязмежнай краіне, “кипучей, могучей, никем не победимой”, ад якога займае дыханне. Гэта ўжо амаль недаступнае для нас, насельнікаў “глабальнай вёскі”, перажыванне! “О, берег морской! Оберег! Спаси и сохрани!” — не стрымлівае Еўдакія гарачай малітвы.

“Житная баба” — эмацыянальна і вобразна насычаная аповесць, з жывымі героямі і выдатным стылем. Ёй уласцівы ўнутраны дынамізм, які забяспечваецца не столькі сюжэтам (хоць ён і не пазбаўлены “прыгод”), колькі якасцямі аповеда. Як усялякі таленавіты твор, аповесць прымушае задумацца.

На заканчэнне — некалькі асабістых уражанняў. Жыта і жанчына... Житная баба. Ці не на гэтай спаконвечнай магіі трымаецца свет? “Коль житу есть где родить, то и сами живы будем”. А час усё паставіць на свае месцы. У пэўны момант аповесці кола замыкаецца, повязь пакаленняў містычна аднаўляецца — з пакутай і слязамі раптоўнага разумення:

“Вкривь и вкось шитьё. Неумело сработано, но решительно.

Давненько не являлась на ростань Житная баба — и вот, наконец, пришла…

Однако уж слишком молода мастерица на вид…”



Любоў Турбіна

## Паэтычныя падарожжы

Аднойчы вядомая руская паэтэса Любоў Турбіна, кажучы яе ж словамі, здзейсніла вялікае "путешествие из Минска в Москву" і, адчуўшы, як невыносна "баліць ёй Расія", засталася тут назаўсёды. Мяняючы месца жыхарства ўжо сталай і прызнанай паэтэсай, яна везла з сабой зборнікі вершаў, выдадзеныя ў Мінску, — "Улица детства" і "Город любви". Колькасць арыгінальных кніг, напісаных у Маскве, узрасла да дзесяці, а адна з іх, як мне здаецца, мае досыць вызначальную назву — "Сны-города". Сапраўды, у творах паўстае як на далоні ўвесь свет. З асаблівай любоўю Любоў Турбіна, з'яўляючыся сябрам пісьменніцкіх Саюзаў Расіі і Беларусі, пераклала на рускую мову і вершы М. Багдановіча, М. Стральцова, Р. Барадуліна і іншых, яна ж укладальнік, аўтар прадмовы і адна з перакладчыкаў анталогіі беларускай паэзіі "З веку ў век".

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

* * *

*Мне працягнуў насустрач друг*
*Далонь з вясны маёй дзівоснай —*
*І даўні выраз "кісці рук"*
*Зноў сэнс набыў непераносны.*

*Дакладней, велічная "длань"*
*Падыдзе тут — і без ухмылкі.*
*Час надышоў даніну браць*
*За недарэчныя памылкі.*

*Крананняў лёгкіх міражы,*
*І сад чаромхаю мяцеліць.*
*Ён цесны нам, чаму ж, скажы,*
*Мы не шукаем нават ценю?*

*Бабулькі туляцца на лаўках.*
*Здаецца, й году не прайшло,*
*Калі за згубленую ляльку*
*Дзяцінству сорамна было…*

*Ды сон закончаны. Здзіўленне.*
*Што ж, трэба жыць як набяжыць.*
*Яшчэ той згубы ўсведамленне*
*Мне не аднойчы перажыць.*

* * *

*Люблю той голас я здаўна —*
*Спакойна-радасную песню.*
*І нібы вее садам веснім*
*Ад зледзянелага акна.*

*А міжнародны тэлефон —*
*Дзвюх душ даверлівая споведзь.*
*Так многа хочацца прамовіць,*
*Што адступае нават сон:*

*Ледзь інтанацыю лаўлю,*
*Ды слоў таемнае яднанне*
*Хвалюе, нібы дакрананне, —*
*Я гэты голас так люблю.*

*Зрабі ж мне ласку ты, вазьмі*
*Усё, што можна і не можна.*
*Зноў той жа голас пераможны,*
*Калі гартаю Нізамі.*

*І думкі мудрыя лаўлю,*
*Нанізваю на ніць мелодый.*
*І што мне плоці асалоды?! —*
*Я кнігу гэту так люблю.*

* * *

*Ты маеш рацыю, мой друг,*
*Давай глядзець шырэй на рэчы:*
*Так, ад жанчыны зло, канечне,*
*Ты маеш рацыю, мой друг.*

*А ты ласкавы не на жарт —*
*Знайшоў табе графолаг слоўка…*
*О, дай парадавацца зноўку,*
*Што ты ласкавы не на жарт!*

*За дасканалую любоў*
*Чакаць бязлітасных сурокаў.*
*Шляхі нялёгкія ў пракокаў.*
*Прыму і слёзы без папроку*
*За несумненную любоў.*

* * *

*І вось, калі ўжо даравала,*
*Пярэчыць болей не магла,*
*Зноў, як дзяўчынка, пакахала, —*
*Пара ад'езду надышла.*

*Шэкспір пісаў пра ўтаймаванне,*
*Сюжэт жыве да нашых год…*
*Мы помнім гнеўнае маўчанне*
*Сястры — прыхільніцы свабод.*

*Ці ж не раскоша —*
*быць слухмянай?!*
*Падатны, нібы воск, мой дух.*
*Скажу табе я, мой каханы:*
*"Ты маеш рацыю, мой друг!"*

*І бліск пяшчоты нечуванай*
*Мільгне ў адказ, бы зорак раць,*
*Прад непазбежным*
*развітаннем,*
*Калі ўжо слоў не разабраць.*

* * *

*Туман. Асеннія хаўрусы.*
*Сама сабе кажу: не плач!*
*Лёс беражэ нас ад спакусы*
*І захінае ад удач.*

*Няхай прыземлены жаданні,*
*Не рвуся ў казачную высь,*
*Але ў Тваё наканаванне*
*Я буду верыць, як калісь.*

*Імкненне жыць небяспецэшна*
*Прымі, мой Божа,*
*напавер,*
*Але ўдзялі для нас,*
*для грэшных,*
*Хоць кроплю радасці —*
*цяпер.*

**Пераклад з рускай**
**Міколы Шабовіча**





Ганна Новік

* * *

*Перакананні.*
*Страх,*
*спапялёны дазвання.*
*Блуканне*
*з клубком Арыядніных нітак*
*па ўсіх скрыжаваннях.*
*Кожны паўстане з нябыту,*
*хто вечнасць*
*спасцігнуць у стане —*
*адхланне.*
*Каханне*
*і перавыданне*
*самога сябе,*
*абпаленага верай,*
*цнатлівасцю хрумсткай паперы,*
*што стала скрыжалямі,*
*уджалены промнем вандроўнік*
*на росным світанні...*
*Ёсць воля…*
*І — перакананні.*

* * *

*Зранку*
*Ён п'е не расол —*
*валяр'янку.*

*Удзень*
*Палюе на шпаркі свой цень.*

*Вечарам*
*Трызніць пра нешта*
*І марыць аб нечым.*
*Кладзецца спаць з томікам Коласа,*
*Золкам ачуньвае...*
*з Танкам.*

*Снам абвяшчае байкот*
*Мой кот.*

* * *

*Вокны —*
*тысячы й тысячы дробных*
*палонак,*
*у палоне якіх*
*не раз самота ачуньвала;*
*існасць для тых матылёў,*
*што, цалуючы вогнішчы,*
*страчвалі ўсё,*
*апрача свайго ценю;*
*краты для дэманаў згоды,*
*нянавісці, прагі, мітрэнгі*
*(хто якіх выпесціў) —*
*насцеж.*
*Я сам сабе цень,*
*і палонка,*
*і прага...*



Алесь Жыгуноў

* * *

*Пілі зялёнае віно*
*І зразумелі нечакана,*
*Што мы знаёмыя даўно,*
*Што пазіраем закахана.*

*Незразумелае жыццё*
*(Нібы яго упрошваў хтосьці)*
*Нам падарыла пачуццё*
*Такой далёкай маладосці.*

*Хоць не свабодныя даўно,*
*Ды нешта здарылася з намі:*
*Пілі зялёнае віно,*
*А вусны пахлі палынамі.*

### Пра братоў нашых меншых

*Братоў нашых меншых*
*ніхто не хавае:*
*У травах зруднелых*
*ляжаць ля шашы…*
*І слёзы над імі*
*ці хто праліває?!*
*Ля іх, нашых меншых,*
*няма ні душы.*
*Прамень слізгане*
*мітуслівы і яркі,*
*І вецер падзьме,*
*а пасля задаждыжць.*
*Ляцяць па шашы,*
*як на злом, іншамаркі,*
*Спяшаемся ў вечнасць,*
*спяшаемся жыць.*
*І прагне душа наша*
*розных уцехаў,*
*а лёс нашых меншых*
*каго з нас кране?*
*А ў нейкай машыне*
*забойца паехаў,*
*І, можа, забойца*
*падвозіў мяне.*

### Маладыя сны

*У снах сваіх я малады,*
*Вясна там, птушкі прыляцелі,*
*Нібы пражытыя гады*
*Мяне састарыць не паспелі.*

*Як падарункі, тыя сны*
*(А можа, я на яве мрою?)*
*І прывітанне з той вясны,*
*Дзе мы спаткаліся з табою.*

*І дзе было ўсё ўпершыню,*
*І ўсё забылася з гадамі.*
*Таго кахання чысціню*
*Не зберагалі, на жаль, мы самі.*

*І вось цяпер прыходзяць сны,*
*А з імі і настрой шчымлівы.*
*На уваходзінах вясны*
*Я зноў, як некалі, шчаслівы.*

* * *

*Мне здаецца, што на даляглядзе*
*Ты стаіш між рыжанькіх асін.*
*А столькі цеплыні ў тваім паглядзе,*
*Што і мне не холадна зусім.*

*Сонца, як палушчаны сланечнік,*
*За лясок схіляецца ў журбе.*
*І цябе кахаю я, канечне,*
*Без маны кахаю я цябе.*

*Можа, і таму перазімую,*
*Пра цябе гадаючы адну.*
*Ну а што з пражытага вазьму я*
*У тваю залёную вясну?!*

*Мілая і вольная стыхія,*
*Дзе ж з табою справіцца зіма.*
*…А вазьму я вершы маладыя,*
*Больш нічога у мяне няма.*

# Рэха з Перадзелкіна

**У Маскве, у выдавецтве “Московский писатель” пры падтрымцы Акадэміі паэзіі і Міжнароднай Супольнасці Пісьменніцкіх Саюзаў пабачыў свет новы выпуск альманаха “Академия поэзии” за 2012 год. Прысвечаны ён 255-годдзю з дня нараджэння рускага паэта Канстанціна Бацюшкава. Гэта дзявяты па ліку альманах, дзе па традыцыі публікуюцца самыя яркія паэтычныя творы вядучых аўтараў, якія пішуць на рускай мове. Здавалася б, падзея не мае ніякага дачынення да беларускай літаратуры і, тым болей, да газеты “Літаратура і мастацтва”, але, як апынулася, выпуск альманаха стаўся знакавым і для некаторых беларускіх творцаў, у тым ліку маладых.**




**Марына ВЕСЯЛУХА**

Восенню мінулага года ў падмаскоўным Перадзелкіне адбылася Першая міжнародная нарада маладых пісьменнікаў. У ліку ста абраных аўтараў былі і беларускія творцы: паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, цяпер галоўны рэдактар газеты “Літаратура і мастацтва” Таццяна Сівец, паэтка Алена Харук, а таксама аўтар гэтых радкоў. Падчас нарады праходзілі семінары, на якіх абмяркоўваліся тэксты ўдзельнікаў, уздымаліся агульныя пытанні значэння літаратуры ў наш час, сэнсу творчасці, праблемы недахопу часу і выбару ўласнай творчай сцежкі. Працавала некалькі секцый: прозы, паэзіі, ваеннай літаратуры, дзіцячай літаратуры і фантастыкі, мастацкага перакладу і літаратуразнаўства.

Тады старшыня выканкама МСПС Іван Пераверзін, адзін з арганізатараў і ініцыятараў форуму, неаднаразова падкрэсліваў: “Для маладога пісьменніка важна быць пачутым! Важна, каб яго творы былі апублікаваныя, паказаныя, прызнаныя”. Таму ён паабяцаў, што выбраныя тэксты ўдзельнікаў будуць надрукаваны ў часопісах і газетах, а творы самых адораных пабачаць свет асобнымі кнігамі.

І, варта адзначыць, свае абяцанні арганізатары нарады выканалі. Так, выйшаў спецыяльны выпуск “Общеписательской Литературной газеты”, а асобныя творы былі рэкамендаваны для публікацыі ў часопісах “Наш современник”, “Молодая гвардия”, “Москва”, “День и Ночь”. Спрычыніўся да публікацыі лепшых твораў маладых аўтараў і праект “Кніжны свет”. На яго старонках з’явілася апавяданне “Розовый домик” Ірыны Вахітавай (яна прадстаўляла Латвію). Самыя яркія вершы маладых творцаў трапілі на старонкі ўжо згаданага альманаха “Академия поэзии”. На яго мы і звернем больш пільную ўвагу.

Праца нарады маладых пісьменнікаў дазваляла ўдзельнікам свабодна “перамяшчацца” з семінара на семінар і такім чынам атрымліваць больш парад ад вопытных творцаў, крытыкаў і педагогаў. Я ж абрала іншую тактыку — ад пачатку да канца наведвала семінар па крытыцы і літаратуразнаўстве, куратарам якога быў паэт, празаік, крытык, лаўрэат Шолахаўскай прэміі Мікалай Пераяслаў. І, як аказалася, не дарма. Такі падыход не толькі дазволіў лепш зразумець прынцыпы і адметнасці аналізу літаратурнага твора, але і даў магчымасць пазнаёміцца з творчасцю практычна ўсіх удзельнікаў нарады.

І таму, чытаючы творы, што склалі раздзел “Вершы маладых паэтаў” альманаха “Академия поэзии”, міжволі прыгадваю яркія моманты самой нарады. Вось Дзмітрый Бялялаў-Ушэнін з Германіі, сябар Берлінскага літаратурнага таварыства, гучным голасам чытае са сцэны свае вершы, якія па духу і мове больш адпавядаюць Расіі XIX стагоддзя, чым сучаснасці… А вось Алена Шуваева-Петрасян з Ерэвана распавядае пра свае эксперыменты з формай і жанрам верша... Павел Маркін (Ёж) перашкаджае мне слухаць куратара і падсоўвае лісток з вершам-наследаваннем лермантаўскаму “Барадзіно”, не пагаджаецца з крытычнымі заўвагамі ў свой адрас, а потым называе жука, які поўзае ў зале, Васем і асцярожна выносіць яго на вуліцу… Ксенія Вашчанка з Валгаграда (дарэчы, у яе сёлета выходзіць першы паэтычны зборнік) чытае:

*Если долго смотреть*
*на спящего, то можно*
*Различить его сны,*
*текущие из-под век,*
*По улыбке, дыханью,*
*по складкам у глаз и носа…*

Прыгожа… Гамзат Ізудзінаў з Дагестана зачароўвае гукамі незнаёмай, але такой дзіўнай мовы, Нурлан Калыбекаў з Кыргызстана здзіўляе чыстай і крыху наіўнай рамантычнасцю…

Ёсць у альманаху і творы паэтак з Беларусі — Таццяны Сівец і Алены Харук. Але не толькі яны прадставілі нашу краіну ў “Академии поэзии”. Да іх кампаніі далучыліся старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка, а таксама сябар Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў і Саюза пісьменнікаў Расіі Дзіяна Дзмітрыева. Вершы гэтых паэтак апублікаваны ў іншым раздзеле — “Рускае замежжа”.

Калі ж разгледзець сам альманах, то зразумела, што гэта і сапраўды цэлая акадэмія! Тут і падзеі ў літаратурным жыцці асвятляюцца (у прыватнасці, Першая міжнародная нарада маладых пісьменнікаў у Перадзелкіне і Першы міжнародны фестываль славянскай паэзіі ў Расіі) праз інтэрв’ю з іх арганізатарамі і паэтычныя творы ўдзельнікаў. Знайшлося тут месца як класікам літаратуры, знакамітым аўтарам, так і маладым творцам.

# Под куполом июля

**Елена ТАРАСЮК,**
**фото автора**

“Нет развлечения дешевле чтения книг и нет удовольствия более длительного”, — утверждала английская писательница Мари Монтегю ещё в XVII веке. “Времена изменились, книга стала дорогой”, — скажете вы. Но, заглянув в книжные магазины “Белкниги”, приятно удивитесь. Здесь царит “Июль книжный” — месячник по расширенной продаже печатных изданий издательской группы “АСТ” и ООО “Харвест”.

Минский магазин “Книги & книжечки” тоже не остался в стороне от акции, организованной в рамках Года книги. Сотрудники магазина с продукцией данных издательств работают с удовольствием — ценовая политика “Харвеста” и качество оформления делают её привлекательной и доступной для людей с различным материальным достатком.

Но самое главное — широкий ассортимент. Трудно найти тему, не затронутую издательством. Любителям путешествий понравится серия подарочных альбомов “100 великих…”, которая приглашает в великолепные дворцы и таинственные замки, роскошные парки и неповторимые заповедники по всему миру, предлагая увлекательные загадки истории и знакомя с чудесами света.



*На книжных полках — издания “АСТ” и “Харвеста”.*

В долгую дорогу с вами отправятся книги-малютки. Они не займут много места в багаже, но доставят минуты радости от встречи с любимыми строками Купалы, Коласа, Богдановича, Пушкина, Фета, Хайяма…

Интересуетесь историей? Вашим верным спутником снова станет “Харвест”: здесь изданы книги о самых интересных и трагических страницах истории как нашей родной Беларуси, так и всего человечества, великих войнах и сражениях, знаменитых полководцах и исторических деятелях.

Впрочем, к чему заочно рассказывать о том, что сегодня на наших полках? Книгу нужно держать в руках, слышать шелест страниц, чувствовать её запах, и тогда случится волшебство — вы обретёте верного друга на всю жизнь.

Загляните к нам в июле! Сотрудники магазина “Книги & книжечки” будут рады познакомить вас с литературой “АСТ” и ООО “Харвест” и подберут книгу по душе.

## *У падтрымку чытання*



# Колеры паэзіі

**Таццяна АТРОШАНКА,**
**паэт, кампазітар:**

Калі я пачынаю ўзгадваць сябе малую, у маіх руках кніга ўжо была… Выглядала гэта кніжка не надта прывабна — вокладкі на ёй не захавалася, але на першай старонцы былі намаляваны смешныя лапаць, бурбалка і саломіна. Я бегала з гэтай кніжкай за роднымі і, зазіраючы ў вочы, прасіла: “Пачытайце”. Часцей за ўсё гэта вялікая місія даставалася маёй сястры, старэйшай за мяне на восем год. Яна брала кніжку, мы садзіліся побач, і неўзабаве чулася сцішанае: “Братья Гримм…”

Я вельмі любіла вечары, калі мама нешта гатавала на кухні, тата ў гэты час чытаў газету “Известия”, раз-пораз паглядаючы ў тэлевізар, а я ішла да сясцёр, што рабілі хатняе заданне. Сястрычкі пераказвалі вывучанае адна адной, і я з адкрытым ротам слухала пра вучонага ката ці Афрыку… Неўзабаве замест алоўкаў і малюнкаў сёстры сталі класці перада мной азбуку, і, гуляючы ў настаўнікаў, паказвалі літары… Аднойчы вечарам я ўзяла любімую бацькаву газету, пакруціла яе так і гэтак і, важна ўсеўшыся, пачала чытаць так, як мне захацелася. А захацелася мне чытаць чамусьці справа налева. Спачатку дарослыя не звярталі на мяне ніякай увагі, але неўзабаве прыціхлі. Бацька, нагнуўшыся, стаў сачыць за пальчыкам, паўтараючы маю беліберду. Потым ён зрабіў вялікія вочы, сказаўшы ўсім: “Ну-ка, ціха!” І пад няўцямныя позіркі прысутных урачыста пачаў правільна вадзіць маім пальчыкам па паперы… Як сёння памятаю твары сваіх першых слухачоў… Вось так і пайшла я з кніжкай па жыцці — з цвёрдай упэўненасцю, што ўсё самае цікавае схавана там, на старонках, на якіх намаляваны смешныя бурбалка, саломіна і лапаць…

Як чалавек, які не ўяўляе свайго жыцця без паэзіі, магу сказаць, што паэзія для мяне — акенца ў таямніцу, якую мы называем душой. Гэта акенца празрыстае або цьмянае, яно сарамліва хаваецца за кустамі пышнага бэзу або ловіць святло ўсімі сваімі шыбамі… Апошнім часам чытаю кнігі паэтаў літаратурнага аб’яднання “Агмень”, якім кірую. Напрыканцы чытання ўяўляю ў сваіх руках кнігу зялёную, як у Т. Бярэзінай *(“у спякоце млее лета, ліпень у разгары / траўка вялая апоўдні аб дожджыку марыць…”)* або чорную, як у П. Бельскага *(“чорныя вочы, белыя крылы рухам паветра нас абудзілі / нехта ў сэрца ластаўкай б’ецца / рэха глухое не адгукнецца…”)*. Паэзія В. Хіхіча бачыцца мне ў колерах апалай лістоты, дзе лістота — перажытыя пачуцці, *(Зноў наведаўшы радзімыя мясціны / І надыхаўшыся водарам бароў / Я прыйшоў журботнаю хвілінай / да пакінутых калісьці хутароў…)* Паэзія Н. Крывічанкі — гэта колер неба, выцвілага ад спёкі (*“Изорвалось старенькое платье / Истопталась пара башмаков / А всё длится нежное объятье / Просто до скончания веков…”).*

Патрабавальны ўнутраны зрок ужо выпрошвае такое слова, якое праменіцца нябачным для вока чалавека колерам, але ведае навука і адчувае чуйная душа аматара паэзіі, што ён ёсць — там, далей за фіялетавым, апошнім, колерам вясёлкі… І цягнецца рука да зборніка Яўгеніі Пфляўмбаўм, які выпраменьвае ультрафіялет.



*Маладзічок*

# Летнія эцюды

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, фота аўтара

## Прыгажуня страказа

Сонечным цёплым летнім днём на ліст суніцы села страказа. Звычайна гэта насякомае ўяўляецца лёгкім, вясёлым, крохкім, вытанчаным. Як тая прадстаўніца са знакамітай байкі. Але, гледзячы менавіта на гэты від стракоз, разумееш, якую істоту нагадвае баявы верталёт. Вялікае тулава, буйная галава з вялікімі вачыма, моцныя крылы.

Страказа маланкава хутка ўзнялася ў паветра. Здавалася, яна напалохалася чалавека, але ўжо праз імгненне стала зразумела, што яе ўвагу прыцягнула нешта іншае. Бестурботны матылёк забыўся на асцярожнасць і… у наступны момант пачулася храбусценне лёгкіх белых крыльцаў. Страказа-драпежніца не ўпусціла здабычу.

## Вячэрні праменад

Велічны белы птах павольна праплывае па шараватай вадзе вялікай сажалкі. У кожным руху тонкай доўгай шыі — непаўторная грацыя і прыгажосць. Адлюстраванне лебедзя дрыжыць на воднай паверхні, калі ён раз-пораз апускае галаву пад ваду. Лебедзь ненадоўга пакінуў сваё гняздо — надышоў час падсілкавацца і крыху адпачыць. Але зусім хутка ён вернецца да гнязда, дзе яго чакае каханая і цэлы выводак маленькіх лебедзянятак.

## Рамантычны шпацыр

Вечар. Жоўта-аранжавы дыск сонца хіліцца да гарызонту. Здаецца, вось-вось яго распалены край апусціцца ў возера. Маладая сям'я качак выправілася на рамантычны шпацыр. Шэрая качачка какетліва калышацца на залацістай ад промняў сонца вадзе, а качар-прыгажун выпісвае вакол любай кругі, быццам выводзіць на воднай роўнядзі пяшчотныя словы кахання. Птушкі павольна плывуць у бок свайго гнязда і ў гэты момант, мабыць, думаюць, што ў цэлым свеце няма нікога больш шчаслівага, як яны.

## Вечнае каханне

Неяк аднойчы гнаў вецер над зямлёй парашуцікі дзьмухаўцоў, падобных на белыя пухнатыя сняжынкі. Насенне сонечных кветак чаплялася за траву і падала на зямлю. Два маленькія парашуцікі, што ляцелі разам, моцна трымаліся адзін за аднаго. Як ні стараўся, так і не здолеў вецер разлучыць іх і разнесці ў розныя бакі. Дачакаліся яны моманту, калі вецер перапыніў свой парыў, каб падзьмуць з новай сілай, хуценька апусціліся на зямлю і схаваліся за вялікім каменем. Вецер паляцеў далей, а парашуцікі засталіся. Прайшоў час, і з іх выраслі цудоўныя жоўтыя кветачкі — Дзьмухавец і Дзьмухавічка. Закахаўся санцавокі Дзьмухавец у залатую Дзьмухавічку і прапанаваў красуні стаць яго жонкай. "Мілы ты майму сэрцу. Буду я вечна з табою, як за каменнай сцяною", — адказала кветачка і дакранулася да вялікага каменя, які хаваў іх ад ветру. Шчаслівы жаніх зладзіў пышнае вяселле. Першымі прыляцелі пчолы, якія зазвычай рэгіструюць шлюб кветак. Сабраліся госці. Легкакрылыя матылькі віншавалі прыгожым танцам, конікі выводзілі на скрыпках цудоўныя мелодыі, а багоўкі хораша падпявалі. Вось так весела і цікава прайшла маладосць Дзьмухаўца і Дзьмухавічкі. І пачуцці іх толькі мацнелі. Ідэальная пара, вечнае каханне… Ішоў час. У пышных залатых валасах пачала прабівацца лёгкая сівізна. Падрасталі ў Дзьмухаўца і Дзьмухавічкі шмат-шмат дзетак. Раслі яны, маладзенькія парашуцікі, у мамы з татам ды радавалі іх. А як настаў час, развіталіся з бацькамі, ускочылі ў парыў ветру і паляцелі з бацькоўскай хаты шукаць утульнае месца ды будаваць сем'і. Памахалі ім услед старэнькія Дзьмухавец і Дзьмухавічка, абняліся і прытуліліся да цёплага каменя. Так і будуць яны разам. Заўсёды. Бо такое каханне жыве вечна.

## Дакрануцца да мары

Адна маленькая дзяўчынка марыла здзейсніць палёт у космас. Кожны вечар яна чакала, калі на вуліцы сцямнее, блакітнае неба стане чарнільна-сінім і на ім запаляцца мірыяды срэбных зорак. Дзяўчынка глядзела на далёкія нябесныя свяціла, любавалася імі і марыла калі-небудзь адарвацца ад Зямлі і паляцець да зорак. Ёй вельмі хацелася адкрыць новае прыгожае сузор'е і прыдумаць для яго цудоўную назву.

Неяк увечары, а той вечар быў незвычайны тым, што святкаваліся імяніны дзяўчынкі, яна сядзела на падаконніку і глядзела на цёмна-сіні аксаміт неба, вышываны бліскучымі стразамі зорак. Раптам маленькая летуценніца ўбачыла, як вялікая і яркая зорка сарвалася і паляцела. Знічка пакідала за сабой лёгкі бліскучы шлейф. Гэта прыгожае відовішча доўжылася ўсяго імгненне, але дзяўчынка паспела прашаптаць ёй сваё запаветнае жаданне: "Я мару апынуцца сярод зорак! І няхай гэта здарыцца ўжо заўтра!" Любому даросламу чалавеку гэта мара падалася б нязбыўнай, але маленькая дзяўчынка шчыра верыла ў тое, што яе жаданне абавязкова здзейсніцца. На наступны дзень маленькая летуценніца адправілася пагуляць на зялёны луг, які так вабіў сакавітымі колерамі. Яна спявала песні яркаму сонцу, гуляла ў даганялкі са жвавымі матылькамі, паказвала дзелавітым пчолкам самыя меданосныя кветкі. Дзяўчынка стамілася і прылягла на траву адпачыць. І тут здарыўся сапраўдны цуд… Жаданне, якое яна загадала на знічку, спраўдзілася. Сярод сакавітай зялёнай травы летуценніца ўбачыла маленечкія белыя кветачкі. Дзяўчынка ўсміхнулася і правяла пальчыкамі па мініяцюрных зорачках. Яна дакранулася да сваёй мары! У кветачках дзяўчынка разглядала сузор'і, прыдумвала ім назвы. Налюбаваўшыся зямнымі зоркамі, летуценніца паглядзела ў высокае блакітнае неба і памахала ручкай Зорнай Феі, якая выканала яе самае запаветнае жаданне. Бо менавіта для яе ў траву ўпалі сапраўдныя зоркі…



## У добры шлях!

На беразе ракі стаіць сухая вярба. На ёй уладкаваўся стары крумкач. Ён грэецца ў промнях цёплага сонца, радуецца добраму надвор'ю і таму, што ён, стары птах, яшчэ жывы. Раптам цішыню парушае забіяцкае кракатанне і плёскат вады. Крумкач незадаволена прымружвае вочы і глядзіць на парушальнікаў яго спакою. Маладая качка-маці вывела сваіх дзіцянят на трэніроўку, вучыць іх нырцы ды плаваць. Першыя жыццёвыя ўрокі малыя спасцігаюць узрушана, шумна плёскаюцца, старанна паўтараюць за мамай усе рухі. А яна, задаволеная сваімі дзецьмі, нягучна пакраквае, хваліць іх. І стары крумкач раптам пераносіцца на шмат-шмат гадоў назад у сваё бестурботнае дзяцінства. Калі ён сам быў жвавым цікаўным птушанём, калі ён толькі вучыўся лётаць і выжываць у гэтым няпростым свеце. "Лёгкага і шчаслівага лёсу вам, качаняты! У добры шлях!" — у думках пажадаў крумкач. Стары птах заплюшчыў вочы і задрамаў. Скрозь сон чуе ён вясёлую валтузню качанят, і сніцца яму далёкая вясна, калі ён быў маленькім птушанём і глядзеў на велізарны яркі свет бліскучымі пацеркамі чорных цікаўных вачэй.

## Падарунак Сонца

Вялікае распаленае Сонца аранжава-чырвонага колеру ззяла высока-высока над блакітнай планетай. Магутнае Свяціла добразычліва абагравала зямны шар і само сабе здавалася важным ад таго, што дзякуючы яму планета жыве. І раптам упершыню за мільёны і мільёны гадоў Сонцу захацелася паглядзець на тых істот, каму яно дорыць жыццё. Распаленая зорка выкінула струмень энергіі і накіравала яе на блакітную планету. На Зямлі гэты пільны погляд назвалі незвычайна магутнай актыўнасцю Сонца, прагназавалі магнітныя буры, папярэджвалі пра магчымыя збоі ў працы прыбораў… І вось цікаўны погляд дасягнуў Зямлі. Сонца ўбачыла вялікае мноства жывых істот. Усе яны былі такімі рознымі і незвычайнымі. Сонца здзівілася ўсяму, што было створана рукамі чалавека і прыдумана інтэлектам. Погляд Свяціла слізгаў па зямлі. Сонца захапілі асляпляльна белыя снягі, высокія магутныя горы, бяздонныя сінія моры і акіяны, раскошныя смарагдавыя лясы. Рухавы погляд Сонца, што хутка прабягаў па найпрыгажэйшых месцах Зямлі, раптам затрымаўся на невялікай палянцы. На яркай сакавітай траве, расаслаўшы белае пакрывала, сядзела маленькая дзяўчынка. У яе ў руках былі альбом і фарбы. Малая, прымружваючы вочы, глядзела ў яркае блакітнае неба і малявала на лісце паперы аранжавае сонца. Нябеснае свяціла захапілася дзіцячым малюнкам і залюбавалася маленькай мастачкай. Валасы дзяўчынкі, заплеценыя ў косы-каласкі, былі такога ж колеру, што і спелае пшанічнае калоссе, а вялікія ясныя вочы нагадвалі два яркія сінія васількі. Раптам на гэтыя цудоўныя вочы набег цень суму. Малая трохі збянтэжылася ад таго, што капнула на белую льняную сукеначку кроплю аранжавай фарбы. Але ўжо ў наступнае імгненне на дзіцячым тварыку з'явілася ўсмешка: "Хай і ў мяне на сукенцы будзе сонейка!" Знаходлівая мастачка ўпэўнена ператварыла кроплю ў круг і дамалявала праменьчыкі. Задаволеная рашэннем, дзяўчынка зноў памачыла пэндзаль у фарбу і, смешна прымружыўшы вочы, паглядзела на Сонца. Партрэт, напісаны дзяўчынкай, вельмі спадабаўся нябеснаму Свяцілу. Ды і маленькая мастачка проста зачаравала яго. На развітанне Сонца вырашыла пакінуць малой падарунак на памяць. Яно прыгрэла зямлю і ўдыхнула ў яе сваю магутную энергію. І тут на вачах у здзіўленай малечы здарыўся цуд: са смарагдавай зеляніны травы сталі ўздымацца яркія аранжавыя кветкі. "Такія ж прыгожыя, як сонейка!" — прашаптала дзяўчынка і стала маляваць іх у сваім эцюдным альбоме. "Я абавязкова вярнуся сюды!" — паабяцаў сонечны погляд і пабег далей.

## Першае спатканне

Ох ужо гэтыя дзяўчынкі… Што ж яны такія складаныя і незразумелыя? А якія загадкавыя! Часам капрызныя і наогул дзіўныя… Паспрабуй іх зразумей! Вось пазнаёміўся я нядаўна з адной цікавай асобай. Прыгожая яна вельмі, проста прынцэса з казкі! Валасы светлыя кучаравыя, банцікамі перавязаны. Сукенка, здаецца, проста кіпіць усялякімі там карункамі і стужачкамі. На басаножкі дык і зусім два матылькі прыселі. Я спачатку падумаў, што яны сапраўдныя, баяўся паварушыцца, каб не напалохаць, і толькі потым зразумеў, што гэта ўпрыгожванне такое. А яна засмяялася так звонка, нібыта званочак зазвінеў. Хораша смяецца. А спявае як выдатна! Проста сапраўдная артыстка. Вось вырасце яна і стане на сцэне выступаць, а я буду на ўсе яе канцэрты хадзіць і дарыць вялікія букеты самых прыгожых кветак.

Яна любіць на арэлях катацца. І гэта вельмі выдатна. Калі яна хоча пагушкацца, то просіць мяне дапамагчы. А мне падабаецца яе разгойдваць. Тады яе бялявыя кудзеркі смешна спружыняцца, а стужачкі на сукенцы ляцяць па ветры. Прыгожая дзяўчынка. Мне вельмі падабаецца.

Учора ўвечары прапанаваў ёй сябраваць. І яна пагадзілася, калі я ёй зорачку падару. Самую прыгожую. І я знайшоў шмат-шмат зорачак. Сініх-сініх, як яе вочы. Вось прызначыў ёй першае спатканне і прынёс цэлы букет зорачак-васількоў. Дзяўчынкі кветкі любяць. А вось і яна ідзе, усяго на паўгадзінкі спазнілася! Усміхаецца. Значыць, рада нашаму першаму спатканню. Ну, я пайшоў!

# Інтанацыя Смольскага

**Народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяжаўнай прэміі БССР Дзмітрыю Смольскаму, безумоўнаму лідару сённяшняй кампазітарскай школы Беларусі, споўнілася 75. Яго творы — своеасаблівы свет, у якім маштабнасць вобразаў на дзіва арганічна спалучаецца з тонкім майстэрствам музычнага гукапісу. У яго музыцы ёсць усведамленне трагічнасці чалавечага быцця і разам з тым — светлы роздум і асэнсаванне таго патаемнага, што дае веру ў неўмiручасць вечных каштоўнасцей. Яго майстэрскае валоданне сучаснай кампазітарскай тэхнікай неад'емнае ад класічнай дасканаласці формы і той найвыразнай самабытнасці, што завецца "інтанацыя Смольскага". Асабліва ж уражваюць бязмежная эмацыянальнасць і глыбінная тэмпераментнасць яго музыкі.**



*Народны артыст Беларусі, прафесар Дзмітрый Смольскі (справа) са сваімі вучнямі. Фота з архіва "ЛіМа".*

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

**Музыку для сольных інструментаў** кампазітар пісаў у розныя перыяды творчасці. У яго ёсць канцэрты для фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі. Але асабліва плённым было супрацоўніцтва з вядомым беларускім цымбалістам Яўгенам Гладковым, які стаў першым выканаўцам трох канцэртаў Дзмітрыя Смольскага для цымбал з аркестрам. Кампазітар успамінае: "Працаваць над Першым цымбальным канцэртам мне вельмі дапамаглі кансультацыі выдатнага музыканта, знаўцы гэтага інструмента Іосіфа Жыновіча. Яго прафесійныя парады спрыялі ў стварэнні таксама і майго Другога канцэрта для цымбал з аркестрам. Работа была завершана, калі Жыновіча не стала. Я прысвяціў гэты твор яго памяці. У студзені 1983-га я напісаў Трэці канцэрт для цымбал з аркестрам — спецыяльна для Яўгена Гладкова".

Сёння гэтыя творы іграюць ужо вучні прафесара Гладкова.

Вялікі грамадскі розгалас выклікалі ў свой час дзве манументальныя араторыі Д. Смольскага: "Мая Радзіма" (1970) на вершы беларускіх паэтаў і "Паэт" (1981) на вершы Янкі Купалы з арыгінальнай, глыбокай псіхалагічнай трактоўкай вобраза народнага песняра. "Янка Купала для мяне — гэта нацыянальны гонар, увасабленне нашай культуры, — кажа Д. Смольскі. — Мне хацелася паказаць гэты вобраз шматгранна, рознабакова, паказаць Купалу-паэта і чалавека. Перш чым пісаць араторыю, я вельмі падрабязна знаёміўся з усёй паэзіяй нашага класіка, каб зразумець Купалу, адчуць яго вершы, яго душу".

Дарэчы, кампазітар мае асаблівы слых на паэзію, тонка яе адчувае і цікава "прачытвае". Прыклад — вытанчаныя, ювелірна аздобленыя сродкамі музыкі вакальныя творы на вершы Е. Лось, Цёткі, А. Палонскага, Ф. Цютчава, Г. Гейнэ, М. Цвятаевай, Г. Ахматавай. "Я шукаў тыя выразныя сродкі, якія найбольш адпавядалі б літаратурнай першакрыніцы. Я люблю паэзію. Часам проста чытаю вершы як і кожны чалавек, а часам чытаю вершы як кампазітар, стараючыся адразу знайсці музычны вобраз верша. Бывае, патрэбны пэўны час, каб зразумець, што той ці іншы літаратурны твор можа стаць асновай твора музычнага", — кажа ён.

**З імем Д. Смольскага** звязаныя і яркія старонкі ў оперным жанры. Дастаткова прыгадаць "Сівую легенду" на лібрэта У. Караткевіча (паводле аднайменнай аповесці). Яе прэм'ера адбылася на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў сакавіку 1978-га. Спектакль быў у рэпертуары на працягу шасці сезонаў. І вось год сёлетні адкрывае новую старонку ў гісторыі твора: рыхтуецца пастаноўка другой рэдакцыі "Сівой легенды".

Вось што расказвае з гэтай нагоды Дзмітрый Браніслававіч: "Бясконцасць моўных адценняў адчуваецца ў творах Уладзіміра Караткевіча. Час напісання оперы, час блізкіх стасункаў з вялікім пісьменнікам, для мяне быў дарам лёсу. Караткевіч мысліў беларускай мовай, беларускай вобразнасцю, беларускай душой і, што не менш важна, — для беларускай душы. Праз гэту сутнасць "ад каранёў" ты разумееш, што інакш і не можа, не павінна быць. Караткевіч — тая прыродная стыхія, якая і завецца — Беларусь... А вяртанне кампазітара да сваіх ранейшых работ — нармальная з'ява ў мастацтве. Змяняецца час, мяняемся мы — і бачым, што ва ўжо зробленым хочацца нешта падкарэкціраваць. Так што цяпер гэта будзе практычна новы твор: з іншай аркестроўкай, драматургіяй. Многія, думаю, памятаюць і пастаноўку 1978 года, і тэлефільм, у якім удзельнічалі акцёры Купалаўскага тэатра, а спявалі "па-за кадрам", вядома ж, артысты оперныя. Хочацца, каб сцэнічны лёс цяперашняй "Сівой легенды" быў не менш шчаслівы".

Галоўны дырыжор НАВТ оперы і балета Беларусі Віктар Пласкіна прызнаецца, што з вялікай цікавасцю працуе над гэтай операй: "Я ўжо цяпер бачу, які гэта будзе важны і патрэбны спектакль. Мару, каб яго ўбачылі ва ўсім свеце, каб дакрануліся да прыгажосці пяшчотнай і глыбокай беларускай душы. Такі матэрыял! Можа, я і прыехаў у Беларусь з Украіны менавіта для таго, каб увасобіць «Сівую легенду»!"

**Інтэрнэт-абмеркаванне** музыкі Д. Смольскага прыцягнула маю ўвагу выказваннем аднаго з наведвальнікаў філармоніі: "Дзмітрый Браніслававіч Смольскі — найвялікшы з беларускіх сімфаністаў нашага часу. Так, жанр сімфоніі яшчэ не памёр, дзякуючы такім тытанам, як Дзмітрый Браніслававіч, з кім я меў гонар пазнаёміцца".

Сапраўды, менавіта сімфоніі — цэнтр увагі і пошукаў Д. Смольскага, асноўны складнік яго шматжанравай творчасці. У іх найбольш поўна раскрылася мастацкая індывідуальнасць кампазітара. А для гісторыі айчыннай музыкі гэтыя творы — важны этап у развіцці непраграмнага сімфанізму, адлюстраванне духоўнай атмасферы часу. Праца над сімфоніямі вызначыла цікавасць кампазітара да калажнай тэхнікі, заснаванай на спалучэнні аўтарскага матэрыялу з музыкай класікаў; да полістылістыкі, якая пашырыла межы жанру, наблізіла сімфонію да канцэрта ці своеасаблівага музычнага апавядання.

Гітарыст Аляксандр Цалуйка ўспамінае: "Дзмітрый Смольскі — адзін з самых вядомых і таленавітых кампазітараў былога Савецкага Саюза. Не першы раз ён звярнуўся да эксперыментаў з уключэннем у сімфанічную партытуру электрагітары. У яго 9-й сімфоніі партыю электрагітары выконваў сын Дзмітрыя Браніслававіча, сусветна вядомы гітарыст Віктар Смольскі. Калі я быў на 3-м курсе Мінскага музычнага вучылішча, Дзмітрый Браніслававіч прадстаўляў у зале Белдзяржфілармоніі сваю 11-ю сімфонію. Я быў пад вялікім ураджаннем і падышоў павіншаваць кампазітара, выказаць самыя цёплыя словы пра яго творчасць. Нечакана для сябе атрымаў запрашэнне ў госці. Замест пяціхвіліннай сустрэчы за кулісамі атрымалася паўтарагадзінная размова ў кампазітара дома. Там быў і Віктар. Так я пазнаёміўся з сям'ёй Смольскіх. Потым мы доўга не бачыліся, пакуль я не запрасіў Дзмітрыя Браніслававіча ў музычнае вучылішча на свой дзяржаўны экзамен, дзе я іграў кампазіцыю Віктара Смольскага "Дзень без твайго кахання": думаў, кампазітару будзе прыемна паслухаць твор сына — вельмі прыгожую інструментальную баладу. А прыкладна праз тыдзень пасля экзамену Дзмітрый Браніслававіч патэлефанаваў з нечаканай і галавакружнай просьбай. Аказалася, ён напісаў 13-ю сімфонію для электрагітары да сваёй аўтарскай вечарыны, прысвечанай 70-годдзю. Віктар, на жаль, не змог удзельнічаць у канцэрце з-за насычанага гастрольнага графіка. І таму кампазітар прапанаваў сыграць на юбілейнай вечарыне сольную партыю ў новай сімфоніі — мне... Публіка прыняла прэм'еру вельмі цёпла, і другую частку мы сыгралі на "біс". Калі трэба было выходзіць на паклон, я адчуў, як на вочы набягаюць слёзы радасці. Зала апладзіравала стоячы. З усіх бакоў было чуваць «брава!»"

Сваю Першую сімфонію Д. Смольскі напісаў у 1962-м. Прэм'ера самай новай, 15-й, прагучыць у праграме, прысвечанай юбілею кампазітара, падчас сёлетняга фестывалю "Беларуская музычная восень".

**Творчы свет** Д. Смольскага немагчыма ўявіць без педагагічнай працы.

На працягу 50 гадоў Дзмітрый Браніслававіч выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Кожны з вучняў, маючы індывідуальны яркі стыль, імкнецца, не пераймаючы свайго непаўторнага настаўніка, дасягнуць прафесійных вышынь Д. Смольскага, які па-ранейшаму ўмее здзіўляць і захапляць, прымушае разважаць і шукаць новыя шляхі ў высокім мастацтве. "Яшчэ ў пачатку сваёй педагагічнай працы зразумеў: толькі сваіх кампазітарскіх здольнасцей недастаткова, каб быць добрым педагогам па кампазіцыі, — разважае майстар. — Патрэбны вялікі духоўны багаж, уласны творчы досвед, дый жыццёвы. Кампазіцыя — інтуітыўны працэс, навучыць пісаць музыку немагчыма, бо сам не ведаеш, як гэта адбываецца".

**Даведка "ЛіМа"**

*Нарадзіўся Д. Смольскі ў сям'і знанага даследчыка беларускага музычнага тэатра Б. Смольскага. Першыя ўрокі кампазіцыі даваў Дзмітрыю Браніслававічу айчынны класік Я. Цікоцкі. А яшчэ прафесіі яго вучылі Ю. Шапорын, А. Багатыроў, М. Пяйко. На пачатку творчага шляху Д. Смольскі сур'ёзна захапляўся дадэкафоніяй, але потым яго стыль зрабіўся больш "памяркоўным". У шэрагу буйных твораў кампазітар тонка спалучыў традыцыйныя і наватарскія элементы музычнага пісьма. Ён аўтар 14 сімфоній, трох опер, некалькіх араторый, канцэртаў для розных інструментаў з аркестрам, шматлікіх вакальных, харавых і камерна-інструментальных твораў, песень, музыкі да кінафільмаў і тэатральных спектакляў. Творы Д.Смольскага гучаць ува многіх краінах свету, а кампакт-дыск з запісамі яго музыкі, выпушчаны брытанскай фірмай "Алімпія", быў прызнаны лепшым на конкурсе дыскаў у ЗША ў 1992 годзе.*

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА, фота аўтара**

Са святкаваннем 130-годдзя Янкі Купалы звязана яшчэ адна знамянальная дата ў гісторыі нашай культуры. Сорак гадоў таму ў Мінску, у вядомым Купалаўскім парку, быў усталяваны бронзавы помнік песняру, вядомы сёння ўсім. Скульптары Анатоль Анікейчык, Леў Гумілеўскі ды Андрэй Заспіцкі, якія працавалі над манументам, былі адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй БССР. Урачыстае адкрыццё новага помніка адбылося 7 ліпеня 1972 г.

Шосты год запар ладзілася ў Іванаўскім раёне "Гасцёўня Напалеона Орды" — мастацка-асветніцкі праект Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Сталічныя музыканты парадавалі землякоў славутага мастака і кампазітара трыма праграмамі. Выступленні адбыліся ў Доме культуры СВК "Прыясельдны", у Доме культуры прадпрыемства "Маладава-Агра" і на плошчы Кастрычніка ў цэнтры Іванава. У праграмах "Прывітанне Іванаўшчыне" і "Беларускае Палессе" гучалі ўзоры акадэмічнай музыкі, у тым ліку творы Н. Орды, а гала-канцэрт складаўся з пясеннага рэпертуару аркестра.

Мінула 80 гадоў з дня нараджэння народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесара Анатоля Анікейчыка. Многім яго аднагодкам дый старэйшым калегам лёс падараваў плённае творчае даўгалецце. А жыццё А. Анікейчыка — такога прыгожага, магутнага, энергічнага, таварыскага і незалежнага духам, таленавітага чалавека, Настаўніка — раптоўна абарвалася ў лютым 1989-га. За свае 56 з



*Май Данцыг "Партрэт скульптара А. А. Анікейчыка" (1988).*

паловай гадоў ён стварыў чараду скульптурных партрэтаў рэальных людзей і манументальных кампазіцый, усталяваных у Беларусі ды за мяжой. "З яго рук" выходзілі ў свет выразныя і адухоўленыя абліччы В. Ваньковіча ў маўклівым дыялогу з А. Пушкіным, М. Багдановіча ("Сны пра Радзіму"), У. Караткевіча, М. Лынькова, П. Чайкоўскага, Г. Ахматавай, С. Прытыцкага, П. Машэрава, Э. Чэ Гевары. "Прарыў" ва Ушачах і помнік экіпажу М. Гастэлы ля Радашковічаў, бюст Янку Купалу ў нью-ёркскім Араў-парку і кампазіцыя "Восень паэта" ў Ляўках, фантаны "Юнацтва" і "Купалінкі" ў Мінску — толькі частка яго выдатнай творчасці.

# Рэжысура — няспынны пошук

Крысціна СМОЛЬСКАЯ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Гісторыю робяць асобы, тэатр — рэжысёры. Сучасная беларуская рэжысура хутчэй імкнецца захоўваць традыцыі, чым ісці шляхам эксперыменту. Сталае пакаленне (В. Анісенка, А. Гарцуеў, М. Пінігін, У. Савіцкі) працуе ў жанры псіхалагічна-побытавага тэатра, маладое (К. Аверкава, Я. Карняг, А. Янушкевіч) спрабуе эксперыментаваць з формай, выкарыстоўваючы прыёмы гэтак званага "постдраматычнага тэатра". Сяргей Кавальчык — найбольш яркі прадстаўнік сярэдняга пакалення, таго пакалення рэжысёраў, якое фарміравалася ў бурныя 1990-я гады — час, калі адбываліся змены ў сацыяльна-палітычным і культурным жыцці Беларусі.**

Гэта прафесія вымагае цвёрдай жыццёвай пазіцыі, таленту і няспыннай працаздольнасці. У Сяргея Кавальчыка, галоўнага рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, усе пералічаныя вартасці ёсць. Напэўна, штосьці "атрымаў у спадчыну" ад бацькі — вядомага тэатральнага рэжысёра Міхаіла Кавальчыка, штосьці кшталтаваў у сабе сам.

За восем гадоў працы ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі Сяргей Кавальчык зрабіў пастаноўкі, знакавыя для тэатральнай культуры Беларусі.

У тэндэнцыйнай "Адвечнай песні" купалаўская паэма ўвасобілася ў "фольк-оперы". Менавіта таму замест драматычнага дзеяння тут дамінуе музычны складнік, прытым вакальныя нумары гучаць у жывым выкананні артыстаў. Спектакль атрымаў Гран-пры "Славянскіх тэатральных сустрэч" у намінацыі "За лепшы спектакль" (Гомель, 2003), Гран-пры фестывалю "Галасы гісторыі" (Волагда, 2007) і іншыя ўзнагароды.

Дзеянне спектакля характарызуецца адкрытай умоўнасцю, а кожная частка-праява Купалавага твора набывае ў пастаноўцы сваю танальнасць, сваю адметную рытміка-інтанацыйную арганізацыю. Рэжысёр С. Кавальчык дакладна ідзе за тэкстам, перакладаючы яго на яркую сцэнічную мову, стварае захапляльнае, дынамічнае, музычнае тэатральнае відовішча. Сцэнаграфія У. Цімафеева падпарадкавана агульнай рэжысёрскай канцэпцыі, менавіта таму мастак стварае стылізацыю пад аўтэнтычнасць часу паэмы. На сцэне сімвалічныя дэталі: калыска, вясельны стол, магіла. Спектакль "Адвечная песня" адметны моцнай энергетыкай і акцёрскім ансамблем. Купалаўскія ўніверсальныя вобразы акцёры прадстаўляюць ярка і запамінальна, знаходзячы адметныя фарбы: Мужык — І. Сігоў, Матка — Т. Мархель, Жонка — В. Васілеўская, Доля — Г. Чарнабаева. Тэатр пэўным чынам "карэкціруе" стэрэатып вобраза гаротнага беларуса: пастаноўка нясе пазітыўнае пасланне пра тое, што нягледзячы на боль і няўдачы, холад і голад, бяду і гора, няшчасці і войны, якія выпалі на ягоную долю, ёсць каханне і сям'я, вера і надзея, што наступнаму пакаленню будзе лягчэй і лепей жыць. Рэжысура перамешвае драматызм з лірызмам і завяршае дзеянне "Адвечнай песні" катарсісам фінальнай песні-гімна Чалавеку, Беларусу, які здолеў захаваць годнасць і веру. Мастацкая адметнасць і вобразная завершанасць з'яўляюцца галоўнымі рысамі гэтай пастаноўкі, якую Таццяна Арлова ў сваёй кнізе "Театральная критика нового времени" ахарактарызавала як "новы тып тэатральнай камунікацыі".


Сцэна са спектакля "Бег".

Працуе С. Кавальчык як з класічнай, так і з сучаснай п'есай. У спектаклях "Шлях у Царград" З. Косціча (узнагарода "За творчае супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Сербскай" на IV міжнародным тэатральным форуме "Золотой Витязь" (г. Масква, 2006) і "Сёстры Псіхеі" С. Кавалёва (Гран-пры IX міжнароднага фестывалю антычнага мастацтва "Баспорскія агоны", г. Еўпаторыя, 2007) дамінантай рэжысёрскага ўвасаблення таксама робіцца музычны складнік і выкарыстоўваецца рознастылёвая музыка: рэп, лірычныя песні, фальклор.

З 2008 года С. Кавальчык — на пасадзе галоўнага рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Працуючы тут, ён заслужыў павагу акцёраў і зрабіў шэраг адметных пастановак: "Бег" М. Булгакава, "Рускія вадэвілі" П. Грыгор'ева ды П.Фёдарава, "Гора ад розуму" А. Грыбаедава, "Пане Каханку" А. Курэйчыка. Гэтым работам уласцівы пошук выразнай мастацкай формы — заўсёды арыгінальнай і здатнай выявіць глыбокі сэнс. Рэжысёр, глыбока прапрацоўваючы матэрыял, стварае сэнсавае поле, у якім сцэнічная вераемнасць узнікае не з жыццёвага праўдападабенства, а з мастацкасці асаблівага кшталту. У спектаклях С. Кавальчыка ёсць, можна сказаць, галоўнае для тэатра: энергетыка, якая моцна ўздзейнічае на гледача. Стваральнік гэтых спектакляў гаворыць пра сучаснасць, застаючыся на тэрыторыі мастацкасці і не збочваючы ў адкрытую публіцыстыку.

У спектаклі "Пане Каханку" дзейнічае Станіслаў Караль Радзівіл, вядомы як "Пане Каханку". "Мастацкая выдумка" — так пазначаны жанр пастаноўкі, аўтары якой прапаноўваюць уласную версію гістарычных падзей, дзе галоўным з'яўляецца дачыненне герояў мінуўшчыны да сучаснасці. У аснове сюжэта — гісторыя візіту караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (артыст А. Суцкавер) да магната Станіслава Караля Радзівіла (артыст Р. Янкоўскі) з просьбай наконт грашовай дапамогі дзяржаве. Рэжысёрская манера спалучае метафарычныя і побытавыя сродкі выразнасці. Пане Каханку, напрыклад, кожны дзень вучыць слуг лятаць у літаральным сэнсе гэтага слова, спрабуючы паказаць людзям, што яны здольныя на большае, чым мяркуюць. Расійскі крытык Наталля Старасельская ў надзвычай станоўчым водгуку на гэты спектакль у часопісе "Страстной бульвар" ("Пане Каханку" ўдзельнічаў у Міжнародным тэатральным фестывалі імя Рыбакова, г. Тамбоў) задае пытанне: "Што такое нацыянальны герой сёння? Якім ён павінен быць? Згодна з думкай А. Курэйчыка і С. Кавальчыка, гэта чалавек, які не ведае страху вышыні ў шырокім сэнсе гэтага слова, чалавек, які верыць у тое, што чалавек можа і павінен лятаць, інакш які ён чалавек?" У ролі Станіслава Радзівіла Р. Янкоўскі стварае вобраз сапраўднага героя — асобы, якая мае цвёрдыя жыццёвыя прынцыпы і ніколі ні перад кім не прынізіцца. Разам з тым ён не пазбаўлены простых "зямных" пачуццяў: закахаўся ў маладую дзяўчыну Алесю (артыстка В. Пляшкевіч) і імкнецца сустрэцца з ёю. Ён амбітны і ўладарны чалавек, які хацеў бы кіраваць дзяржавай і які шчыра любіць свой народ (фраза пра тое, што беларуская мова — гэта не дыялект, а самастойная мова, належыць менавіта яму).

Пры ўсёй сур'ёзнасці такой тэатральнай размовы, рэжысёр не імкнецца да манументальна-пафаснага відовішча, ён актыўна выкарыстоўвае лёгкую іронію ў дачыненні, напрыклад, да караля. На сцэне — сапраўдная ванна, у якой плюхаецца каранаваны герой, пакуль Камердзінер (артыст А. Голуб) мые адзіныя порткі высокай асобы. Пафасныя размовы пра лёс радзімы намыленага караля ператвараюцца ў трагіфарс, дзе Панятоўскі выглядае смешна і недарэчна.

Канфлікт двух гістарычных персанажаў вынікае не так са спробы асэнсаваць гістарычнае мінулае, як з жадання наладзіць дыялог пра беларускую рэчаіснасць, ментальнасць і самаідэнтыфікацыю.

Дарэчы, дзіўная рэч: вядомыя расійскія крытыкі часам ставяцца да творчасці С. Кавальчыка лепей, чым айчынныя. Беларускія абвінавачвалі, напрыклад, "Пане Каханку" ў гістарычнай недакладнасці. А згаданая вышэй Наталля Старасельская піша: "Далёка не ўсе зразумелі рэжысёра, гартаючы беларускую прэсу, давялося прачытаць шмат несправядлівых папрокаў за няведанне гісторыі сваёй краіны і непавагу да сваіх гістарычных герояў. Мяркую, што гэта зусім не так. Мастацкая выдумка — гэтак вызначаны жанр пастаноўкі, але выдумка чыстая і высокая, бо за ёй стаіць сапраўдны клопат пра тое, як здабываецца нацыянальная ідэя". Можа, нам і сапраўды трэба больш пільна прыглядацца да свайго, беларускага, а не чакаць, пакуль зверне ўвагу нехта з-за мяжы?

У бліжэйшых планах рэжысёра — "Падводнікі" А. Курэйчыка і "Бесы" Ф. Дастаеўскага (інсцэніроўка М. Рудкоўскага). А гэта значыць, зноў распачнецца руплівая праца над п'есай, дыскусіі пра сцэнаграфічнае вырашэнне з мастаком Алесяй Сакорнай... Сяргею Кавальчыку ўласцівы няспынны пошук новага: новых сэнсаў, тэм, сродкаў выразнасці. Яго тэатр — гэта тэатр яркіх вобразаў і глыбокіх думак.

# Эўтэрпа, Мельпамена, Кліо...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Называць Нясвіж сталіцай муз пачалі з таго часу, як гэты горад стаў калыскай унікальнага музычна-асветніцкага руху. А менавіта — 17 гадоў таму, калі Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі распачаў тут новы фестывальны праект, у які паступова ўлучыліся гістарычныя мястэчкі ды старажытныя гарадкі ў розных абласцях Беларусі. Адна з адметнасцей фэсту "Музы Нясвіжа" — асветніцкі напрамак і навуковая абгрунтаванасць яго поліжанравых праграм. Арганічным складнікам гэтага свята мастацтваў зрабіліся і навукова-практычныя канферэнцыі, прычым беспрэцэдэнтнай традыцыяй кожнага такога фестывальнага "форуму вучоных муз" з'яўляецца выданне матэрыялаў канферэнцыі не пасля, а напярэдадні яе правядзення. Сёлетні зборнік даследчых дакладаў і паведамленняў успрымаецца як змястоўны ўнёсак у праграму "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі 2012 года" і як заўважнае дапаўненне да чарады падзей, прысвечаных Году кнігі.

Кідкая назва на вокладцы "Нясвіж — мастацкая сталіца Беларусі": што за ёю? Своеасаблівы гістарычны партрэт, складзены з навуковых публікацый, мазаічны люструнак той, вядомай на еўрапейскім абсягу, сталіцы муз, якою зрабілі сваю рэзідэнцыю Радзівілы. Укладальнік выдання, знаны музыколаг В. Дадзіёмава скампанавала кнігу такім чынам, што гэты, скажам так, духоўна-культурны партрэт старадаўняга горада падаецца ў кантэксце сённяшняга дня, у "фестывальнай апраўе". Прадмова мастацкага кіраўніка праекта "Музы Нясвіжа", маэстра М. Фінберга падкрэслівае прыярытэтнае стаўленне арганізатараў фэсту да працэсаў асваення, захавання, папулярызацыі нашай мастацкай спадчыны. Аўтар першай у зборніку публікацыі — прафесар Р. Сергіенка — разважае пра навуковую аснову мастацкіх праектаў аркестра ў малых гарадах. Завяршае кнігу работа аспіранткі БДАМ В. Царык — агляд музычнай культуры Нясвіжа ад гісторыі да сучаснасці.

А цэнтрам прыцягнення ўвагі кожнага, каго зацікавіць выданне, будуць унікальныя даклады пра касцюміраваныя забавы магнатаў ВКЛ (А. Скяп'ян), пра помнікі рэлігійнай музыкі з Нясвіжа (Т. Ліхач) і нясвіжскія цэрквы (В. Пазнякоў), пра Альбянскі паркавы комплекс (М. Мяцельскі), пра нясвіжскае барока як архітэктурна-мастацтвазнаўчае паняцце (Т. Габрусь), пра творчы лёс нясвіжскага жывапісца Юліяна Фалата (Н. Усава) і сцэнаграфію княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл ды тэатральнасць нясвіжскай культуры XVIII стагоддзя (В. Бажэнава), пра дзейнасць Эдварда Гірдо, захавальніка музычна-літургічных традыцый у Беларусі (С. Шэйпа)... У навуковым кантэксце паразумеліся апякункі ўсіх класічных мастацтваў і самой гісторыі.




**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі"**

# Рэканструяваць Крашэўскага?

**У рамках II Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання", якую арганізавалі Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага і ўпраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама, адбылося пасяджэнне міжнароднага савета праекта "Віртуальная рэканструкцыя спадчыны Ю. Крашэўскага".**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Аляксандра Кухацкавольца**

### Каманда з трох краін

Славуты пісьменнік Юзаф Крашэўскі, 200-годзе якога адзначаецца 28 ліпеня, бадай, не патрабуе прадстаўлення. Дазволю нагадаць, што пісьменнік трапіў у "Кнігу рэкордаў Гінеса" за сваю "пладавітасць", а гістарычныя раманы творцы дагэтуль карыстаюцца нязменнай папулярнасцю сярод чытачоў. Але спецыялісты, якія займаюцца вывучэннем спадчыны Крашэўскага, кажуць пра шэраг "белых плям" і нявырашаных праблем. Вядома, што любую, нават самую складаную працу прасцей рабіць разам. Таму Брэсцкая абласная бібліятэка выступіла з ініцыятывай віртуальна рэканструяваць спадчыну Крашэўскага (паводле прыкладу спадчыны Сапегаў — адпаведны праект быў рэалізаваны раней).

Асоба Ю. Крашэўскага аб'яднала краіны, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Беларусь на "круглым стале" прадставілі старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, які вёў пасяджэнне; дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі Тамара Данілюк; яе намеснік па навуковай працы Ала Мяснянкіна; галоўны рэдактар рэдакцыі перыядычных выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна; загадчык кафедры тэорыі і гісторыі рускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Тацяна Сянькевіч; загадчык кафедры класічнай і сучаснай замежнай філалогіі ў той жа ўстанове Алена Ківака і начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Рыгор Бысюк (цяпер займае пасаду дырэктара мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой"). Украіну — дырэктар Ровенскай дзяржаўнай бібліятэкі Валянціна Ярашук, Польшчу — кіраўнік аддзела староства ў Бяла-Падлясцы Марыяна Туміловіч і прадстаўнік кіраўніцтва Бяла-Падляскі Мажэна Андрэюк.

### Ад агульнай структуры – да практыкі

Як падкрэсліў У. Шчасны, сёлета яго арганізацыя заявіла 10 праектаў, у тым ліку і "Віртуальную рэканструкцыю спадчыны Крашэўскага", які будзе складацца з двух дыскаў. Першы дыск павінен уключыць усю літаратурную спадчыну пісьменніка на чатырох мовах (беларуская, руская, украінская і польская), ілюстрацыйныя матэрыялы і музычныя сачыненні Крашэўскага, якія прадаставіць польскі бок. Другі дыск мусіць складацца з бібліяграфіі пісьменніка і навуковых даследаванняў пра яго.

Пасля ўступнага слова гаворка перайшла да больш практычных пытанняў. Паводле Алы Мяснянкінай, Брэсцкая абласная бібліятэка стварыла спіс з 1,5 тысячы бібліяграфічных запісаў (на польскай, беларускай і рускай мовах). З іх 500 з'яўляюцца непасрэдна творамі Крашэўскага, астатнія — літаратура пра яго жыццё і творчасць. Асноўны масіў інфармацыі знаходзіцца ў бібліяграфічным паказальніку польскай літаратуры "Новы Корбут", які змяшчае ўсю літаратуру пра творцу, што выйшла да 1964 года. Далей даводзіцца шукаць самім. Ала Міхайлаўна асобна спынілася на характарыстыцы беларускамоўнай часткі, якая пакуль дастаткова сціплая: усяго прыблізна 200 запісаў, з іх каля 15 дысертацый.



*Захаванне спадчыны Юзафа Крашэўскага абмеркавалі падчас "круглага стала".*

Т. Сянькевіч звярнула ўвагу прысутных, што, нягледзячы на багатую літаратуру, дагэтуль адсутнічае сістэмная навуковая праца пра Крашэўскага. Шэраг яго твораў не даследаваны. У гэтай сувязі прагучала прапанова напісаць не лакальны артыкул пра пісьменніка, а манаграфію, якая распачала б другі дыск. У брэсцкіх навукоўцаў ужо ёсць пэўныя артыкулы, публікацыі. Але са спадчыны пісьменніка добра даследаваны толькі яго раманы. На думку Т. Сянькевіч, неабходна больш падрабязна вывучаць публіцыстыку і краязнаўчыя матэрыялы, напісаныя Крашэўскім, літаратуразнаўчыя працы пра творцу.

А. Ківака паведаміла, што на канец лістапада ў Брэсцкім універсітэце імя А. С. Пушкіна запланавана міжнародная канферэнцыя, прысвечаная Крашэўскаму. Была выказана ідэя запрасіць да ўдзелу даследчыкаў з Германіі (у гэтай краіне пісьменнік жыў падчас знаходжання ў эміграцыі).

Пэўную дыскусію выклікала пытанне моў, на якіх павінен быць створаны праект. З аднаго боку, з Крашэўскім могуць знаёміцца ў арыгінале чытачы з большасці еўрапейскіх краін: Англіі, Францыі, Германіі і г.д. Але ў такім выпадку "віртуальная рэканструкцыя" можа атрымацца бязмежнай. З другога боку, прагучала меркаванне звузіць праект толькі да моў краін-удзельніц (беларускай, рускай, украінскай і польскай). Менавіта з ім пагадзілася большасць удзельнікаў сустрэчы.

Падчас пасяджэння была разгледжана і ступень удзелу ў праекце Нацыянальнай бібліятэкі. У выніку прыйшлі да высновы, што найбольш плён прынясе выкарыстанне тэхнічнай базы гэтай установы.

### Якая сітуацыя ў суседзяў?

М. Туміловіч і М. Андрэюк расказалі пра мерапрыемствы з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння Крашэўскага, якія праводзяцца ў Польшчы і, у прыватнасці, у Бяла-Падлясцы, дзе знаходзіцца радавы маёнтак Крашэўскіх. Дарэчы, дзяржава выдаткавала вялікія грошы на рамонт будынка, шляхоў, парку, што вакол маёнтка.

У сваім выступленні В. Ярашук падкрэсліла, што ва Украіне праект атрымаў рэзананс. Супрацоўнікі Ровенскай бібліятэкі пераглядзелі летапіс кніг, часопісы, газеты, інтэрнэт-рэсурсы. Усяго знойдзена каля 700 пазіцый. Кіраўніцтва звярталася па дапамогу ў іншыя бібліятэкі, музеі. Асабліва спадзяюцца на плённае супрацоўніцтва з музеем Крашэўскага, які дзейнічае ў сяле Гарадзецкае Ровенскай вобласці. Акрамя таго, атрымана згода перакладчыкаў, што ўвасабляці творы пісьменніка па-ўкраінску, на выкарыстанне вынікаў іх працы.

### На перспектыву

Падводзячы вынікі міжнароднага савета, удзельнікі дамовіліся пра дату наступнага пасяджэння, якое мусіць адбыцца ў канцы лета — пачатку восені гэтага года. Да наступнай сустрэчы неабходна стварыць вопіс усіх выданняў, якія маюцца ў фондах. Брэсцкая бібліятэка мусіць вызначыць структуру праекта.

На думку У. Шчаснага, справа павінна атрымацца, бо, як кажуць, і салома сухая, і іскра ёсць.

# Пераклічка землякоў

**Алена КАПЫТОК**

**Вечар сустрэчы землякоў прайшоў у бібліятэцы-музеі народнай творчасці і побыту вёскі Леванова Барысаўскага раёна.**

Для кожнага з нас самы любы і дарагі той куточак зямлі, дзе нарадзіўся і ўзрос, дзе ад людзей набіраўся жыццёвай мудрасці, працоўнай сталасці, сэрцам адчуў красу і сілу роднай зямлі. Такой запаветнай мясцінай стала для ўсіх мясцовых ураджэнцаў невялікая вёска Леванова, якая гасцінна запрасіла на сустрэчу землякоў.

Традыцыйным хлебам-соллю сустракалі знакамітую зямлячку — першага намесніка міністра інфармацыі Лілію Ананіч.

Свята распачалося ўрачыстым рытуалам "Пераклічка землякоў", падчас якога прысутныя здзейснілі віртуальнае падарожжа па вуліцах вёскі. Кожнаму госцю быў уручаны на памяць адметны знак-эмблема вечара.

З прывітальным словам да прысутных звярнулася намеснік старшыні райвыканкама, дэпутат абласнога Савета дэпутатаў Валянціна Шутко, якая падкрэсліла, што сустрэчы землякоў вельмі важныя — і для тых, хто калісьці нарадзіўся ў вёсцы, а цяпер жыве ў горадзе, і для тых, хто ніколі яе не пакідаў. Яны дапамагаюць не забываць свае карані, сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

Дырэктар Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева Галіна Слесарэнка адзначыла, што гэта ўжо другая сустрэча землякоў на Леванаўскай зямлі. І з кожным разам у бібліятэцы збіраецца ўсё больш ураджэнцаў вёскі, якія шмат зрабілі для развіцця розных сфер: культуры, адукацыі, будаўніцтва, прамысловасці, сельскай гаспадаркі.

Лілія Ананіч звярнулася да землякоў са словамі ўдзячнасці, адзначыўшы, што большасць з нас звязаны са сваёй малой радзімай не толькі мінулым, але і сённяшнім часам. І гэта сувязь, якая ёсць з роднай вёскай Леванова, дапамагае выжыць і знайці сябе ў сучасным не вельмі простым свеце.

Своеасаблівым падарункам ад Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева стала прысвечаная жыццю беларускай вёскі выстаўка "Абдымаюць рукі Беларусь" з раздзеламі "Пяшчота зямлі беларускай", "Сімвалы роднага краю", "У краі родным усё сэрцу блізка", "Вёска мая — я часцінка твая", "Леванова — кола дзён".

Прыемным сюрпрызам для ўдзельнікаў імпрэзы былі музычныя віншаванні ад зямлячкі Крысціны Цыбульскай. Святочную атмасферу сустрэчы таксама стваралі саліст сельскага Дома культуры пасёлка Усяж Смалявіцкага раёна Улад Качан і ансамбль народнай эстраднай песні "Павер'е" Барысаўскага раённага Цэнтра народнай творчасці. Шчырыя ўсмешкі, успаміны, смех і слёзы радасці ад сустрэчы з сябрамі дзяцінства — усё было на свяце, якое, несумненна, дало яго ўдзельнікам новы імпульс для жыцця.

# Гаворыць дыяспара

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася кніжна-дакументальная выстаўка-прагляд "У сэрцы з Радзімай".**

Беларуская дыяспара… У савецкія часы жыхары БССР мелі толькі прыкладнае ўяўленне пра яе жыццё і маглі здагадвацца пра дзейнасць яе выбітных прадстаўнікоў. І толькі з канца 1980-х гадоў усвядомілі: нягледзячы на розныя краіны і кантыненты, мы з'яўляемся адной нацыяй, што і засведчыла выстаўка-прагляд.

Алена Далгаполава, першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, і Лідзія Макарэвіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, распавялі пра ўдзел супрацоўнікаў сваіх устаноў у вывучэнні беларускай дыяспары. Напрыклад, у 2009-м Нацыянальная бібліятэка была адным з арганізатараў V з'езда беларусаў свету. А ў мінулым годзе ўстановы падрыхтавалі сумесную выстаўку "Творчасць беларускіх пісьменнікаў замежжа", якая прайшла ў межах Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Яе непасрэдным працягам стаў новы праект "У сэрцы з Радзімай".

На кніжна-дакументальнай выстаўцы-праглядзе можна пабачыць каля 70 кніг па гісторыі стварэння беларускіх дыяспар, творы пісьменнікаў і паэтаў беларускага замежжа. Сярод выданняў — энцыклапедычны даведнік "Хто ёсць хто сярод беларусаў свету", створаны ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай "Беларусы ў свеце" трыма ўстановамі (Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны сумесна з грамадскім аб'яднаннем "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" пры падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей), навукова-папулярнае выданне "Беларускае замежжа", падрыхтаванае Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, "Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў" — зборнік успамінаў 73 прадстаўнікоў беларускай дыяспары, якія пасля 1944 года апынуліся ў Аргенціне, Аўстраліі, Бельгіі, Германіі, Францыі, Чэхіі і іншых краінах свету.

Асобнае месца ў экспазіцыі займаюць рэдкія выданні з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры: матэрыялы, прысвечаныя прадстаўнікам літаратурнага аб'яднання беларусаў у Польшчы "Белавежа", а таксама жыццю беларусаў у Латвіі.

Жыццё прадстаўнікоў дыяспары, іх сувязі з Радзімай актыўна абмяркоўваліся падчас прэзентацыі. Літаратуразнаўца, супрацоўнік Інстытута культуры Беларусі Адам Мальдзіс звярнуў увагу, што навукоўцы дагэтуль спрачаюцца пра дакладную колькасць беларускай дыяспары. Гучаць лічбы 3,5 ці 3 млн. На думку Адама Восіпавіча, больш дакладнай з'яўляецца другая лічба, паколькі ў свеце працягваюцца працэсы глабалізацыі. Апошнім часам ажыццяўляецца падрыхтоўка новага даведніка "Беларускае замежжа". Калі ў папярэднім выпуску былі прыведзены біяграфіі каля паўсотні беларусаў, дык у новым выданні іх колькасць павялічылася да 1610.

Інтарэс аўдыторыі выклікала меркаванне Адама Мальдзіса пра "самых чыстых" беларусаў. Паводле яго звестак, імі з'яўляюцца нашыя суайчыннікі — жыхары Сібіры, якія перасяліліся туды ў пачатку ХХ стагоддзя, падчас сталыпінскай аграрнай рэформы. Яны захавалі свае песні, абрады і, што найбольш істотна, мову.

У сваім выступленні паэт, галоўны дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч сцісла ахарактарызаваў дзейнасць сваёй установы, накіраваную на пашырэнне ведаў пра наш край сярод суайчыннікаў за мяжой і прадстаўнікоў іншых краін. Адной з самых цікавых і карысных акцый стала прапанова тагачаснай супрацоўніцы радыёстанцыі Таццяны Сівец перадаваць урокі беларускай мовы па-англійску. Спярша да гэтага паставіліся скептычна. Але неўзабаве высветлілася, што такі праект запатрабаваны. Напрыклад, супрацоўнікі атрымалі ліст з Чыкага. Яго аўтар выехаў з Беларусі 30 гадоў таму. Ён пісаў, што плакаў ад шчасця: цяпер мог вывучыць мову бацькоў. Была ўхвальная рэакцыя і іншых людзей. Неўзабаве ўрокі пачалі перадавацца па-нямецку і папольску.

У якасці плённай працы дзеячаў замежжа Н. Гальпяровіч прыгадаў дзейнасць беларусаў Латвіі і Іркуцка. Паэт асабіста стаў госцем рыжскага канцэрта, дзе на працягу чатырох гадзін гучалі песні на беларускай мове. Што да расійскага горада, дык там плённа працуе Алег Рудакоў, ураджэнец Полацка. Апошнім часам ён з мэтай збору фальклору наладзіў экспедыцыі па вёсках, дзе жыве беларускае насельніцтва.

# Ці чытаюць падлеткі?

**Цэнтральная дзіцячая бібліятэка імя М. Астроўскага г. Мінска сумесна з Цэнтрам пазашкольнай адукацыі "Ранак" арганізавала раённы конкурс аматараў кнігі "Падлеткі чытаюць?!".**

**Вікторыя ХОМІЧ,**
**загадчыца аддзела абслугоўвання Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага**

У конкурсе ўзялі ўдзел 11 каманд (па 5 — 6 чалавек у кожнай) з розных школ і гімназій Маскоўскага раёна горада Мінска. На першым, завочным, этапе прапаноўвалася творчае заданне — падрыхтаваць старонку школьнай газеты, прысвечаную Году кнігі. На конкурс прымаліся выданні любога фармату ў друкаваным і электронным выглядзе. Паводле меркавання журы, лепшай была прызнаная газета сярэдняй школы № 26 г. Мінска, багатая на ўнікальны аўтарскі матэрыял.

На другім этапе конкурсу, які праходзіў на базе Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага, удзельнікам неабходна было скласці спіс кніг, якія паводле іх меркавання павінен прачытаць кожны падлетак, а потым абараніць адну з іх — растлумачыць, чаму менавіта гэтую кнігу яны рэкамендуюць. Усцешыў як выбар кніг, так і тое, з якім запалам дзеці абаранялі любімыя творы. Сярод кніг былі: У. Караткевіч "Дзікае паляванне караля Стаха", М. Рыд "Всадник без головы", Н. Носаў "Незнайка на Луне", В. Быкаў "Жураўліны крык", М. Булгакаў "Мастер і Маргарита", П. Санаеў "Похороните меня за плинтусом", А. Грын "Алые паруса" і іншыя.

У гэты ж дзень была арганізавана сустрэча з беларускімі празаікамі Андрэем Жвалеўскім і Яўгеніяй Пастэрнак, падчас якой разыгрываўся адмысловы прыз за лепшае пытанне аўтарам.

Напрыканцы конкурсу былі названы пераможцы: сярэднія школы нумар 26, 3 і 215 (першае, другое і трэцяе месцы адпаведна).

А мы можам з упэўненасцю сказаць: падлеткі чытаюць. Даказана!

# Ад Ваньковіча да цётухны Руф

**Клуб творчых сустрэч Бярэзінскай раённай бібліятэкі Мінскай вобласці запрасіў прыхільнікаў беларускай літаратуры і гісторыі на сустрэчу з кандыдатам гістарычных навук, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталляй Голубевай.**

**Наталля МАЕЎСКАЯ,**
**метадыст Бярэзінскай ЦБС,**
**фота аўтара**

Падчас сустрэчы размова канцэнтравалася вакол дылогіі "Радимичи. Земля непокорённая". Гэта ўжо чацвёртае выданне серыі "Школьная бібліятэка". Папярэдняе, якое выйшла па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, мела тыраж 10 тысяч асобнікаў. Тыраж новай кнігі склаў 21 тысячу асобнікаў. Гэта з'яўляецца пацвярджэннем таго, што да гістарычнай тэмы, да мінулага нашай краіны захоўваецца цікавасць. Дылогія — сапраўднае падарожжа ў мінулае. А любое падарожжа — гэта, як вядома, адкрыццё чагосьці новага, невядомага, сустрэча з цікавымі людзьмі. У мастацкую канву твораў пісьменніца арганічна ўпісала легенды як пра паходжанне радзімічаў, так і пра з'яўленне назваў ракі Дняпро і горада Гомеля. Усебакова раскрыты побыт і звычаі тагачасных людзей, іх вераванні, узаемаадносіны паміж асобнымі прадстаўнікамі роду...

Сюжэт, вобразы, чалавечыя стасункі — усё гэта створана ўяўленнем пісьменніцы на падставе вывучэння канкрэтных гістарычных падзей. Адлюстраванне вобраза мінулага, на думку Н. Голубевай, найбольш адказнае. У сваёй кнізе "На перепутье двух дорог", дзе прысутнічаюць гістарычныя асобы — ваенны міністр Барклай дэ Толі, расійскі імператар Аляксандр І, — аўтар імкнулася на падставе вывучэння архіўных матэрыялаў пасяджэнняў ваенных саветаў, іншых дакументаў перадаць не толькі агульны настрой таго часу, але і ўзаемаадносіны, мову — дух эпохі.

Н. Голубева з'яўляецца навуковым кансультантам шэрагу тэлевізійных праектаў, у тым ліку шматсерыйнага цыкла "Зямля геніяў", створанага па заказе Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір". Апошні ўключае 24 фільмы пра слынных сыноў з зямель Беларусі. Прысутным клуба творчых сустрэч быў прапанаваны прагляд дакументальнага фільма "Сапега".

Распавядала Наталля Аляксандраўна і пра работу над выданнем кнігі "Беларускае замежжа", дзе сабрана шэсць з паловай тысяч імёнаў нашых суайчыннікаў, якія зрабілі ўнёсак у развіццё сусветнай цывілізацыі. Сярод герояў выдання не толькі дзеячы культуры, а і стваральнікі падводных лодак, ракетнага рухавіка, вядомыя навукоўцы, палітычныя дзеячы. У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" рыхтуецца да выдання кніга "Беларусь у кантэксце сусветнай цывілізацыі. Суайчыннікі", дзе таксама зроблена спроба стварыць грунтоўны даведнік пра нашых талентаў розных часоў. У бліжэйшы час чытачы змогуць азнаёміцца з унікальным навукова-папулярным выданнем "Ваньковичи. Белорусский родовод", у якім аўтарскі калектыў імкнуцца аб'яднаць увесь матэрыял, што датычыць гэтага ўнікальнага роду.

Добра ведае Наталлю Голубеву і юны чытач, для якога яна стварыла вельмі каларытныя беларускія казачныя вобразы. Цётухна Руф — свецкая лэдзі, якая жыве ў беларускай сядзібе, захоўвае яе традыцыі і разам са сваімі памочнікамі разгадвае тайны гісторыі, якія захоўваюць найстаражытнейшыя рукапісы. Выданне, праілюстраванае Рытай Цімохавай, атрымала першую прэмію на Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі-2012". Паводле кнігі рэжысёр Віргінія Тарнаўскайтэ паставіла спектакль.

А напрыканцы сустрэчы Наталля Аляксандраўна зачытала вершы з паэтычнага зборніка "Балтийская тетрадь" і пакінула свае пажаданні бярэзінскім чытачам у Кнізе ганаровых сяброў бібліятэкі і на сваіх літаратурных выданнях.



*Выступае Наталля Голубева.*

# Наперад, на Грунвальд!

**Літаратурна-тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам маладога беларускага пісьменніка — гісторыка Юрыя Усціновіча і сяброў клуба гістарычнай рэканструкцыі “Гівойт” прайшло ў мінскай дзіцячай бібліятэцы № 10.**

**Маргарыта МСЦІСЛАВЕЦ**

Што ні кажы, а “машына часу” — гэта рэч! Націснуў адну кнопачку — апынуўся ў мінулым. Знайшоў іншую — зазірнуў у будучыню. Гэта ж колькі можна было б пазбегнуць розных непрыемнасцей, колькі набрацца вопыту ў сваіх продкаў! Шкада толькі, што такую разумную машыну ніяк не могуць прыдумаць.

Аднак чаму не могуць? Падлеткі, што завіталі на згаданую імпрэзу, апынуліся ў Сярэднявеччы, калі вядучы бібліятэкар Маргарыта Кулакова націснула патрэбную кнопку ў “машыне часу” (уяўнай, вядома). І адразу ж пад гукі старадаўніх музычных інструментаў з’явіліся аж з самога XIV стагоддзя тры рыцары ў даспехах, са шчытамі, мячамі, дзідамі — удзельнікі гістарычнага клуба “Гівойт”.

Стаіўшы дыханне, слухалі дзеці аповеды пра тое, як жылі нашы продкі, чым займаліся. Пачуць паданні ад саміх рыцараў, ды на чыстай беларускай мове — гэта было цудоўна!

Таленавіты музыка выводзіў на драўлянай флейце і сапраўднай старажытнай дудзе сумныя і вясёлыя мелодыі. А калі рыцары са шчытамі і мячамі пачалі паказваць сваю сілу, ніхто з хлапчукоў не застаўся абыякавым... Яны таксама захацелі паспаборнічаць, але дзіды і мячы аказаліся цяжкімі для маленькіх дзіцячых рук.

Напрыканцы сустрэчы Юрый Усціновіч прадставіў свае новыя кнігі: “Майстра Рукша” і “Яська і конік ягоны Грыўка”. Юных чытачоў захапіла меладычнае гучанне роднай мовы ў казанні — казачцы пра пераўвасабленне маленькага хлопчыка Яські і яго ўдзел у вялікай Грунвальдскай бітве:



“Гівойт” — рыцары Сярэднявечча.

*Як забралася поўня*
*На зорнае неба,*
*Грыўка, конік драўляны,*
*Падаў голас ціхенька*
*І звярнуўся да Яські з размоваю:*
*— Малады гаспадар,*
*годзе ўжо сумаваць!*
*Як без справы ўсялякай*
*Пасядзіш яшчэ дзень,*
*Мы спазнімся на бойку з крыжакамі.*

На развітанне бібліятэкары паабяцалі, што далёка хаваць “машыну часу” не збіраюцца. Як толькі дзецям захочацца даведацца нешта з гісторыі Беларусі, яны адразу ж націснуць патрэбную кнопку.

*За падзеяй*

## З адкрыццём цябе, бібліятэка!

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ,**
**галоўны бібліятэкар**
**аддзела маркетынгу**
**Аршанскай ГЦБС**

**У Оршы пасля рэканструкцыі будынка адкрылася адна са старэйшых бібліятэк краіны — Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. С. Пушкіна.**

Мерапрыемства наведалі прадстаўнікі ўлады, а таксама дэлегацыя ад Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале са старшынёй Віцебскага аддзялення Тамарай Красновай-Гусачэнкай, якая падарыла 100 экзэмпляраў кніг са сваёй асабістай бібліятэкі.

У гэты ж дзень адбылося і адкрыццё “Чытальнай залы Янкі Сіпакова”. Таму на ўрачыстасць завіталі сябры Янкі Сіпакова, пісьменнікі Павел Саковіч, супрацоўнік часопіса “Вожык”, Мікола Мятліцкі, галоўны рэдактар часопіса “Полымя”, Зіновій Прыгодзіч, галоўны рэдактар часопіса “Гаспадыня”.

“Бібліятэкі не даюць чалавеку расчалавечвацца… Чалавек, які чытае кнігу, — шчаслівы чалавек”, — пісаў Янка Сіпакоў. Многім сваім чытачам-аршанцам Цэнтральная гарадская бібліятэка дапамагла расправіць крылы, вызначыцца ў жыцці. Штогод тут абслугоўваецца больш як дзевяць тысяч чытачоў. Увесь доўгі час рамонту яны цікавіліся, калі можна будзе прыйсці ў родныя сцены. І сёння нарэшце могуць завітаць у аднаўленую Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна, каб сустрэцца з кнігай.

*Выстаўкі*

## Стогадовыя скарбы

**Таццяна КАРПУКОВІЧ**

**Унікальная выстаўка “Кніжныя скарбы Лунінеччыны”, на якой прадстаўлены сапраўдныя рарытэты, адкрылася ў цэнтральнай раённай бібліятэцы. Некаторым кнігам больш як 100 гадоў.**

На выстаўцы прадстаўлены выданні з фондаў бібліятэк і краязнаўчага музея, а таксама з асабістых калекцый лунінчан. Сярод найбольш цікавых асобнікаў — Кніга для набажэнстваў XVIII стагоддзя, якая належала Дзятлавіцкаму Нова-Пячэрскаму мужчынскаму манастыру, Жыццяпіс Напалеона на польскай мове 1835 года выдання, Дапаможнік-пісьмоўнік 1874 года, Праваслаўны каляндар, выдадзены ў Варшаве ў 1934 годзе.

Урачыста адкрыла выстаўку яе ініцыятар, дырэктар РЦБС Н. Радзіяновіч, затым выданні са сваіх калекцый прадставілі Т. Канапацкая, І. Панасюк, С. Нефідовіч, С. Туркоўскі, Р. Гудкова, Н. Казанкова і іншыя ўладальнікі цікавых выданняў.

# Гучыць слова земляка над роднаю старонкаю

**Святлана МАКАРЭВІЧ**

Цікавую сустрэчу “Адсюль яго карані” з мясцовым паэтам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолем Шушко зладзілі ў Палескім дзяржаўным універсітэце.

Імя Анатоля Шушко добра вядома на Піншчыне, адкуль яго карані. Ураджэнец вёскі Сташаны, ён закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1976 года А. Шушко настаўнічаў у сельскіх школах Піншчыны і гродзенскай Свіслаччыны, працаваў карэспандэнтам раённых газет, быў будаўніком, выхавальнікам у Пінскай школе-інтэрнаце.




Вершы А. Шушко друкаваліся ў вядучых рэспубліканскіх часопісах “Полымя”, “Беларусь”, “Маладосць”, “Нёман”, “Беларуская думка”, многіх газетах, у альманахах “Дзень паэзіі”, “Люблю будзённы дзень”, а таксама калектыўных паэтычных зборніках “На ладонях Прыпяти и Пины”, “Маладыя галасы”, “Галасы вёснаў” і ў расійскім альманаху “Москва” (у перакладзе В. Грышкаўца). А ў 1994-м у “Бібліятэцы часопіса «Маладосць»” пабачыла свет яго кніга вершаў “Выток і прычасце”.

Паэт цікава расказваў пра дзяцінства, вучобу, настаўніцкую працу. Шчыра, з душою чытаў свае вершы, дапаўняючы іх жыццёвымі развагамі, назіраннямі.

Многія творы паэта пакладзены на музыку. На вечарыне прагучаў і гімн Палескага ўніверсітэта, словы да якога напісаў Анатоль Шушко, а музыку — Алег Венгер.

Пазнаёміцца з творчасцю аўтара можна было і на кніжнай выстаўцы “Сцвярджай сябе святлом дабра”, падрыхтаванай да мерапрыемства.

*Да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа*

# Палескі след песняроў

**Галіна БОГНАТ,**
**дырэктар Пінскай раённай**
**цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы**

Бібліятэкі Пінскага раёна падрыхтавалі шэраг мерапрыемстваў да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Так, праведзены раённы агляд-конкурс на лепшае мерапрыемства па папулярызацыі творчасці Якуба Коласа “Подых паэзіі Вялікага Песняра”. Удзельнічала ў ім 45 бібліятэк, якія прадставілі літаратурна-музычныя імпрэзы і кампазіцыі, тэатралізаваны ўрывак з п’есы “На дарозе жыцця”, літаратурна-тэатралізаваную гадзіну, а таксама выступленне лялечнага гуртка “Татошкі” паводле казкі “Дзед і мядзведзь”, а таксама інсцэніроўку паводле вершаванага апавядання “Зяць”.

Па выніках раённага агляду-конкурсу супрацоўнікамі аддзела бібліятэчнага маркетынгу Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Я. Янішчыц выдадзены зборнік “Палескі след класіка”.

Напрыканцы бягучага Года кнігі на базе Пінкавіцкага цэнтральнага сельскага Дома культуры будзе арганізавана раённае свята паэзіі, прысвечанае 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа “Пінкавіцкія сцяжынкі Якуба Коласа”. А 7 ліпеня прайшоў адзіны бібліятэчны дзень “З Купалам у сэрцы жывём”, у межах якога адбыліся літаратурныя вечары, конкурсы чытальнікаў, пасяджэнні аматарскіх аб’яднанняў, літаратурна-музычныя кампазіцыі і літаратурныя віктарыны.

# Фантазіі з нагод

**Ірына ШАТЫРОНАК, г. Гродна**

Апавяданне С. Дзянісавай "Гаспадыня Балотных Ялін", надрукаванае ў "ЛіМе" ад 15 чэрвеня 2012 года, як мне здалося, — нейкі намёк, што празрыста адсылае да містычнага рамана У. Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха", нешта накшталт рэбуса-крыжаванкі.

Па-першае, загаловак — такая фішка: маўляў, хто зразумее, той з намі. Напэўна, аўтар вырашыла рызыкнуць і адправіцца ў сваім апавяданні-nostalgie па ўпадабаных месцах рамана беларускага класіка — такая своеасаблівая постмадэрніцкая ўсмешка.

Па-другое, і гэта не заўважыць хіба што сляпы, — імёны герояў. Гераіня рамана У. Караткевіча — Надзея Раманаўна Яноўская. Галоўная гераіня нашага апавяда — фельчар Надзея Раманаўна Яноўская. Супадзенне? Але такіх супадзенняў занадта шмат, яны нібы няўзнак раскіданыя як пазнакі для знаўцаў.

Але вернемся да апавядання. Яго пачатак хавае прыкметы часу: калі, у якія гады завязваецца сюжэт — невядома. Але назва вёскі "Яноўка" ўжо прагучала.

Адсутнасць вобразных сезонных замалёвак (што гэта — восень, зіма, ранняя вясна?) пазбавіла апавяданне наглядных і таму яркіх сцэн.

У дарозе думкі гераіні Надзеі пра адно — пра будучую працу, пра тое, як не хочуць ехаць у вёску спецыялісты, а яна, наадварот, не шкадуе пра свой выбар. Мяркуючы па гэтым, чытач трапляе ў сучаснасць, а ніяк не ў канец XIX стагоддзя, паводле беларускага класіка. Дзесьці ўжо бліжэй да сярэдзіны апавядання з'явіўся ў пакоі і тэлевізар, прыкмета сучаснай цывілізацыі.

Вось і маёнтак у Яноўцы. Дзядзька Кандрат прамаўляе: *"Ты ў нас будзеш гаспадыня Балотных Ялін. Тут балота некалі было, цяпер-то трохі палепшала, а раней — матухна мая! — прорва, а не месца. Да гэтага маёнтка было не дабрацца".*

**"Некалі"** — гэта ў часы мастацкага апавядання рамана У. Караткевіча?**"Цяпер-то"** — гэта калі празмерна асушылі палескія балоты меліярацыяй?

Кандрат згадвае і пра паноў і пра іх мінулую цёмную гісторыю. *"Яны ўсе нейкія трохі з прыбамбахамі... А ў маёнтку маладая дзяўчына будзе не інтрыгі плесці, а жыць і працаваць".*

А можа, гэты кавалачак сапраўднага жыцця раптам патрапіў наўпрост з рамана У. Караткевіча і цяпер амаль цудам па жаданні аўтара развіваецца паводле сваіх мастацкіх законаў, і ўсе тыя людзі, што выйшлі сустракаць у дварах маладую жанчыну, — выдуманы калісьці персанажы?

У аповедзе С. Дзянісавай скрозь тканіну рэалістычнага тэксту праступаюць элементы містыкі і гульні, з'яўляюцца прамыя цытаты з рамана "Дзікае паляванне караля Стаха". Мяркуйце самі. У У. Караткевіча бабуля — "Кругленькая, амаль як бочачка сярэдняй велічыні, з пухленькімі ручкамі..." У С. Дзянісавай — "Дзверы адчыніліся, з іх выбегла старая, але жвавая кабета, кругленькая, як бочачка".

Такім чынам апавяданне атрымалася злёгку зашыфраваным, з падвойным дном. Аднак дзякуючы яму я стала перачытваць раман У. Караткевіча. Можа, і іншыя, хоць бы такім шляхам, пацягнуцца да літаратуры.

## Каментарый аўтара апавядання "Гаспадыня Балотных Ялін"

Памятаеце, што пачуў у адказ на сваю версію паходжання назвы вёскі Белыя Росы Фядос з аднайменнага фільма? Якія там ворагі, якія заступнікі, калі пабач проста луг шырокі, а на ім раса выпадае, "і няма чаго гісторыю перакручваць".

Уявіце сабе рамантычную дзяўчыну, якая вучыцца на фельчара і любіць чытаць… Булгакава, "Записки юного врача". Асабліва яе ўражвае месца пра лістападаўскую цемру і выццё завеі ў коміне. Канечне ж, яна марыць працаваць у вёсцы, у самай глухмені. І каб лістапад, вар'яцкую, літаральна выў над вухам. Вось урывак з апавядання, які па нейкіх прычынах не ўвайшоў у апублікаваны варыянт: "Стаіць позні лістапад. Такой парой зямля магла б ужо ўдубець ад марозу, пакрышца сіверам, а паветра тады было б празрыстае, звонкае, лёгкае. Але пад коламі павозкі хлюпаціць так, што робіцца няўтульна ўнутры. Неба быццам увогуле адсутнічае: шэрасць навылёт, ані драпінкі. Паветра мокрае, цяжкае. І яшчэ гэты вецер".

Успомнім цяпер, у якую пару знаёміць сваіх герояў — Андрэя Беларэцкага і Надзею Яноўскую — Караткевіч: гэта "самы пачатак глухой восені". І надвор'е прыкладна такое ж: "Шматкі гразі і нейкай твані ляцелі ў вазок". Напрошваецца само сабой: пры чым тут Караткевіч? А пры тым, што рамантычныя асобы, паводле асабістага назірання аўтара, цураюцца касмапалітызму. Яны заўсёды патрыёты. А патрыёты чытаюць Караткевіча. І хто ж вінаваты, што адзін успрымае яго творы як містычныя і жахлівыя, а другі адчувае ў іх рамантыку? Што чытанне пра шамаценне верасу, пакрытыя туманам сцежкі і ласіныя губы ў падсалоджаным воцаце выклікае ў апошняга такое нясцерпнае трымценне ў сэрцы, ад якога ратаваннем можа быць толькі "пражыванне сітуацыі"?

Дзяўчына Надзея, па бацьку Раманаўна, адвучыўшыся на фельчара, начытаўшыся Булгакава і Караткевіча, напрошваецца на працу "ў глыбінку"? Не. Яна толькі марыць пра гэта. І яна не Яноўская. Яна магла б называцца хаця б яноўскай, калі б жыла ў Яноўцы. Знайсці на карце краіны вёску з такой назвай можна, і нават не адну, але ці знойдуцца ў гэтай вёсцы Рыгор Дубатоўка і Андрэй Беларэцкі? Прасцей за ўсё такую вёску прыдумаць. Напісаць пра яе, прымхліва змяніўшы прозвішча аднаго з герояў. "У кніжках пра вясковых дактароў пішацца, што яны шмат чытаюць і нават вядуць дзённікі. Многія з іх становяцца праз нейкі час пісьменнікамі", — вось ключ да разумення апавядання. Гэта не шта накшталт стужкі Мёбіуса.

Па сутнасці, апавяданне гаворыць пра тое, што патрыятызм — штука слабая, а рамантычнасць — яшчэ слабейшая. Ці паедзе "Надзея, наша надзея" ў вёску, каб вечарамі слухаць, як вые ў коміне вецер, каб быць гатовай устаць сярод ночы і пайсці да хворага, а з самай раніцы пачаць амбулаторны прыём? Наўрад ці. А чаму?

Няма ўжо такіх гулкіх комінаў, а сярод ночы сяляне выклікаюць хуткую дапамогу з райцэнтра. Гэта апавяданне — туга аўтара. Па ўсім тым, чаго ўжо не вярнуць.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

# Мой муж — Браніслаў Тарашкевіч

**20 студзеня гэтага года споўнілася 120 год з дня нараджэння выдатнага навукоўца-мовазнаўца, пісьменніка і грамадскага дзеяча Браніслава Тарашкевіча.**

**У свой час мне давялося некалькі разоў сустрэцца з жонкаю Браніслава Адамавіча Верай Ніжанкоўскай, якая жыла ў Радашковічах (Маладзечанскі раён). Тады, летам 1986 г., яна закончыла ўспаміны пра мужа. У той час ёй споўнілася 85 гадоў, і, вядома ж, пісалася цяжка. Тым не менш Вера Андрэеўна дакладна распавядала пра жудасныя падзеі 30-х гадоў мінулага стагоддзя, пра творчую і палітычную дзейнасць мужа.**

**Думаю, яе аповед зацікавіць чытачоў "ЛіМа".**

**Кліменцій КОЖАН, былы настаўнік Германавіцкай сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна**

Родныя, блізкія, сябры звалі яго Тарасам. У 1906 годзе ён добра здаў экзамены ў трэці клас Віленскай 2-й мужчынскай гімназіі, уладкаваўся на кватэры ксяндза. У першыя дні вучобы з хлопца, крыху смешна апранутага, пачалі кпіць, але, пабачыўшы яго здольнасці ў навуцы, жаданне дапамагчы слабым вучням, палюбілі, і ён здабыў сабе шмат надзейных таварышаў. Некаторых з іх — на доўгія гады. За выдатныя поспехі ён быў вызвалены ад аплаты за вучобу. З 5-га класа Тарас ужо меў сваіх вучняў і сам купляў сабе вопратку, наймаў кватэру і ад бацькоў прымаў толькі прадукты.

Ён часта заходзіў у рэдакцыю "Нашай Нівы", дзе сустракаў Купалу, Коласа, Бядулю, Цётку, Уласава, братоў Луцкевічаў. Знаёмства з імі аказала вялікі ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці Тараса. Тады ён зацікавіўся лёсам беларускай мовы, вывучэнню і развіццю якой прысвяціў усё жыццё. Невыпадкова, скончыўшы гімназію, паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на філалагічны факультэт. Там пачаў працу над удасканаленнем беларускай граматыкі, у чым яму дапамагалі акадэмікі Шахматаў, Карскі, прафесар Эпімах-Шыпіла.

У 1916 годзе Тарашкевіч атрымаў дыплом прыватдацэнта і, працуючы ва ўніверсітэце, закончыў "Беларускую граматыку для школ". У 1918 годзе ён вярнуўся ў Вільню, дзе займаўся навукова-асветнай працай, а крыху пазней яго зацвердзілі дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. Тарас быў выбраны ў Польскі Сейм як пасол па спісе нацыянальных меншасцей. Ад беларусаў прайшло 11 паслоў і 3 сенатары, якія стварылі Беларускі сеймавы клуб. Ён цікава, дасціпна выступаў з трыбуны за правядзенне зямельнай рэформы, спыненне ліквідацыі беларускіх школ.

Летам 1926 г. пры Беларускай гімназіі ў Радашковічах, адкрытай А. Уласавым, Тарас арганізаваў курсы для настаўнікаў. Фактычна яны былі цэнтрам падрыхтоўкі актывістаў павятовых камітэтаў і гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), якая была створана ў 1925 г. у Вільні. І, як вынік, Тараса арыштавалі. Судзілі яго з 1927 па 1933 гады пяць разоў.

Седзячы ў астрогах, Тарас заняўся перакладамі: пераклаў з грэчаскай мовы "Іліяду" Гамера. Пасля вызвалення ён пачаў укладаць і пашыраць беларускую граматыку, якую я выдала ў Вільні. Пераклаў таксама і паэму Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Рукапісы перакладаў "Іліяды" і "Пана Тадэвуша" я прывезла Тарасу на станцыю Негарэлае, адкуль ён ад'язджаў у СССР. Гэта была наша апошняя сустрэча.

А пазнаёміліся мы ў 1922 годзе ў Мігаўцы ў А. Уласава — майго дзядзькі, да якога, як да сталага дзеяча нацыянальнага адраджэння, прыязджала шмат беларусаў з Вільні і ваколіц. Тарас адразу зрабіў на мяне прыемнае ўражанне сваёй абаяльнасцю, гумарам, дасціпнасцю. Ён часта чырванеў, як дзяўчына. Гэта выглядала вельмі сімпатычна, але ён на сябе злаваўся. Любіў песні, музыку, жарты.

Тарас угаварыў мяне паступаць ва ўніверсітэт, вучыў мяне лацінскай мове. Сам ён ведаў больш як дзесяць замежных моў.

Праз год мы пабраліся шлюбам. Жылі больш у Вільні, але досыць часта наведваліся ў Чарнуліжкі. Там жылі яго бацька, маці, сястра Тэкля і сямейны брат.

Жылі мы на Віленскай вуліцы, 12. Я хадзіла на заняткі. Тарас часта наведваў Варшаву, сесіі Сейма, часам і я ездзіла да яго. У пачатку 1925 года ў нас нарадзіўся сын Радаслаў. Я сваю навуку кінула, і вясной мы з маці і малым перабраліся да сябе ў Радашковічы. Тарас часта прыязджаў да нас.

Пасля яго арышту ў 1927 годзе пачаліся мае вандроўкі па астрогах. Вазіла падаянкі і Тарасу, і ад МОПРа (Міжнародная арганізацыя дапамогі барцам рэвалюцыі) іншым вязням, дабівалася спатканняў. Калі Тарас сядзеў у "Лукішках", то і сына брала на спатканне з бацькам. Радаслаў падрастаў, і калі ў 1930 годзе Тараса выкінулі з астрога, яны колькі месяцаў правялі разам.

І вось Тарас выехаў у СССР. Я з сынам магла выехаць на два месяцы за ім. Мама быццам бы не пярэчыла, але яе вочы, поўныя роспачы і страху, сведчылі пра многае. Наш ад'езд забіў бы яе. Такога чалавека, як Тарас, я больш не спаткала.

Падчас суда над членамі Грамады ў 1926 годзе Беларуская акадэмія навук у Мінску выбрала Тараса акадэмікам, а ў 1933 годзе на антыфашысцкім кангрэсе ў Парыжы яго завочна абралі ў ганаровы прэзідыум разам з М. Горкім, Г. Дзімітравым, Э. Тэльманам, Р. Раланам. Неўзабаве яго прызначылі загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце. У той час ён рыхтаваў да друку свой пераклад "Іліяды" і "Пана Тадэвуша".

7 мая 1937 года Тараса беспадстаўна арыштавалі, і хутка ён згінуў. Толькі ў 1956 годзе яго рэабілітавалі.

**Вера НІЖАНКОЎСКАЯ, пас. Радашковічы, 12.07.1986 г.**

# Трымаюць марку майстры

**Свой 20-гадовы юбілей адзначае сёлета адно з самых маладых творчых аб'яднанняў — Беларускі саюз майстроў народнай творчасці, які апякуецца адной з найважнейшых галін нацыянальнай культуры — народным мастацтвам, традыцыйнымі рамёствамі і промысламі, сучаснай народнай мастацкай творчасцю.**

**Яўген САХУТА,**
**старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці,**
**фота аўтара**

Пачатак 1990-х… Нацыянальная культура разам з маладой самастойнай краінай перажывае нялёгкія часы. Што да традыцыйнай мастацкай культуры, то яна, здаецца, і ўвогуле была асуджана на самавыжыванне, хаця многія разумелі: працэсы глабалізацыі, наступленне навукова-тэхнічнага прагрэсу гэтаму, мякка кажучы, зусім не паспрыяюць, пра што наглядна сведчыў вопыт многіх заходнееўрапейскіх краін. На шчасце, мы паразумнелі раней, чым канчаткова страцілі набыткі народнай мастацкай культуры. Уздым нацыянальна-культурнага адраджэння нібы расплюшчыў нам вочы на тыя скарбы, якія мы дагэтуль не надта цанілі і таму многае паспелі страціць — але не ўсё. Вось тады і было прынята рашэнне стварыць асобнае творчае аб'яднанне, якое б узяло на сябе клопат пра народных майстроў, скардынавала разрозненыя намаганні па падтрымцы нацыянальнай культуры, уключэнні традыцый у сучасныя культурныя працэсы.

З чаго пачынаць? Пераймаць вопыт сталых творчых саюзаў, якія ствараліся яшчэ ў савецкія часы і прывыклі да пэўных дзяржаўных прэферэнцый, не выпадала. Тыя і самі разгубіліся ў новых умовах, хоць мелі і нейкую маёмасць, і пэўныя прыбыткі, на якія можна было жыць. Малады ж саюз стварыўся самастойна, на чыстым энтузіязме, у далёка не лепшых умовах. На першым часе невялікую, але вельмі неабходную фінансавую дапамогу аказалі Міністэрства культуры, Беларускі саюз мастакоў, Беларускі фонд культуры.

Рэальных вынікаў доўга чакаць не давялося. Ужо ў канцы года наладзілі першую выстаўку народнай творчасці "Калядныя ўзоры", якая стала штогадовай. У хуткім часе новае аб'яднанне ўпэўнена заявіла пра сябе і многімі іншымі канкрэтнымі справамі. Але, думаецца, самае галоўнае дасягненне саюза ў тым, што з яго стварэннем народнае мастацтва засведчыла сваё раўнапраўнае месца ў шэрагу іншых відаў нацыянальнай культуры Беларусі.

Сёння саюз налічвае 570 майстроў і спецыялістаў у галіне традыцыйнай мастацкай культуры. Многа гэта ці мала? Калі зыходзіць з афіцыйнай статыстыкі, паводле якой у краіне налічваецца больш як 30 тысяч майстроў народнай творчасці, то не так і шмат. Але калі б саюз прымаў у свае шэрагі ўсіх, хто выказаў такое жаданне, колькасна ён, пэўна, перавысіў бы ўсе творчыя саюзы, разам узятыя.

Аднак за колькаснымі паказчыкамі мы не гонімся. Наш кантынгент — майстры, якія душою горнуцца да традыцыйнай культуры, уласнай творчасцю спрыяюць яе адраджэнню, уключэнню ў сучасныя культурныя працэсы. І пры гэтым не спадзяюцца на нейкія фінансавыя выгоды. А вось творчыя кантакты з калегамі-майстрамі, актыўны ўдзел у культурным жыцці, магчымасць паказаць сябе і пабачыць іншых саюз забяспечыць здольны.

Пачнём хоць бы з таго, што ў нас няма дзяржаўнай структуры рэспубліканскага ўзроўню, якая б апекавалася народным мастацтвам і народнымі майстрамі. На абласным узроўні — ёсць: абласныя цэнтры народнай творчасці, якія апошнім часам вядуць досыць актыўную работу ў сваіх рэгіёнах і з якімі саюз падтрымлівае цесныя сувязі. А хто зоймецца нейкай значнай агульнарэспубліканскай акцыяй на гэтай ніве? Вось тут наш саюз якраз дарэчы. Дзве нацыянальныя выстаўкі сучаснага народнага мастацтва "Жывыя крыніцы" — заслуга нашага саюза, чатыры рэспубліканскія фестывалі-кірмашы рамёстваў "Вясновы букет" — таксама. Зразумела, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры, разам з якім і вырашаем многія задачы. Такія, напрыклад, як арганізацыя і правядзенне першых рэспубліканскіх свят-конкурсаў па асобных відах рамёстваў: саломапляценні — "Саламяны цуд", лозапляценні — "Лазовыя карункі", разьбярстве — "Дрэва жыцця", выцінанцы — "Ажурныя фантазіі", кавальстве — "Залатая падкова", ганчарстве — "Ганчарны круг".

Няма перапынкаў у правядзенні выставак: персанальных, групавых, тэматычных… Напрыканцы кожнага года — ужо згаданыя "Калядныя ўзоры", на якіх перш за ўсё дэманструюцца творы майстроў, прынятых у саюз нядаўна, а таксама справаздачныя калекцыі дзяржаўных стыпендыятаў. Шматлікія выстаўкі перыядычна ладзяцца ў розных кутках Беларусі.

Якім жа чынам яны ладзяцца, калі саюз не мае ні сродкаў, ні ўласнага транспарту? Кампраміс быў знойдзены: жадаеце мець выстаўку — прыязджайце на сваім транспарце, выбірайце ў фондах саюза ўсё, што падабаецца, і праз пэўны час вярніце на месца. Вельмі часта пасля такіх выставак нам паведамлялі, што многія, асабліва мясцовыя майстры, наведвалі іх як узорна-паказальныя, што дэманструюць і сапраўдныя традыцыі, і належны мастацкі густ. Так і ёсць: у моры базарнага кічу, безгустоўшчыны, антымастацтва саюз імкнецца "трымаць марку", быць арыенцірам для тых, хто горнецца да традыцый народнай мастацкай культуры.

Пакрысе наладжваюцца кантакты з замежжам, перш за ўсё — з бліжэйшымі суседзямі. Асабліва плённыя — з Расіяй. Расіяне высока цэняць работы нашых майстроў, бо там народныя промыслы ўжо даўно пастаўлены на паток, а беларусы не страцілі яшчэ навыкаў ручной мастацкай творчасці. Прынамсі, нядаўна Наталля Кананові́ч прывезла з прэстыжнага фестываля расійскіх промыслаў дыплом — "Лепшая ткачыха Расіі"!

Ці вось яшчэ. У 2003 годзе па шматлікіх просьбах замежных аматараў саломапляцення саюз наладзіў першы Міжнародны фестываль. Яно і не дзіва: наш нацыянальны феномен пад назвай "беларуская саломка" добра вядомы ў свеце. На фестываль з'ехалася некалькі дзясяткаў замежных майстроў. Цэлы тыдзень пятнаццаць нашых лепшых майстрых "падцягвалі" іх да свайго ўзроўню. Але калі на развітанне вырашылі наладзіць своеасаблівы конкурс паміж "настаўнікамі" і "вучнямі", апошнія дружна ўзнялі рукі ўгару: мы вашым майстрам не канкурэнты, такога ўзроўню мы ніколі не дасягнем.

Выяўленне, зберажэнне і развіццё адметнасці, непаўторнасці, унікальнасці найважнейшай галіны традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў — галоўная задача і несумненнае дасягненне нашага саюза за час яго, без перабольшання, падзвіжніцкай дзейнасці.

Трэба сказаць, дзяржава таксама дапамагае. Міністэрства культуры, даручыўшы нашаму саюзу падрыхтоўку і правядзенне якога-небудзь свята, конкурсу ці выстаўкі, забяспечвае і адпаведнае фінансаванне. Можна згадаць таксама сістэму прызначэння штогадовых дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры, пры гэтым не крыўдзяць і народных майстроў.

Спецыфічная ж праблема нашага саюза — адсутнасць уласнага памяшкання. Бракуе неабходных умоў для сустрэч з майстрамі, якія прыязджаюць з розных куткоў рэспублікі. Вельмі хочацца, каб лепшыя узоры сучаснага народнага мастацтва бачылі ўсе, каго цікавіць традыцыйная культура Беларусі, яе сённяшні стан і набыткі, таму патрэбная асобная зала. І тут зноў актуалізуецца праблема стварэння спецыялізаванага музея народнага мастацтва рэспубліканскага ўзроўню — пра гэта марыць саюз з часоў стварэння. Але задача гэтая, зразумела, можа быць вырашана толькі на дзяржаўным узроўні.



*Падчас фестывалю-кірмашу "Вясновы букет" у Лошыцкім парку.*

## З глыбінкі

# Фэст Паўлінак у Беразіне

У Беразіне адбыўся незвычайны фэст "Бярэзінская Паўлінка-2012", прысвечаны стагоддзю з даты напісання вядомай п'есы Янкі Купалы. Ініцыятарамі свята сталі раённая арганізацыя грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз жанчын" і гарадская бібліятэка. За гонар палічылі прадставіць на дзявочы фэст сваю Паўлінку аграгарадкі і жаночыя калектывы горада. Ад іх патрабавалася ўвасобіць уласнае бачанне вобраза Паўлінкі, прадэманстраваць не толькі знешняе хараство, але і артыстызм, гумар і спеўнасць. З усіх куточкаў бярэзінскай зямлі сабраліся 25 прыгажунь. Актавая зала раённай бібліятэкіператварылася ў сцэнічную пляцоўку для герояў неўміручай п'есы. Ацэньваў дзявочыя вартасці самы пацешны персанаж камедыі — пан Быкоўскі.

Кульмінацыйным момантам свята стаў парад Паўлінак у гарадскім скверы на чале з Быкоўскім і ў суправаджэнні вясёлых гарманістаў.

Усе ўдзельніцы конкурсу ўзнагароджаны дыпломамі і падарункамі. Ганаровы тытул "Бярэзінская Паўлінка-2012" атрымала вучаніца мясцовай гімназіі Віялета Ермаловіч, якая кранула журы і гледачоў пранікнёным выкананнем маналогу Паўлінкі і аказалася найбольш падобнай да Купалавай гераіні.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**Бярэзінскі раён**

# Сустрэліся з зямлячкай

У Доме культуры вёскі Ласіцк, што на Піншчыне, адбылася незабыўная сустрэча аматараў прыгожага мастацкага слова з зямлячкай, паэтэсай Надзеяй Парчук.

Як сапраўдная захавальніца духоўнай спадчыны нашага раёна, надта хораша і прыязна выказалася ў адрас паэтэсы начальнік аддзела культуры Пінскага райвыканкама Тамара Лебядзеўская. Разам з ёй на свята завітала і група самадзейных артыстаў "Маладзіцы" з Парахонскага ДК.

Абрадавай песняй "Троіца" і святочным караваем вітаў зямлячку фальклорны калектыў з Ладараж, а яго кіраўнік Тамара Паляйчук зрабіла экскурс у творчасць Надзеі Парчук. Яна шчодра перасыпала сваю прамову радкамі, строфамі і вершамі паэтэсы, у якіх вяскоўцы пазнавалі родныя маляўнічыя мясціны, сябе ці знаёмых палешукоў.

На літаратурным вечары гучала яшчэ многа добрых, цёплых слоў. Але, безумоўна, галоўным тут было слова самой Надзеі Мікалаеўны, якая шчодра дарыла землякам свае творы і дзялілася самымі запаветнымі думкамі.

Напрыканцы сустрэчы паэтэса перадала для школьнай, раённай і сельскай бібліятэк уласныя паэтычныя зборнікі з аўтографамі і кнігі калег, паэтаў і празаікаў Берасцейшчыны.

**Надзея ЛАДАРАЖАНКА,**
**Пінскі раён**

## Афарызм

*Шчасце можа быць поўным толькі тады,*
*калі ўсе вакол цябе адчуваюць сябе шчаслівымі.*

**Якуб КОЛАС**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Тацццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2753
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 26.07.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3006
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
12030
ISSN 0024-4686
9 770024 468001